

Сьнежань 2003 № 6/7

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Газэта Згуртаваньня беларусаў Канады | Publication of the Belarusan Canadian Alliance

December 2003 № 6/7

## Чытайце ў нумары:



## ЗВАРОТ

**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
да суродзічаў на Бацькаўшчыне і ў замежжы,
прыняты на 24-й сэсіі Рады БНР 25 кастрычніка 2003 г.

Паважаныя суайчыньнікі!

Беларуская дзяржава сёньня апынулася перад крытычным выбарам шляху ў будучыню. Кардынальным застаецца пытаньне прынцыпу дзяржаўнага будаўніцтва. Рада БНР цьвёрда перакананая, што беларускі народ здолее дамагчыся максымальнага эканамічнага і культурнага дабрабыту толькі ў сваёй дэмакратычнай, суверэннай і незалежнай дзяржаве. Гэтая ідэя закладзеная ў трэцяй Устаўной Грамаце Рады БНР, якою была абвешчаная незалежнасьць Беларусі 25 сакавіка 1918 году. Далейшая беларуская дзяржаўнасьць - Беларуская ССР і Рэспубліка Беларусь - была й застаецца ў вялікай меры пазбаўленай галоўнага фактару ў дзяржаўным будаўніцтве: свабоды эканамічнай дзейнасьці ды свабоды разьвіцьця нацыянальнай культуры.

На прынцыпе незалежнасьці й свабоды культурнага разьвіцьця пабудаваныя ўсе дэмакратычныя грамадзтвы сьвету. Гэтая ісьціна застаецца ў сіле на далейшыя часы і для беларускага дзяржаўнага разьвіцьця. Яе трэба ўсьведаміць сабе, намагацца ўводзіць яе ў практыку, у штодзённы быт. Да поўнага ўжыцьцёўленьня гэтай ісьціны доўгая дарога, але чым раней і чым шырэй укарэніцца яна ў беларускім грамадзтве, тым хутчэй дарога будзе пройдзеная, тым хутчэй наладзіцца нармальны быт і аптымальны дабрабыт.

А таму Рада БНР зьвяртаецца да ўсіх суродзічаў як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў замежжы з заклікам спрыяць як мага шырэйшаму ўсьведамленьню, што ніякія дзяржаўныя саюзы, пагатоў саюз з імпэрскай сваімі палітычнымі інстынктамі Расеяй, не прынясуць беларускаму народу выгодаў, наадварот - будуць уцягваць толькі ў чужыя міжнародныя афэры й канфлікты. Будаўнікі беларускай дзяржавы павінны трымацца дэвізу: жывём, супрацоўнічаем, гандлюем з усімі ў брацкай згодзе, але захоўваем незалежнасьць.

На пачатку мінулага стагодзьдзя прарок Беларускага Адраджэньня Янка Купала заклікаў "маладую Беларусь" заняць "свой пачэсны пасад між народамі". На пачатку новага стагодзьдзя Рада БНР кажа: ня можа быць пачэснага пасаду між народамі ў дзяржавы, у якой няма пачэснага месца незалежнасьці, свабодзе эканамічнай дзейнасьці й свабодзе нацыянальнай культуры. Быць на "пасадзе" між народамі значыць выконваць свой маральны й ганаровы абавязак - рабіць уклад у сусьветную скарбніцу культуры. А ці можа сёньня рабіць свой адпаведны ўклад у гэтую скарбніцу Беларусь, дзе ў загоне нацыянальная мова як цэнтральны элемэнт культуры? Вось - пытаньне веку. Пытаньне ўсім грамадзянам РБ, а найперш і найбольш моладзі, пра якую Янка Купала ў сваім вершы казаў: "На цябе, наша моладзь, надзея".

Беларуская моладзь! Шануй і беражы сваю нацыянальную мову, карыстайся ёю як мага шырэй. Бяры прыклад з моладзі іншых народаў. Імкніся пазнаваць праўдзівую гісторыю Краіны. Будзь вартая сваіх вялікіх продкаў-патрыётаў Бацькаўшчыны.

Рада ж БНР і надалей застаецца носьбітам ідэі незалежнасьці Беларусі й будзе рабіць усё магчымае дзеля ўжыцьцёўленьня гэтай ідэі.

Жыве Беларусь!

**Івонка СУРВІЛЛА,**
Старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі

## КАЛІ І ЯК НАРАДЗІЛАСЯ ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

Сёлета ў лістападзе месяцы мы адзначаем 55-ы год ад нараджэньня Згуртаваньня беларусаў у Канадзе. Арганізацыю залажылі ў Таронце, у памешканьні Нічыпара Сільвановіча.

Было цесна й нявыгадна ў малым пакоі, але ж у паваенным горадзе сапраўды не хапала так званай жылплошчы. Бальшыня прысутных - маладыя дзецюкі, нежанатыя


*Першая маёмасьць ЗБК - дом на вуліцы Дандас, 1000.*

яшчэ, вэтэраны з Другога польскага корпусу ген. Андэрса, Восьмай брытанскай арміі - прыбылі ў гэтую нязнаную ім краіну, каб працаваць па кантрактах на фэрмах або на высечцы лясоў.

Прозьвішчы іх павінны захавацца ў гісторыі беларусаў Канады. Вось яны:

К.Акула, Б.Аранскі, Хв.Басьлык, Я.Вялёнда, А.Корбат, М.Кулеш, Ул.Лешык, М.Пашкевіч, Я.Пітушка, Ц.Салановіч, Н.Сільвановіч, А.Шастаковіч.

У часовую Ўправу выбралі траіх: К.Акулу - старшынём, Я.Пітушку - на скарбніка, М.Пашкевіча - за сакратара.

Перад новай нацыянальнай беларускай арганізацыяй адкрылася было шырачэзнае поле працы асьветнага, дабрачыннага, грамадзкага, палітычнага і звычайнага прапагандовага інфармацыйнага характару, таму што ўрад Канады й ягоныя грамадзяне пра Беларусь амаль нічога тады ня ведалі.

Дзе ж і калі быў пачатак арганізацыйнага працэсу?

Зірнем у Англію. Пасьля Другой сусьветнай вайны там апынулася бальшыня беларусаў, што ваявалі ў Італіі ў складзе Восьмай брытанскай арміі. Чэрчыль некалі абяцаў нам, што пасьля вайны жадаючым дасьць брытанскае грамадзянства і працу.

Верыць яму? Навокал - абурэньне ды самагубства шматлікіх палякаў, бацькаўшчыну якіх праглынуў маскоўскі дыктатар у Ялце. Удалося гэта яму пры помачы хворага прэзыдэнта Рузвэльта, што давяраў "анкл Джо" Сталіну.

Нас, ваенных вэтэранаў беларусаў, што змагаліся ў абодвух польскіх корпусах, цяпер "радзіма кліча". Пастка з ГУЛАГу, ад Белага да Чорнага мора й паўднёвай Азіі.

Трэба арганізавацца. Віктар Сяньневіч зь Вінцуком Жук-Грышкевічам, пасьля нялёгкіх намаганьняў, апэлявалі ў лёнданскім штабе да генэрала Капаньскага, каб атрымаць на гэта дазвол.

Памятаю, што "дазвол жаўнерам польскіх збройных сілаў, беларускай нацыянальнасьці на ўтварэньне арганізацыі самапомачы" быў чытаны ўва ўсіх аддзелах.

Гэтак паўстала Згуртаваньне беларусаў Вялікай Брытаніі. У Галоўную ўправу яго на першым зьезьдзе ў Лёндане выбралі адданых Беларусі патрыётаў, колішніх ахвотнікаў із школы камандзераў Беларускай Краёвай Абароны ў Менску. Мне як сябру Галоўнай управы ЗБВБ даручылі арганізаваць беларусаў у Канадзе, у якую я прыехаў 10-га чэрвеня 1947 году.


*Сябры ЗБК Аляксей Грыцук, Соня Залеская і Ленька Карыба, Таронта, пач. 50-х гг.*

Лічу сваім абавязкам прызнацца, што за мой дазвол на прыезд сюды я ўдзячны аднаму разумнаму ўкраінцу, які адрозьніваў беларусаў ад расейцаў дый наагул ведаў пра Беларусь, яе месца ў Эўропе й яе культуру. Рэч у тым, што канадыйская камісія, якая працавала пры наборы вэтэранаў польскае арміі на двухгадовую працу на фэрмах у Канадзе і разьмяшчалася недалёка Чэстару каля Лівэрпуля, мела, відаць, у той час загад, каб ня браць расейцаў.

Мэдыкі камісіі правяралі самае галоўнае: тваё здароўе, ці здольны да цяжкой працы. Я цешыўся тады сваёй маладосьцю й добрым здароўем. Калі ж пасьля лекара я не атрымаў пажаданага білета, калі мне сказалі пачакаць за дзьвярыма і я чакаў больш за паўгадзіны, ніяк ня мог зразумець, што сталася. Чаму іншых так шмат ужо набралі, а мяне затрымалі.

Прычына высьветлілася толькі праз пару гадоў, калі ў Ашаве, што побач Таронта над возерам Антарыё, я сустрэў чалавека з таго самага лягеру ў Чэстары каля Лівэрпуля.

Ён расказаў даволі падрабязна пра тое, як у 1945 годзе шыфравальнік савецкай амбасады ў Атаве Ігар Гузенка перадаў Каралеўскай канадыйскай коннай паліцыі дакумэнты, якія выкрывалі вялізнае, добра ўладжанае і актыўнае гнязд шпіёнаў, што працавалі перадусім на падрыў бясьпекі ЗША, Вялікай Брытаніі й Канады. Выбухнуў сусьветны скандал. Самога Ігара Гузенку ўзялі, разам зь ягонай сям'ёй, пад ахову. На падставе гэтай гісторыі ў Галівудзе зьнялі фільм, што спрычынілася да пахаладаньня стасункаў між Масквой і заходнімі ваеннымі хаўрусьнікамі. Арыштавалі й аднаго чальца канадыйскага парлямэнту, савецкага шпіёна.

*Працяг на стар. 6*

чарада падзей

# САРАКАВІНЫ ПА ВАСІЛЮ БЫКАВУ

Са сьмерцю Васіля Ўладзіміравіча Быкава Беларусь згубіла апостала, але хочацца верыць, што набыла Анёла-ахоўніка. Пра гэта гаварылі таронцкія беларусы, якія сабраліся 31 ліпеня 2003 г. у сваім рэлігійна-грамадзкім цэнтры, каб ушанаваць памяць нашага выдатнага сучасьніка і земляка.

Пра В.Быкава распавядаў патрыярх беларускага руху ў Канадзе, пісьменьнік Кастусь Акула. Доктар Руслан Качаткоў падзяліўся ўспамінамі пра апошнюю сустрэчу з Васілём Уладзіміравічам Быкавым і Барысам Уладзіміравічам Кітам на Вялікдзень у Франкфурце-на Майне, у 2002 годзе. Спадарыня Ірына Варабей прачытала вытрымкі з апавяданьняў В.Быкава. А разам усе прысутныя памаліліся за яго душу і пашкадавалі ўсіх нас, каму цяпер не хапае прысутнасьці на гэтай Зямлі глыбокага і тонкага пісьменьніка, грамадзкага дзеяча і выдатнай яркай асобы - Васіля Ўладзіміравіча Быкава.

Руслан КАЧАТКОЎ

(Працяг тэмы гл. на стар. 4)

# ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА

Штогадовая паездка да беларускага памятнага Крыжа, якая адбылася 26 кастрычніка, сабрала шмат беларусаў з Таронта, Бэры і Ніягары. Ініцыятарамі пілігрымкі былі старшыня ККБК, доктар Руслан Качаткоў і старшыня парафіяльнай рады БАПЦ Ігар Цітавец.

На пачатку слова мела Раіса Жук-Грышкевіч, якая калісьці з мужам Вінцуком Жук-Грышкевічам была ініцыятарам пабудовы Крыжа. Спадарыня Раіса прачытала верш Натальлі Арсеньневай "Крыж", а таксама распавяла пра гісторыю стварэньня гэтага помніка. Ён быў пастаўлены, каб ушанаваць тысячагодзьдзе хрысьціянства ў Беларусі, а ўрачыстае адкрыцьцё і асьвячэньне адбылося 5 верасьня 1988 г., падчас 18-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Месца пабудовы было абранае невыпадкова. Менавіта тут, у сьвятыні пакутнікаў *"Martyrs' Shrine"*, што непадалёк ад Мідлэнду, шматлікія хрысьціянскія народы, якія жывуць у Канадзе, паставілі помнікі сваім сьвятым, заступнікам, пакутнікам, манумэнты ў гонар важнейшых нацыянальных падзеяў. У касьцёле прошчы можна знайсьці малітоўныя карткі на мовах усіх гэтых народаў, у тым ліку, вядома, і на беларускай.




На беларускім сьвятым месцы ў прошчы побач з Эўфрасіньнеўскім Крыжам ёсьць і помнік ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі. Ён быў асьвячаны 1 чэрвеня 1996 г. Абодва беларускія помнікі стаяць на ўзьлеску каля сасновага бору, адкуль адкрываюцца цудоўныя краявіды Мідлэнду. Сёлета нам пашанцавала з надвор'ем: у Таронце ўвесь дзень ліў дождж, а ў *"Martyrs' Shrine"* зьзяла сонца, ствараючы выдатны восеньскі настрой.

Пасьля прамоваў і агульнай малітвы пачалася й неафіцыйная частка - традыцыйнае застольле. Як сказаў Ігар Шарамет, "ніхто нічога ня браў, а ежу няма куды класьці". Было вельмі добра на душы, што мы зрабілі гэтае паломніцтва да Крыжа, памянулі нашых продкаў на Дзяды, а таксама проста прыемна правялі дзень у прыгожай мясьціне, у таварыстве сяброў.

Наступная пілігрымка да нашага Крыжа адбудзецца не раней вясны, але калі хто захоча наведаць яго самастойна, можа адшукаць адрас сьвятыні на сайце http://www.jesuits.ca/martyrs-shrine/. Мы перадрукоўваем з гэтай вэб-старонкі карту. Падарожжа займае каля гадзіны ў кожны бок, а настрою і ўспамінаў хапае на ўвесь тыдзень.

Піліп ТАНАНКА

# ЛЕТНІЯ ФЭСТЫВАЛІ



Даўнавата прайшло ўжо лета.

Як вядома, гэта - пара вакацыяў: нехта зь беларусаў акупаваў "Слуцак", нехта паехаў наведаць Беларусь.

Нашыя ўлюбёныя "Яваровы людзі" таксама часу не марнавалі, а ўзялі ўдзел у двух фэстывалях.

23 чэрвеня наш фольк-гурт зьбіраў бурныя воплескі ў горадзе Кітчэнэры, на штогоднім этнічным фэстывалі. Надзвычай цёпла прымала іх мясцовая публіка, бо сьпеўная праграма "Яваровых людзей" была ўпрыгожана яшчэ і цудоўнымі танцамі ў выкананьні Паўліны Ціханоўскай.

27 жніўня "Яваровы людзі" прадстаўлялі беларускую культуру на *CNE* - Канадыйскай нацыянальнай выставе ў Таронце, дзе праходзіў Дзень славянскай культуры. З імпрэзаў таго ж "славянскага дня" можна прыгадаць яшчэ адну прыемную падзею - дэбют нашай сяброўкі, спадарыні Іны Сянько ў якасьці мадэлі на *"Fashion Show"*. Маладая польская мадэльерка, выпускніца *"Academy of Design and Technology"* Дарота Алімовска запрасіла нашую прыгажуню Іну паказаць калекцыю сукенак з сваёй дыплёмнай працы.



Далейшага посьпеху ўсім нашым выступоўцам!

Даеш беларускія сьпевы і беларускую прыгажосьць!

Цётка АЛЕКСАНДРЫНА

# СКАЗ ПРА ЧАРОЎНУЮ НОЧКУ

Усё было як заўсёды. Загарадны маёнтак парафіі БАПЦ "Слуцак" быў перапоўнены (з чым ужо ўсе звыкліся), і ў дадатак стаялі палаткі каля сядзібы й возера. Пасьля шостай гадзіны вечара пачалася падрыхтоўка да сьвята. Кожны ведаў, што яму рабіць, бо ночка падыходзіла не звычайная - купальская.

Хлопцы вырашылі паехаць па дровы на мясцовы сьметнік, бо ў купальскую ноч трэба спаліць тое, што павінна згарэць (а пакінуць, адпаведна, толькі тое, што павінна расьці). Але вось было зьдзіўленьня і ляку, калі на сьметніку яны ўбачылі... трох



мядзьведзяў - літаральна за некалькі крокаў ад патрэбных дроваў. Было вырашана, што мядзьведзі зьядуць самага нямоглага - Ігара Шарамета (ён накульгваў на правую нагу пасьля футбольнага матчу паміж "Слуцкімі" і "Прыазёрнымі", які скончыўся зь вялікай перавагай на карысьць "Слуцкіх"). Асьцярожна ідучы ў напрамку дроваў, хлопцы спачатку раз-пораз абарочваліся на медзьвядзёў, але ўжо праз дзесяць хвілін працы пра касалапых пасьпяхова забыліся. І толькі канадыйцы, якія прыехалі паглядзець на "гаспадароў сьметніцы", зь цікаўнасьцю назіралі, як людзі й мядзьведзі займаліся кожны сваёй справай, не перашкаджаючы адно аднаму і не зьвяртаючы адзін на аднаго ўвагі...

Аб адзінаццатай гадзіне на "Слуцку" распачалося Купальле - нашае цудоўнае, нашае ўнікальнае Сьвята, якое засталося ў беларусаў з часоў паганства амаль у нязьмененым выглядзе. Таму на слуцкім купальлі прысутнічалі і прыгажуня-Купалінка (потым яе, як звычайна, скралі "цёмныя сілы"), і адважны князь-Купаліш із сваёю вернаю дружынай, які выбавіў прыгажуню ад нячысьцікаў і вярнуў яе на сьвята. Была й лялька-"вядзьмарка" - яна сымбалізавала ўсе бядоты і няшчасьці, якія надарыліся за гэты год, і таму злую чараўніцу бязьлітасна спалілі ў сакральным купальскім вогнішчы...



Пасьля сьпеваў і карагодаў (самым папулярным зь якіх ізноў была "Падушачка") усе накіраваліся да возера, каб ачысьціцца ад кепскіх учынкаў, зробленых за год, а таксама ад хваробаў і ўсялякае немачы. Дзяўчаты паўтыркалі ў свае вянкі сьвечкі, запалілі іх і пусьцілі на ваду. Панаваў цудоўны настрой - здавалася, сама прырода адгукнулася нашым сьпевам і дадала веры ў чароўнасьць гэтае начы. Было цёпла, бязьветрана, на небе зьзялі мільёны зорак. Гукі песень несьліся далёка, далёка па азёрнай люстэркавай роўнядзі і, можа, дзесьці на беразе Нёмана ці Прыпяці зьліваліся з гукамі песьняў, што сьпявалі нашыя суродзічы на Бацькаўшчыне.

Узыход сонца быў такі ж казачны, як і сама ночка. Сустрэўшы сонца, мы вырашылі ня класьціся спаць, а адразу ехаць у Таронта, каб захаваць усе добрыя ўспаміны аб купальскай начы.

"Князь-КУПАЛІШ"

## Да ўвагі ўсіх, хто хоча стаць сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады!

Вось ужо 55 гадоў ЗБК аб'ядноўвае нашых суайчыньнікаў у Канадзе. Народжаная ў паваенным Таронце, арганізацыя была й застаецца ўтульным домам для беларусаў усіх пакаленьняў. Разам зь землякамі лягчэй пераадольваюцца непазьбежныя цяжкасьці іміграцкага жыцьця, хутчэй вырашаюцца побытавыя праблемы, весялей праходзяць сьвяты. Усе сябры ЗБК атрымліваюць газэту "Беларускае слова" і паведамленьні аб імпрэзах, якія ладзяцца ў Згуртаваньні.

Калі вы, паважаныя сябры, вырашылі далучыцца да нашай арганізацыі, калі ласка, складайце пісьмовыя альбо вусныя заявы на імя Ґалоўнай управы ЗБК па адрасе: *524 St.Clarens Ave., Toronto, ON, M6H 3W7*. Тут вы зможаце атрымаць статут ЗБК. Галоўная ўправа разгледзіць вашую заяву на чарговым паседжаньні.

чарада падзей

# ГЛУМНА, ШУМНА І НЯ СУМНА

Сёлетні "Восеньскі баль" - традыцыйна найбуйнейшае пасьля навагодняй вечарыны сьвята таронцкіх беларусаў - стаў ахвярай... уласнае папулярнасьці. 8 лістапада на вечарыну ў Беларускі грамадзка-рэлігійны цэнтар сабралося каля 150 чалавек. Не хапала месцаў, каб усіх рассадзіць, дый смачная вячэра скончылася надзіва рана... Але большасьць гасьцёў пагадзілася з прымаўкай "дзе цесна - там пацешна" і не ўкрыўдавала на арганізатараў за пэўныя нязручнасьці.

Прыемна было, што на "Восеньскім балі" выступілі ня толькі "Яваровы людзі" (якіх ізноў паменела - вучоба і праца вырвалі з калектыву некалькіх выканаўцаў), але і выдатныя новыя артысты.

Руслан Качаткоў прасьпяваў некалькі сваіх песьняў, адну зь якіх - "Восеньскі баль" - ён напісаў адмыслова да вечарыны. Упершыню ў беларускім цэнтры выступіла былая салістка хору Цітовіча, а цяпер жыхарка Таронта Сьвятлана Літвінава ў пары з баяністам-віртуозам Аляксандрам Севасьцьянам. Пасьля сямі гадоў жыцьця ў Канадзе нарэшце знайшлі дарогу да землякоў былыя



менчукі Жана і Ўладзімер Шалкевічы - яны па-майстэрску выканалі вальс і танга і распавялі пра школу бальных танцаў, якую стварылі ў Таронце.Таксама ўпершыню на вечарыне выкарыстоўвалася новае абсталяваньне для дыскатэкі - кожны мог бачыць сябе на вялізным экране, падыхаць сапраўдным сцэнічным "туманам" і нават паспрабаваць свае сілы ў караоке. За танцамі і сьпевамі зь цікавасьцю назіралі новыя жыхары беларускага цэнтру - дзьве вялікія лялькі ў нацыянальных строях, якіх рупліва змайстравала нашая найлепшая майстрыха Ірына Шарамет.

Як заўсёды, мужчыны змагаліся за тытул "Беларускага асілка" - падымалі (і ўрэшце раскалолі) велізарны канадыйскі гарбуз.

Вечарына мела ўсе шанцы перарасьці ў ранішнік, але тут паказаў сябе малайцом стол для апаратуры - своечасова (гадзіне а трэцяй) падагнуў калені і тым паклаў канец забаве. Трохі прытомленыя, але зусім ня сонныя беларусы пацягнуліся дадому, у думках ужо марачы, якім будзе "Восеньскі баль - 2004".

Агата ГАРБУЗОВА

# ПАСЬЛЯ БАЛЮ

## (амаль што паводле Л.Талстога)

Панядзелак і ў Канадзе цяжкі дзень. Відаць, гэта - паўсюдная зьява. *"Human nature"*, кажуць канадыйцы.

Але сёньня я кручуся на сваёй студэнцкай лаве ў школе ангельскай мовы часьцей за маіх аднаклясьнікаў. Уздыхаю і раблю памылак больш, чым звычайна: у галаве кружэньне, у розуме замяшаньне... Мая суседка - турчанка - пацяшаецца зь мяне і ціхенька хіхікае (бо ў клясе мае быць цішыня: мы робім практыкаваньне-тэст у абмежаваным часе, каб "адчуваць сябе пад стрэсам, як і на сапраўдным экзамэне").

Яна ўжо ведае, што я - беларуска і што беларусы нечым адрозьніваюцца ад астатніх славянаў. І што гэтыя паўночныя дзіўнаватыя (калі не сказаць горш) людзі любяць зіму і сьнег, ходзяць у грыбы ў лес, як у супэрмаркет, у клясе сядаюць бліжэй да адчыненага вакна, а кпінымі жарты з настаўнікаў строяць з сур'ёзным тварам. Кожнага разу, як я выходжу з-за стала, ёй даводзіцца падсоўваць сваё крэсла, то аднойчы яна й кажа:

- Мне варта браць падатак за транзыт, як на Басфоры... Ты ведаеш Басфор? Кожны хоча валодаць гэтым пралівам, каб зьбіраць грошы за транзыт.

Я ўсьміхаюся і выстаўляю вялікі палец на знак таго, што жарт удаўся і я яго прымаю.

- Праз маю краіну таксама ідуць важныя гандлёвыя шляхі. Прыкладам, гоняць нафту па трубах зь Сібіры на Захад...

- Дык гэта ж пастаянныя грошы!..

- Пастаянныя войны! - перабівае я яе, усплёскваючы рукамі. - Кожны хоча валодаць гэтым кавалкам зямлі на дурніцу, каб не плаціць падаткаў за транзыт!

- "Раша"? - сьмяецца яна і выстаўляе вялікі палец.

...Сёньня, калі чарговы раз я заблытваюся ў сваіх паперах і, крэкчучы, уздыхаю, яна паказвае мне вялікі палец і глядзіць насьмешліва-запытальна.

- У суботу ў маёй "кам'юніці" была вечарына...

- У вас бываюць вечарыны?

- Ага. "Восеньскі баль".

- Здорава! У вас вялікая кам'юніці? Колькі вас было?

- 150 чалавек. Як ніколі. Ня ведалі, куды людзей садзіць.

- О! Відаць, крутая была вечарына! - хіхікае яна.

- Ага... Усё б нічога, але я вярнулася дамоў а чацьвертай раніцы. А а сёмай мяне ўжо пабудзіў тэлефонны званок... - (я ня стала ёй тлумачыць, як мой сябра Кастусь, пабачыўшы, што "усе верабейкі ўжо прачнуліся і нешта дзяўбуць", вырашыў, што і я ўжо на нагах).

- Ого! Вы так доўга гуляеце?

- Ведаеш, як калі. Гэтым разам было весела... - (менавіта апоўначы Надзейцы раптам закарцела "разьвесяліць" мяне... і апошняя электрычка мэтро мяне не дачакалася. А калі б той стол з музычнай апаратурай, урэшце, не зваліўся а трэцяй гадзіне - не дачакалася б, відаць, і першая.) - А потым мы, як заўсёды, прыбіраем залю, каб з раніцы ўсё было чыста да службы ў царкве.

- О-оў... - усьмешка сыходзіць зь яе твару, і яна ўтаропліваецца ў паперы. Цяпер яна будзе ведаць нават, што беларусы - прыстойныя артадоксы.

Але, таўчэ мяне ў бок:

- А што вы там рабілі, на вечарыне - танчылі? - глядзіць хітравата.



- Ня толькі. Быў канцэрт, канфэрансье...

- Артысты?!

- Так. Былі й прафэсійныя артысты. І нашыя сябры - таленавітыя, таксама кожнага разу выступаюць. У нас свой фолькгурт ёсьць, і кожны, хто хоча, сьпявае, вершы чытае. Яшчэ конкурсамі рознымі забаўляемся...

- Якімі?

- "Беларуская прыгажуня", "Самая добрая жанчына"...

- Ты што-небудзь выйграла?

- Не. Мой сын выйграў другі прыз як "Беларускі асілак".

- А што ён рабіў? Дужаўся?

- Гарбуза вялізнага падымаў.

- *Wow*... Цікава ў вас... - і мы зноў пераглядаемся ў паперы.

Праз хвіліну таўчэ мяне ў бок яшчэ раз:

- А вы п'яце на вечарыне? - ніяк не сунімаецца яна. (Перад вачыма ўсплывае вобраз мілай сяброўкі Надзі...)

- То выпіваем. Вядома ж... - які ўжо раз на сёньня ўздыхаю я.

- А што вы п'яце? Я чула, расейцы любяць водку. Але ж ты - не расейка.

- Любяць водку і ў нас. Мужыкі збольш. А жанчыны п'юць віно. Я асабіста водку не люблю.

- А колькі ты выпіла? Віна?

- А-а... у-у... - я замаруджваюся...

- Ну, колькі шклянак? - ёй здаецца, яна жартуе. А мне, ці дасьцё веры, ніколі ў галаву не прыходзіла лічыць шклянкі (тым больш, іхнымі)... Уваччу стаіць тая Надзькіна пузатая, памерам з добры гляк, бутля...

Раблю спробу схавацца за тварам прыстойнага артадокса...

- Ты што, ня памятаеш, колькі шклянак выпіла?! - рагоча яна.

Вяртаецца да сваіх папераў і, ня гледзячы на мяне, выстаўляе мне вялікі палец.

Праз хвіліну зноў таўчэ ў бок:

- А вы закусваеце? Ну, ясьцё на вечарыне?

- Так, у нас вячэра была.

- А што?

- Беларуская кухня.

- Праўда? А што менавіта? Што ў вас самае любімае, ваша нацыянальнае?

Зноў я зьбянтэжаная:

- Ты б ня стала гэтага есьці...

- Сьвініна!

- Ну, ты ведаеш...

- А што, мяса як мяса, я спрабавала...

- Але я маю на ўвазе тлустую частку, белую. Ды ў нас іншая парода сьвіньняў, і вырошчваюць па-іншаму. Тут такога няма.

- А, ведаю: *ham*.

- Хутчэй: *bacon*. Белая тлустая частка. Вось такой таўшчыні.

- Але... - задумваецца. - Але як вы яго ясьцё?... - бурчыць з кепска прыхаванай агідай.

- Мы прывыклі, - ўздыхаю. - Гэта традыцыйна. Ведаеш, яно добра захоўваецца ў нашым клімаце. І ўзімку яно дае нам цяпло, разумееш, саграе.

Яна ківае галавой, губляючы давер да мяне... Але цікаўнасьць перамагае агіду:

- А як вы яго ясьцё? Асаблівыя стравы рыхтуеце? Варыце неяк, тушыце?

(Ха! Рацэптаў хоча набыць?)

- Не-а. Толькі солім.

- Што?! - яе твар перакошваецца. - Што?! Вы ясьце гэта с-ы-р-ы-м-?!

Я моўчкі ківаю галавой. Яе твар зморшчваецца, вочы слупянеюць, язык высоўваецца на ўсю даўжыню, як быццам на яго трапілі французкая жабіна лытка з кітайскім вусенем разам, і яна ня ведае, як іх пазбавіцца...

- Разумееш, мы прывыклі, - паціскаю я плячыма. - Зь дзяцінства. У нас калі немаўлятка падрастае, калі яго пычынаюць прыкармліваць - месяцаў у 5-6, ага? вось, - яму адразу даюць у руку сала. ...І яно так ...сабе ...смокча...

- *Poor!!! children!!!* - усплёсквае яна рукамі і адварочваецца ад мяне да сваіх папераў.

...Праз колькі хвілін нашыя позіркі сустракаюцца. У яе вачах ізноў хаваюцца хітрынкі.

- *Poor children*... - бурчыць яна, круцячы галавой.

- *Really poor*... - падтакваю я ёй, і мы схіляемся над паперамі, выстаўляючы адна адной вялікія пальцы.

Ірына ВАРАБЕЙ

# ШТО ЧУВАЦЬ У БЕЛАРУСІ

Кампанія "Белавія" пачала эксплюатацыю першага самалёта "Boeing 737/500". Першы рэйс быў зроблены па маршруце "Менск - Франкфурт-на-Майне".

У Менску адчынілася аддзяленьне амбасады Швэцыі ў Рэспубліцы Беларусь. Яго ўзначаліў саветнік Ян Шадэк.

Аляксандар Лукашэнка павіншаваў беларускі народ з гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі. З усіх постсавецкіх рэспублік толькі ў Беларусі 7 лістапада сьвяткуецца як Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. У Расеі гэта таксама сьвята, але называецца яно "Днём згоды і прымірэньня".

Віцебскія вэтэраны выступілі супраць таго, каб надаць абласной бібліятэцы імя Васіля Быкава. Напярэдадні 7 лістапада абласная газэта "Віцебскі рабочы" надрукавала шэраг "лістоў пратэсту", аўтары якіх - людзі сталага ўзросту - абураюцца прапановай перайменаваньня бібліятэкі. Да гэтага часу віцебская абласная бібліятэка носіць імя Леніна.

З 22 па 28 лістапада ў Менску прайшоў міжнародны кінафэстываль "Лістапад-2003". Кінафорум праводзіўся ўжо ў 10-ы раз.

10-20 лістапада ў Менску адбыўся першы міжнародны конкурс выканаўцаў на струнных смычковых інструмэнтах імя Міхаіла Ельскага. 115 маладых музыкаў зь Беларусі, Кітаю, Малдовы, Нямеччыны, Расеі, Украіны змагаліся за перамогу ў двух намінацыях.

13 лістапада ў гарадзкім аддзеле міліцыі г.Менску судзілі чатырох актывістаў "Маладога фронту". Хлопцы і дзяўчаты раздавалі ўлёткі на канцэрце N.R.M., запрашаючы прыйсьці на вулічную акцыю 24 лістапада. За гэта яны былі пакараныя вялізнымі штрафамі альбо адміністрацыйным арыштам.

Пры канцы лістапада ў мястэчку Зэльва на тэрыторыі Траецкай царквы быў адкрыты помнік Ларысе Геніюш работы скульптара Міхася Інькова. Помнік збудаваны на дабрачынныя ахвяраваньні грамадзян Беларусі й ЗША.

Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову, адпаведна зь якой бюджэт пражытачнага мінімуму цяпер складае 108 790 рублёў (гэта каля 67 канадыйскіх даляраў). Для параўнаньня: за двухпакаёвую кватэру ў Менску ўзімку даводзіцца плаціць каля васьмідзесяці тысяч рублёў у месяц.

У Інтэрнеце зьявіўся афіцыйны даведачны сайт пра Менск: http://www.info.minsk.by

10-гадовая Вольга Сацюк з Кобрына заняла 4-е месца на першым дзіцячым конкурсе песьні "Эўрабачаньне-2003", які прайшоў у Капэнгагене 15 лістапада. Вольга прасьпявала песьню, напісаную 16-гадовай беларускай Кацярынай Ліпоўскай.

Колькасьць нелегальных мігрантаў на Віцебшчыне апошнім часам павялічылася ўдвая. Сярод нелегалаў - грамадзяне Віетнаму, Індыі, Пакістану, Іраку, Аўганістану (мэта якіх - трапіць праз Беларусь у краіны Эўразьвязу), а таксама жыхары Закаўказьзя і Сярэдняй Азіі (гэтыя, як правіла, затрымліваюцца ў краіне надоўга). Дзейнасьць нелегальных мігрантаў вельмі часта зьвязаная з крыміналам.

У кастрычніку 2003 г. жанчыны складалі 64,3% ад агульнай колькасьці беспрацоўных у Беларусі. Жаночае беспрацоўе павялічылася на 2,1% у параўнаньні зь мінулым годам.

Штангістка зь Беларусі Ганна Бачушка заваявала залаты мэдаль на чэмпіянаце сьвету па цяжкай атлетыцы, які прайшоў у Ванкувэры ў лістападзе. Ганна падняла ў рыўку 113,5 кг - гэта новы сусьветны рэкорд!

12 лістапада ў Менску прайшла прэзэнтацыя кнігі Паўла Шарамета і Сьвятланы Калінкінай "Случайный президент", прысьвечанай А.Лукашэнку. Поўны тэкст кнігі можна знайсьці на сайце http://charter97.org/bel/news

(Паводле матэрыялаў беларускага Інтэрнэту.)




Шэсьце на "Дзяды" ў Менску 2-га лістапада 2003 г.
Photo. By Media.net

requiem aeternam

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ

## 22 чэрвеня 2003 г. ад нас пайшоў Васіль Быкаў

## Словы разьвітаньня

А 8-ай гадзіне 10 хвілін вечара Менскага часу сёньня памёр Васіль Быкаў. Паведаміў мяне пра гэта з Прагі Сяргей Навумчык, гадзіну пасьля сьмерці.

Хаця кожны з нас ведаў, што Быкаў цяжка хворы і можа адысьці ў любы момант, вестка была страшэнна балючым ударам. Каб неяк ачуняць, я зазваніла Зіне Гімпелевіч. Ведала, што яна зразумее маё пачуцьцё гора - яна таксама моцна перажывала хваробу Быкава, моцна яго любіла і паважала.

Некалькі сэкундаў Зіна маўчала. Як заўсёды, аднак, яна неўзабаве знайшла словы суцяшэньня.

Пакуль я званіла старшыні ЗБК доктару Мурзёнку, пачуўся званок з Прагі. Хацелі, каб я сказала пару слоў пра Быкава. Ня выйшла ў мяне гэта... Ці лепш кажучы, выйшла яно так банальна ў параўнаньні да майго болю.

Пазнаёмілася я з Васілём Быкавым у 2000 годзе ў Празе. Праўда, гэта быў другі раз, калі я яго бачыла. Першы раз мы былі апынуліся разам перад беларускім тэлебачаньнем на кангрэсе "Сьвет пасьля Чарнобылю" ў Менску, у 1992 годзе. Але да гутаркі тады не дайшло.

Івонка Сурвілла і Васіль Быкаў. Прага, сакавік 2003

У Празе нас чакала цэлая сэрыя супольных захадаў на карысьць Беларусі. Былі мы разам і ў Міністэрстве замежных справаў, і ў Прэзыдэнцкім Палацы, разам давалі прэс-канфэрэнцыю, разам вячэралі з чэскімі палітыкамі, разам садзілі дрэва дэмакратыі для Беларусі.

Нашая праская грамада пасяліла Васіля Быкава з жонкай Ірэнай у тым самым гатэлі, дзе й мяне, толькі на наступным паверсе. А паколькі я была адна, цудоўны чалавек Быкаў клапаціўся кожную раніцу, каб я не памерла з голаду. Каля 9-й званіў тэлефон і чуўся ветлівы голас пісьменьніка, які запрашаў мяне на смачную каву, прыгатаваную спадарыняй Ірэнай.

І вось так мы кожную раніцу мелі магчымасьць ня толькі разам паснедаць, але й нагаварыцца... Рэшту дня праводзілі разам, але ўжо спаўняючы свае афіцыйныя абавязкі.

Другі раз мы пабачыліся зноў у Празе ў сакавіку гэтага году. Едучы ў Прагу, я яшчэ ня ведала, што Васіль Быкаў хворы. І толькі калі заехала, мне сказалі, што пісьменьнік ідзе ў шпіталь. Гэтым разам мы толькі бачыліся на сьвяткаваньні 25 Сакавіка, якое



Васіль Быкаў з Івонкай Сурвіллай і Сяргеем Навумчыкам у сваім кабінэце ў Празе.

адбылося ў суботу, 22-га. І зноў пару гадзін у нядзелю, 23-га, калі мы з карэспандэнтам Радыё "Свабода" Сяргеем Навумчыкам адведалі спадарства Быкавых у іхным памяшканьні і ўсе разам паабедалі ў кітайскім рэстаране.

Пры ўсіх спатканьнях спадар Васіль быў надзвычай мілым і цікавым субяседнікам. Усё, што ён гаварыў, было поўнае сэнсу, цікавае, хаця ён і меў тэндэнцыю бачыць жыцьцё ў даволі цёмных колерах. Але і сам Быкаў, і спадарыня Ірэнка вельмі асьцерагаліся, каб не паказаць адзін аднаму свае заклапочанасьці ягоным станам здароўя і цяжкімі ўмовамі жыцьця ў чужой, хаця й гасьціннай краіне. Усё рабілі таксама, каб і мы сябе адчувалі ў іх міла і прыемна.

Моцна ўдзячная лёсу, што мне дазволіў пазнаць Васіля Быкава ня толькі як выдатнага пісьменьніка - творы яго муж ня раз з захапленьнем чытаў голасна ў нашай хаце задоўга перад маім спатканьнем зь пісьменьнікам, - але і як цудоўнага, поўнага дабрыні і ветлівасьці чалавека, выдатнага ўвасабленьня найлепшых якасьцяў нашага народу. Вечная Вам памяць, дарагі спадар Васіль! Спадарыні Ірэне хачу выказаць маё самае шчырае і глыбокае спачуваньне. Ведаю, якой цяжкой Вам будзе адсутнасьць так дарагога чалавека. Думкамі буду з Вамі.

Івонка СУРВІЛЛА
22 чэрвеня 2003 г.

Рыгор БАРАДУЛІН

## Ліст у Хельсынкі да Васіля Быкава

*Дзе яна,*
*айчына душы?*
*Дзе яна,*
*радзіма спакою?*
*Мы на гэтай зямлі*
*прыбышы,*
*Што пайшлі*
*за ракой гаманкою?*

*За ракою жыцьця,*
*што ўзяла*
*Свой пачатак*
*ад Млечнага Шляху.*
*З тлену мы,*
*а душа са сьвятла.*
*І далучыцца цела*
*да праху.*

*І застыгнуць*
*грахоў ледзяшы*
*Пад нябеснай страхой*
*некранута.*
*Дзе яна,*
*айчына душы?*
*Не адкажа*
*ні гнеў, ні пакута...*

1 лістапада 1999 г.







**Малюнкі Васіля Быкава, якія ён дасылаў з Фінляндыі ў лістах да Рыгора Барадуліна.**

Васіль БЫКАЎ

# ХУТАРАНЦЫ

Пад лесам жыла сямейка. Не багата і ня бедна, дзень і ноч працавала, бяз хлеба не ела. Зямлі было няшмат, але клопату сямейцы хапала. Сьпярша поле апрацоўвалі бацькі зь дзедам, пасьля, як памёр дзед, - бацька з маткай. Пакрысе падрасьлі сыны - Янка і Васіль, упраўляцца стала лягчэй, і хутаранцы былі задаволеныя.

Неяк на пачатку восені, калі, павячэраўшы, сямейка зьбіралася класьціся спаць, у дзьверы пастукалі. Госьцяў у хаце не чакалі, але бацька мусіў адамкнуць дзьверы, - ці мала каму выпала пільніца па начы. Увайшоў сьціпла, хоць і прыстойна апрануты чалавек, сеў на лаве, закурыў гарадзкую папяросу. І пачаў гаманіць. Аказаўся на дзіва гаманкі, дасюль у тутэйшых мясьцінах такіх не трапляла. Увесь сэнс ягонай гаманы палягаў у тым, што хутаране жывуць незаможна, бадай, кепска, адстала, і трэба інтэгравацца. Гэта значыць, далучыцца да недалёкай вёскі. Гаспадары недаўменна ўтаропіліся ў чалавека - ужо яны ведалі, як жывуць у суседняй вёсцы. Кожнай вясны адтуль прыбягалі на хутар то па кошык бульбы, меру збажыны, а то пазычыць капейчыну ці ўзяць каня прывезьці дровы. Яны так і сказалі захожаму. А той - сваё. Трэба інтэгравацца, бо інакай не выпадае, увесь сьвет інтэгруецца, трэба сіла, каб супрацьстаяць таму сьвету. Хутаранцы маўчалі, яны не разумелі, чаму трэба супрацьстаяць сьвету? Калі тая бязглуздая гутарка добра надакучыла, гаспадар сказаў, што сям'і трэба класьціся спаць, заўтра шмат працы ў полі, хай бы чалавек ішоў, адкуль прыйшоў. Чалавек устаў з лавы, але доўга яшчэ балбатаў у парозе, яны ледзьве выбавіліся ад яго. Як ён пайшоў, матка перахрысьцілася і кажа: "Гэта ж д'ябал! Яй-Богу! У яго ж хвосьцік ззаду..." Гаспадар і хлопцы падзівіліся з тых матчыных словаў - яны не прыкмецілі ніякага хвосьціка. Але ўсё магло быць...

Наступны вечар усё ў той жа час у дзьверы зноў загрукалі - ды ўжо мацней, нават нібы абурана. Бацька не хацеў адчыняць, але хлопцы сказалі: хай! Зноў увайшоў той самы, ранейшы захожы і зноў пачаў тое самае. Трэба інтэгравацца, бо будзе кепска, а аб'яднаўшыся, будзе лепш. Яны ўсе неўпрыкмет узіраліся пад ягоную апратку - ці ня высунецца дзе хвосьцік. Але не, нічога нідзе ня высунулася. Недзе блізка ля поўначы ледзьве выбавіліся ад яго, і маці заплакала - зноў яна бачыла хвосьцік. Мужчыны ня ведалі, што і думаць.

Дачакаўшыся ранку, гаспадар узяў у сьвіране чорнае хварбы і на ўсіх дзьвярох намаляваў невялікія крыжыкі. Маці супакоілася: калі то д'ябал, дык пад крыжыкі ён ня ўвойдзе. Са страхам і надзеяй пачалі чакаць наступнай начы.

Вечар мінуў спакойна, ніхто ня стукаў. Трохі яшчэ счакаўшы, сямейка паклалася спаць. Ды яшчэ ня ўсе заснулі, як у падваконьні штосьці грукнула. Бацька зьлез з палацяў, засьвяціў лямпу. На покуце ўжо сядзеў той самы чалавек. Вакно за ім было выстаўлена знадворку, і ў хату дзьмуў вецер.

- Я наконт інтэграцыі, - спакойна пачаў знаёмую песьню захожы.

- Прэч! - крыкнуў бацька.

Тут ускочылі сыны, сталі поплеч з бацькам. Матка воддаль заплакала. Захожы цепнуў плечуком і нібыта з затоенай крыўдай вылез праз вакно назад.

Рэшту тае начы хутаранцы ня спалі, а як настаў ранак, пачалі мацаваць засаўкі на дзьвярох, мацней прыбівалі вокны. Бацька сказаў, што трэба будзе ў горадзе замовіць аканіц. Вядома, дорага, але без аканіц не абысьціся.

Наступная ноч прамінула спакойна, ніхто ня стукаў, ня лез у хату. І сямейка патроху супакоілася. Па аканіцы ў горад гаспадар вырашыў паехаць пасьля, як зьвязе з поля снапы.

Але яшчэ празь дзён пару ноччу раптам спалохана крыкнула матка - абодва сыны разам ускочылі, Васіль уключыў электрычны ліхтарык, які надоечы купіў у сельмагу. Матка, плачучы, паказвала ў печ. Сапраўды, там штосьці адбывалася, чуўся невыразны шорах. У печы на тую пару не палілі, ежу гатавалі ў двары пад паветкай. Але нейкі дзіўны шумшоргат мкнуў з чалесьніка, і хутаранцы напалохана чакалі. Аж неўзабаве бразнула засланка, з грукатам звалілася на падлогу, і зь печы выкараскаўся ўсё той жа, перапэцканы сажай, чалавек. Вылезшы, моцна чыхнуў два разы, працёр вочы.

- Я наконт інтэграцыі...

- Заб'ю! - зь лютасьцю мовіў гаспадар і схапіў з-пад лаўкі сякеру.

Але ў яго за кашулю ўчапілася матка, сыны схапілі ў качарэжніку вілы. Незнаёмы прыгладзіў вусы і ціхенька захіхікаў.

- Нікуды вам ня дзецца, то гістарычны працэс...

Бацька вырваўся з рук маткі, замахнуўся сякерай. Але ў той момант чалавечая істота зьнікла, бы шмыганула пад печ, дзе ўзімку сядзелі куры. Калі Васіль пасьвяціў туды ліхтарыкам, дык там ня ўбачыў нікога. Чалавек зьнік. Тады ўсе паверылі маці, што то быў не чалавек. Мабыць, сапраўды д'ябал. Але ўсе ведалі, што д'ябла ні ўпрасіць, ні напалохаць немагчыма.

Рэшту тае начы сямейка ня клалася спаць, чакала. І ня ведала, што рабіць. Было зразумела, што хрысьціянскі крыжык на дзьвярох іх не ўратуе.

Ажно на золку старэйшы з сыноў Янка сказаў, што ён ведае антыд'ябальскі сродак. Надзеў шапку і пайшоў у горад.

У паўдзён ён вярнуўся з аршынам каляровае матэрыі. На дрывотні змайстраваў спрытную дзяржаўку. Атрымаўся прыгожы сьцяг, які тры мужчыны прыбілі да вугла. Вецер адразу падхапіў яго і разгарнуў ва ўсю даўжыню - сьцяг узрадавана затрапятаўся.

- Цяпер хай прыйдзе! - сказаў Янка.

І праўда, з таго часу прывязьлівы незнаёмец ні разу не завітаў на хутар, аздоблены бел-чырвона-белым сьцягам.

7 студзеня 1999 г.

requiem aeternam

# СТРАТА

**Васіль БЫКАЎ**

## "Гісторыя чалавецтва - зьява парадаксальная..."

[...] Я ўжо казаў, што жыцьцё ў мяне ўвесь час паласатае - бываюць перамены ў той і другі бок. Але я пэўна ведаю, я пра гэта пісаў не адзін раз, што лёс чалавечы вельмі парадаксальны. Я баюся, што й гісторыя чалавецтва таксама парадаксальная. Раптам здараюцца нейкія павароты, якія нічым не матываваныя, нікім не прадугледжаныя, якія нават немагчыма ацаніць - у лепшы яны бок ці ў горшы. І гэта бясконца. У нас, прынамсі. На Захадзе - там іншая рэч. У іх усё дэтэрмінавана, і гісторыя таксама. А ў нас - поўны хаос. Безумоўна, для грамадзтва гэта вельмі кепска. Але: я ня ўпэўнены, што гэта кепска для літаратуры, для мастацтва. Мне думаецца, чорт вазьмі, што гэта нават добра.

[...] Чаму не прыжываецца дэмакратыя ў Беларусі, у Расеі? Таму што, як некалі гаварыў акадэмік Ліхачоў, дэмакратыя можа прыжывацца толькі пры няпоўнай дэмакратыі. Калі ёсьць дэмакратыя няпоўная, тады яна мае шанцы ўдасканальвацца. Калі ж яе няма, то ніякая сіла яе ўсталяваць ня можа. Інакш кажучы, дэмакратычнымі спосабамі і сродкамі дамагчыся дэмакратыі ў краіне немагчыма.

Што гэта значыць? Гэта значыць, што дэмакратыю павінна ўстанавіць сьпярша дыктатура, а пасьля на глебе, на тле дыктатуры можа ўсталявацца дэмакратыя. Зрэшты... можа ўсталявацца, а можа ніколі не ўсталявацца. Калі гэтая дыктатура пэўнага кшталту - як у Беларусі, напрыклад, - дык няма ніякіх і шанцаў на тое, каб дэмакратыя некалі хоць бы зарадзілася.

Мабыць, тут нешта залежыць і ад самога народу. Мабыць, ён павінен быў бы дзейнічаць больш рашуча. Як толькі выбіраецца пазыцыя на нейкае замірэньне, на нейкую цярпімасьць - тады чалавек і гіне. Талерантнасьць - гэта пагібельны шлях для дэмакратыі.

(Фрагмэнты інтэрвію, запісанага канадыйскім літаратуразнаўцам Зінай Гімпелевіч. Франкфурт-на-Майне, люты 2001 г. )












26 чэрвеня 2001 г. разьвітацца з Васілём Быкавым прыйшло 50 тысяч чалавек. За апошнія гады ніводная палітычная акцыя не выводзіла на вуліцы Менску столькі людзей. У жалобным шэсьці разам ішлі людзі розных палітычных партыяў, i ўпершыню за доўгі час іхныя пачуцьці супадалі.

Творчасьць Васіля Быкава была і застанецца нашым нацыянальным гонарам. Сьмерць Быкава сталася для беларусаў момантам яднаньня нацыі.





Фота Андрея Лянкевіча і Глеба Лабадзенкі

*Старонкамі паваеннага эміграцкага друку*

# Каб жыла Бацькаўшчына

Была восень. Клёны атрасалі зь сябе апошнія лісьцінкі, што, бязгучна адрываючыся з мокрых галінак, ляцелі ўніз, значучы зямлю залатымі водблескамі, накладаючы новы вузор на пацямнелы ўжо дыван. А туманы апускаліся штораз ніжэй, малочна-белай паваловай ахутваючы гаі, поле, вёскі. Восень - лістапад. Лістапад 1920 году ў Случчыне.

Чаму - у Случчыне? Ці было йнакш у Віленшчыне, Смаленшчыне, на Палесьсі ці Гомельшчыне? Мо не было клёнаў, туманаў?..

Неспакойна было ў Случчыне. Праз два апошнія гады яна, як і ўся Беларусь, цярпела на сабе зноў ворагаў - акупантаў. Чаргова - спачатку расейцаў-бальшавікоў, пасьля - палякаў. Змагаючыся супраць сябе, толькі ў вадным яны не разыходзіліся - як адны, так і другія згодна тапталі ўсё беларускае. Не маглі яны пагадзіцца з тым, што Беларусь не хацела ўжо быць забаўкай у іхных руках, што яна вуснамі сваіх сыноў з усіх куткоў яе векапомным Сакавіковым актам абвесьціла сьвету аб сваёй непахіснай волі самой кіраваць сваім лёсам, быць гаспадаром у сябе. І таму расейцы-большавікі з клічамі аб роўнасьці й свабодзе, палякі зь лёзунгам "За вашу й нашу волю" арыштоўвалі, ніштчылі кажнага, хто пасьмеў сказаць, што Беларусь - ня іхная, што яны - акупанты. І таму яны, хочучы пагадзіцца, пачалі ўжо дзяліць Беларусь міжсобку, несучы ёй новае паняволеньне.

Ізноў сунулася з усходу бальшавіцкая арда. Случчакі пастанавілі: трэба бараніць Рэспубліку. 14 лістапада зьехаліся прадстаўнікі яе ў Слуцак, каб яшчэ раз сказаць сьвету аб сваіх правох. Нядоўга яны радзілі: не пісалі доўгіх пратаколаў, не спрачаліся за драбніцы. У сваёй рэзалюцыі проста, некалькімі сказамі выразілі ўсё: што гатовы ўсе сілы аддаць на адбудову Бацькаўшчыны - Рэспублікі, што пратэстуюць супраць новага паняволеньня, якое рыхтуюць бальшавікі, паклікалі зь сябе Раду Случчыны, якой аддалі ўладу й адказнасьць.

Тыдзень пасьля яна заявіла ў сваёй дэклярацыі, што "...дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў, і ў выпадку патрэбы нават сілай аружжа, ня гледзячы на лічбовую перавагу ворага, думаючы, што нашая справа - справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе".

Гэтая патрэба прыйшла - бальшавікі былі ўжо на Случчыне. Вайсковае камандаваньне Рады Случчыны загадала ўзяцца за зброю. І случчакі пайшлі: кідалі хаты, кідалі матак, сясьцёр, жонак - пайшлі бараніць іх, бараніць краіну.

27 лістапада Першая Слуцкая дывізія пачала няроўны бой. З сабой панесла сьцяг, вышыты рукамі слуцкіх жанчынаў - матак і сясьцёр паўстанцаў. "Тым, што першыя паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына" - былі на ім словы.

Дык як жа так? Выходзіць, вышываючы гэты надпіс на сьцязе, слуцкія жанчыны ведалі, што іхныя сыны йдуць на сьмерць. Ня раз мы чулі й чуем аб такіх выпадках, што маці ахвяроўвае сваё жыцьцё ў вабароне дзіцяці, ёю ўскормленага, ёю выгадаванага...

Ці можам мы тады ацаніць, ці ў сілах мы нават уявіць тую бязьмежную ахвярнасьць слуцкіх матак, што аддалі найдаражэйшае, бо даражэйшае нават за собскае жыцьцё - каб жыла Бацькаўшчына? Няма меры для гэтае ахвяры, як не было меры для каханае радзімы ў тых, што йшлі паміраць за яе.

"Тым, што першыя паўсталі й пайшлі паміраць..." - гэтымі словамі слуцкія жанчыны далі ня толькі знаць, што ведаюць, на што йдуць іхныя сыны. Яны напісалі іх, каб на кажным кроку, гледзячы на сьцяг, сыны-паўстанцы памяталі: "Ідзяце паміраць, мусіце паміраць - каб жыла Бацькаўшчына".

І яны памяталі гэта. Пад Капылём, Цімкавічамі, Вызнамі, пад Быстрыцамі, Верабейчыкамі, Чарнагубавам, Васілішкамі, Дашновам, Лютавічамі, Мацкевічамі - Першая Слуцкая дывізія, а зь ёй уся Рэспубліка прыймала баёвы хрост. Пад іхным ударам ламаліся рады ў дзясяткі разоў сільнейшага колькасна ворага. На заклік паўстанцаў на іхны бок пачалі пераходзіць чырвонаармейцы. Бальшавікі, бачачы гэта, кінулі супраць іх свае найлепшыя аддзелы азіяцкіх камуністых. Паўстанцы вялі няроўны бой, значучы родную зямлю сваёй крывёй, раскідаючы па ёй сьвежыя насыпы - магілы ейных бязыменных сыноў-герояў, што ўжо выканалі запавет, памерлі ў баі - каб жыла Бацькаўшчына.

Сьцягнуўшы ўсе свае сілы за Лань, паўстанцы працягвалі змаганьне. Ужо цэлы месяц прайшоў у баёх. Не хапала зброі, амуніцыі. Паўстанцы здабывалі яе ў контратаках у ворага. Але сілы бальшавікоў штораз узрасталі, яны бесьперапынна падкідалі ўсё новыя аддзелы. 28 сьнежня Слуцкая дывізія мусіла перайсьці польскую мяжу.

Не было чаго спадзявацца ад палякаў. Ім зусім было не на руку падтрымоўваць паўстанцаў, бо яны добра ведалі, што за прыкладам Случчыны можа пайсьці ўся Беларусь, і тады - не ўтрымаць ім тае часткі, якая прыпала ім пры праступным падзеле. Дзеля гэтага яны адразу раззброілі і інтэрнавалі Слуцкую дывізію.

Шмат паўстанцаў, што ў час агледзеліся, не даліся раззброіцца: яны пайшлі ў лясы, назад - змагацца да апошняга. Ізноў значылі яны слуцкія сасоньнікі сваёй крывёю, магіламі. Не шукалі яны іншага выхаду, бо ведалі: кажная кропля крыві, кажнае жыцьцё, аддадзеныя ў гэтым, здавалася б, зусім безнадзейным змаганьні, патрэбна - каб жыла Бацькаўшчына...

Штогод страсаюць клёны свае апошнія лісьцінкі ў лістападзе. Штогод спавіваюць туманы зямлю. Там, на Случчыне, яны ўжо 35 год пяшчотна ахутваюць невялікія ўзгоркі - магілы бязыменных змагароў - тых, што першыя паўсталі й пайшлі, каб жыла Бацькаўшчына.

Слава вам, Ґероі-Случчакі! Слава за вашу бязьмежную ахвярнасьць! Ідучы паміраць, вы ведалі, што ваша кроў - не апошняя. І вы ўсё ж ішлі. Цяпер мы пераймаем ваш сьцяг. Вы нам прыкладам. І калі прыйдзе час, мы пойдзем паміраць так, як і вы, за Рэспубліку. Пры гэтым толькі аднаго будзем прасіць у Ўсемагутнага: "Дай, каб нашай ахвярай мы купілі Бацькаўшчыну, каб наша кроў была апошняй!"

**Уладзімер НЕМАНОВІЧ**

("Бацькаўшчына", 27 лістапада 1955 г. № 47-48 (277-278))

## гісторыя ЗБК у дакумэнтах і ўспамінах


Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Таронта, "Centre Island", 2 верасьня 1956 г.

# КАЛІ І ЯК НАРАДЗІЛАСЯ ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

*Працяг са стар. 1*

У маіх вайсковых дакумэнтах выразна была ўказаная мая нацыянальнасьць. Канадыйцы, варожыя да тых шпіёнаў-расейцаў, якіх выкрыў Гузенка, прачыталі, што мая нацыянальнасьць - "рашн". І толькі разумны перакладчык-украінец, які заўважыў маю праблему, вытлумачыў камісіі пра маю беларускую нацыянальнасьць, давёў, што я быў народжаны грамадзянінам Польшчы, а не Расеі.

...Пачынаць з нуля нейкую арганізацыю колішніх жаўнераў нялёгка ў чужой краіне. Адрас мой зьмясьцілі ў лёнданскім часапісе "На шляху". Удалося мне зьмяніць, перадусім ныдрэнна ведаючы ангельскую мову, двух нявыгадных фэрмэраў і трапіць да Андрэя Паніцкага, які жыў каля Ашавы. Славак Паніцкі прыехаў сюды ў трыццатых гадох, цяпер жа меў 36 акраў ворнай зямлі, чатыры каровы, двое коней, жонку і трое дочак. Веруючыя баптысты, зь імі лёгка было трымаць згоду й супрацоўнічаць. Сам Андрэй Паніцкі знайшоў сабе працу ў аўтамабільнай фабрыцы "Джэнэрал Мотарс" у горадзе Ашава, дзе зарабляў два з паловай даляры на гадзіну, а мне плаціў 60 даляраў у месяц, даваў памешканьне (адзін пакой) і харчы.



Дэманстрацыя перад будынкам парлямэнту ў Атаве 6 лістапада 1977 г. .

Да цэнтру Ашавы было пару кілямэтраў. У Ашаве знайшліся і новапрыбылыя беларусы. Праўда, усе яны зьявіліся пасьля майго прыезду, і зь іх утварыўся аддзел Згуртаваньня беларусаў.

Навязалася лістоўная лучнасьць із случчаком, паэтам Уладзімірам Клішэвічам, паэзію якога я чытаў і раней, сам аўтар же цяпер знаходзіўся ў Злучаных Штатах.

На маё пытаньне, ці магу я, сам адзіны тут пакуль што, пачынаць закладаць арганізацыю, Клішэвіч параіў зьвязацца з суродзічамі, пачынаць з малога...


Удзел у сьвяткаваньні Дня незалежнасьці Канады. Ашава, 60-я гады.

у сьвятліцы 1949

| Назва маёмасьці | Кошт маёмасьці пры закупцы |
|---|---|
| 1. Стальі складаныя х 3 | $ 5.50 |
| 2. Стол не складаны - 1 | $ 6.00 |
| 3. Патэфон - 1 | $ 17.95 |
| 4. Патэфонныя пласьцінкі х3 | $ 2.90 |
| 5. Пагоня (вялікая). | — |
| 6 Даміно х 2 | 60¢ |
| 7. Мятла (шчотка) х 1 | $ 2.10 |
| 8. Сьцяг (Канадыйскі) х 1 | $ 12.00 |
| 9. Шнур для патэфону (з 3-ма штэпселямі) | $ 1.65 |
| 10. Даміно х 3 | $ 0.90 |
| 11. Сьцягі (нацыянальныя) х 2 | — |
| 12. Шчотка для вакскаваньня. | — |
| 13 Абразкі беларускіх відаў х 2 | — |
| 14 Бібліатэка | — |
| 15 Попелкі шкляныя х 6 | — |
| 16 Дошка клясная х 1 | — |
| 17 Замкі вісячыя (да шафы) Х 3 (тр | |

Сьпіс маёмасьці ЗБК. 1949 г.

У лютым 1948 году на фэрме Паніцкага пад Ашавай выйшаў з друку першы нумар часапісу "Беларускі эмігрант", зроблены пры дапамозе машынапіскі "Сміт Карона", ратата і матрыцаў з чарнілам. Роднае, беларускае слова вітала суродзічаў, раскіданых па аграмаднай краіне ад Атлянтычнага да Ціхага акіяну. Газэта заклікала, раіла, што рабіць, як гуртавацца, арганізавацца, у Канадзе будучыню сваю будаваць, голасам паняволенага беларускага народу, некалі вялікага, дзяржаўнага, цяпер выступаць.



Пікет у гадавіну Чарнобыльскай аварыі.

Прыгадваю, што поштай выслаў больш за паўсотні асобнікаў знаёмым, зь якімі скантактаваўся раней.

Тыдняў праз пару пасьля выхаду часапісу зьявіліся да Паніцкага дзьве асобы. Я быў на полі і здалёк іх бачыў. Мой газда (па-славацку - гаспадар) казаў, што агледалі гаспадарку, бо можа хто данёс, быццам ён самагонку гоніць.

- А ў маім пакоі былі? - пытаюся. - Ага, былі, - адказвае мне газда. - І запісалі нумар тваёй машынапіскі.

Значыцца, была праверка. Канадыйцы высьцерагаліся пасьля таго, як Ігар Гузенка выкрыў маскоўска-бальшавіцкае шпіёнскае гняздо ў сталіцы Канады Атаве.

Згуртаваньне беларусаў Канады стала, як кажуць, на цьвёрдыя ногі пасьля куплі дома на вуліцы Дандас, 1000, дзе разьмясьцілі ЗБК і парафіяльную капліцу БАПЦ.

Наперадзе было 55 гадоў працы... Пра іх патрэбна напісаць куды шырэй і выдаць, у супрацоўніцтве з "Бацькаўшчынай", ладную кнігу.

**Кастусь АКУЛА**

**Ад рэдакцыі: гэтым артыкулам мы распачынаем сэрыю публікацыяў аб гісторыі ЗБК. Чытайце працяг у наступных нумарох "Беларускага слова".**

## наша пошта

# Ліст з Аўстраліі

Паважаная рэдакцыя газэты "Беларускае слова"!

Шчыра дзякую за прысланыя 10 газэт "БС", якія я прадаў па 2 аўстралійскія даляры. З гэтым лістом залучаю 20 аўстралійскіх даляраў. У будучыні, калі ласка, прысылайце на мой адрас 10 газэт "БС", больш як 10 газэт цяжка прадаць, ня ўсе людзі хочуць чытаць беларускую прэсу.

З газэты даведаўся, што ў Канаду прыехала шмат новай беларускай іміграцыі, якая далучылася да існуючых беларускіх арганізацыяў, і беларускае грамадзкае жыцьцё абнавілася і памаладзела.

Гэта, вядома, нас вельмі цешыць, што беларускія суполкі папоўніліся новай іміграцыяй зь Беларусі.

У нас у Аўстраліі таксама быў вялікі грамадзкі ўздым у 50-60-70 гадох, беларускае грамадзкае жыцьцё кіпела. Пасьля памалу пайшоў спад, вядома, старэйшыя актыўныя дзеячы адыходзяць у лепшы сьвет, а няма новага папаўненьня, так, як у вас, няма прыплыву новай іміграцыі зь Беларусі.

У Аўстралію прыбыло шмат выхадцаў зь Беларусі, але гэта пераважна ехалі габрэі або мяшаныя сем'і, беларусы з габрэямі. Прыехаўшы ў Аўстралію, яны далучаліся да габрэйскіх суполак, а беларускія арганізацыі абміналі. Вось так у нас у Мэльбурне ніхто з новых прыбылых беларусаў да нашай арганізацыі так і не далучыўся.

З артыкула "Лісты зь мінуўшчыны" я зрабіў копію і пераслаў жонцы Алеся Салаўя, спадарыні Зіне Кадняк.

Газэта "БС" для мяне вельмі цікавая, чакаю наступнага нумара.

З пашанай да Вас,

Аўген ГРУША,
Старшыня Фэдэральнае рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі.

Мэльбурн, 14 кастрычніка 2003 г.

# Адказ Міністэрства замежных справаў Канады

Старшыні ЗБК П.Мурзёнку
і іншым сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады

Шаноўныя спадары!

Дзякую вам за ваш ліст ад 11 верасьня 2003 г., у якім вы выказалі занепакоенасьць тым, што ўрад прэзыдэнта Лукашэнкі не выконвае дамоўленасьцяў АБСЭ стасоўна правоў чалавека і дэмакратычнага разьвіцьця.

Канада таксама заклапочана сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Мы рэгулярна ўздымаем гэтае пытаньне на паседжаньнях Пастаяннай Рады АБСЭ, падкрэсьліваючы неабходнасьць дэмакратычных зьменаў у краіне. Да таго ж, амбасадар Канады ў Польшчы і Беларусі рэгулярна наведвае Беларусь, каб абмеркаваць памянёныя праблемы ў Міністэрстве замежных справаў Беларусі.

Канада актыўна спрыяе разьвіцьцю дэмакратычнага грамадзтва ў Беларусі. Канадыйскі "Фонд падтрымкі мясцовых ініцыятываў" дапамагае недзяржаўным арганізацыям, якія выступаюць за дэмакратычнае разьвіцьцё, правы чалавека і павагу да дэмакратыі.

Я запэўніваю вас, што сытуацыя з правамі чалавека ў Беларусі была й застанецца справай надзвычайнай важнасьці для Канады. Дзякую Вам яшчэ раз, што знайшлі час напісаць нам.

З павагай,
Біл ГРЭХЕМ,
Міністар замежных справаў Канады.
3 лістапада 2003 г.

## Да нашых шаноўных чытачоў:

Калі гэты нумар газэты трапіў да вас выпадкова і вы хацелі б атрымліваць "Беларускае слова" рэгулярна, зьвяжыцеся з рэдакцыяй пісьмова, праз e-mail ці па тэлефоне. Раскажыце пра "Беларускае слова" вашым сябрам, перадайце ім прачытаныя нумары.

У нас няма падпіскі, таму мы будзем вельмі ўдзячныя кожнаму, хто ахвяруе на выданьне газэты невялікую суму. Грошы трацяцца толькі на паперу, друк і рассылку. Рэдакцыя працуе бясплатна.

## экстрэмальная сытуацыя

# БЕЗЬ СЬВЯТЛА



14 жніўня 2003 г. на электрычных сетках Паўночнай Амэрыкі адбылася найбуйнейшая за ўсе часы аварыя, у выніку якой значныя часткі Амэрыкі і Канады больш чым на суткі засталіся безь сьвятла. Здымкі, зробленыя з космасу ў тую ноч, выглядаюць так, быццам вялікія гарады на гэтай тэрыторыі наагул зьніклі. Але насамрэч, вядома, жыцьцё працягвалася і ў цемры. У экстрэмальнай сытуацыі людзі паводзілі сябе вельмі па-рознаму: адныя палезьлі рабаваць крамы, другія выйшлі абараняць вуліцы ад марадзёраў. Другіх аказалася больш. У Таронце некаторыя ўладальнікі крамаў прадавалі ваду таньней, чым звычайна, - хаця, паводле прымітыўнай лёгікі, цэны на дэфіцытны тавар мусілі б падскочыць. Сьвецячы сабе кішэннымі ліхтарыкамі, дактары ў больніцах аказвалі неадкладную дапамогу хворым. Кіроўцы транспарту імгненна зрабіліся звышветлівымі і саступалі адзін аднаму дарогу на вуліцах безь сьвятлафораў...

Мы папрасілі некалькіх жыхароў Таронта прыгадаць тыя жнівеньскія дні і распавесьці, як яны жылі безь сьвятла: што рабілі і думалі, як пераадольвалі розныя побытавыя праблемы.

**Лявон ЗАЛЕСКІ:**

Гэта быў вельмі важны дзень для мяне: а восьмай вечара я меўся пісаць экзамэн праз Інтэрнэт. Я загадзя прыехаў да сваёй сяброўкі, бо ў яе былі два кампутары, і мы ўжо падрыхтаваліся адзін у аднаго сьпісваць, як раптам а чацьвертай гадзіне згасла сьвятло. Калі выявілася, што аварыя надоўга, я ўзрадаваўся, бо да экзамэну як след гатовы ня быў...

Адчуваў я сябе вельмі добра, мы зь сяброўкай нават плянавалі выехаць за горад на тры дні - гэта было, як незапляваны *"long weekend"*. Але потым вырашылі застацца. Паехалі ў краму й купілі вады. Больш нічога не куплялі, бо халадзільнік быў поўны ежы. Барбэкю зрабілі ў двары... Уночы было вельмі прыгожа - шмат зорак на небе, як быццам ты не ў вялікім горадзе, а ў кэмпінгу.

На наступны дзень я паехаў на працу, і мы працавалі амаль як заўсёды. (На нас адсутнасьць сьвятла не паўплывала - я геадэзіст, праца заўсёды на дварэ. Адзінае, што нам было трэба з тэхнікі - батарэі для тэадаліта, але яны ў нас былі ўжо зараджаныя.)

Што я добра зрабіў - у пятніцу раніцай адразу паехаў і зьняў наяўныя грошы, знайшоў адзін банк, які працаваў. Цікава, што вакол усё было мёртвае, а там быў як астравок са сьвятлом: некалькі крамаў, банк, піцэрыя, аптэка - усё дзейнічала, як звычайна... Адзінае, што было не як звычайна, - у крамах, нават калі яны былі адчыненыя, не прымалі крэдытовых картак. Я так разумею, яны баяліся, што ўся банкаўская сыстэма лясьне...

Потым пачалі падключаць сьвятло. У раёне, дзе жыве сяброўка, яго далі вельмі хутка, а ў маім доме каля Гай-парку сьвятла не было дні два ці тры, ня памятаю. Народ сябе паводзіў вельмі арганізавана. У першыя дні пасьля аварыі людзей папрасілі эканоміць электрычнасьць і ваду. І ўсе так і рабілі: не прымалі душ, не палівалі газонаў, не ўключалі электрапрыбораў. Панікі не было.

**Ірына КАЧЭРСКАЯ:**

Самае яркае ўражаньне, якое засталося ад тых дзён, - гэта як я каву грэла на сьвечцы. Зь ядой не было праблемы, халадзільнік быў забіты, а вось кавы гарачай выпіць хацелася. І я наладзілася так рабіць: паставіла на балконе сьвечку і трымала над ёй кубак, пакуль вада не награвалася, а потым засыпала каву...

Па-другое, я менавіта ў той чацьвер купіла два вялікія кавалкі сьвежага мяса, і толькі-толькі пасьпела пакласьці іх у халадзільнік, як адключылі сьвятло. Калі стала зразумела, што аварыя сур'ёзная, я пачала думаць, як ратаваць мяса. Перасыпала яго сольлю - густа так, не шкадуючы. Потым пабаялася, што гэтага ня хопіць, і дадала перцу. Потым часнаку... Паклала назад у маразілку - і ўзгадала пра яго толькі тыдні праз два. За гэты час мяса добра так прасалілася, праперчылася... І вось каб ня гэтая падзея, дык ніколі мне б і ў галаву не прыйшло гатаваць у Канадзе наш беларускі кумпяк. Я павесіла тыя кавалкі на балконе, яны там падсохлі, правяліся... На мой дзень народзінаў гэта была найлепшая закуска!

Мой сын у той дзень працаваў у краме побач з нашым домам. А шостай ён забег дадому перакусіць, кажа, у краме аўрал, халадзільнікі цякуць, паеў і пабег назад. Гэтым вечарам гадзін у адзінаццаць ён зьбіраўся ехаць у Бэры на спаборніцтвы па горным роварах. Сумка ягоная ўжо стаяла спакаваная. І вось я чакаю: адзінаццатая гадзіна, дванаццатая - яго няма. Пачынаю нервавацца. Палова на першую, першая... Можна зразумець, што робіцца ў галаве, калі такія абставіны, а сына няма дома. Недзе гадзіне а другой іду ў краму, там яшчэ быў мэнэджар. Ён мне кажа: мы ўсіх хлопцаў адпусьцілі а восьмай. За вашым сынам заехаў сябар і павёз яго на спаборніцтвы. Якія спаборніцтвы, калі рэчы стаяць у хаце??? У сынавага сябра ёсьць мабільнік, але пазваніць няма як, бо мой тэлефон не працуе, і аўтаматы на вуліцы таксама не працуюць. Я вяртаюся дадому, бяру фатаздымак сына і бягу ў паліцыю. У паліцэйскім участку сьвятло было. Паліцыянт выслухаў мяне, узяў тэлефон і набраў нумар. Высьветлілася, што мой сын зь сябрам ехалі ў машыне, у іх скончыўся бэнзын, і на бліжэйшых аўтазапраўках бэнзыну няма таксама. Дык яны бегаюць па ўсім навакольлі і шукаюць запраўку з бэнзынам. Знайшлі яны яе аж у прадмесьці Таронта, прыцягнулі адтуль на руках каністру з бэнзынам, залілі бак - і ўсё ж такі паехалі, куды зьбіраліся! І спаборніцтвы адбыліся, нягледзячы ні на што...

Я ў той вечар, калі сьвятло адключылі, спачатку думала, што гэта толькі ў мяне. Выйшла на калідор - гляджу, з усіх кватэр людзі высоўваюцца, усе занепакоеныя. Чую з размоваў, што сьвятла няма ва ўсім раёне. Потым кажуць: не, ува ўсім горадзе... не, ува ўсёй правінцыі... ва ўсёй Канадзе... ва ўсёй Паўночнай Амэрыцы... Проста ня верылася, што тут такое магло здарыцца! Потым да мяне зайшла сяброўка, і мы выйшлі пагуляць з сабакам. Гэта выглядала, як агульнанацыянальнае сьвята, як фэстываль нейкі: ніхто не сядзеў у хаце, усе выйшлі на двор. Музыка, танцы... З крамаў і маленькіх рэстаранчыкаў павыносілі столікі, сьвечкі паставілі, народ сядзіць, ногі закінуўшы, жлукціць піва, усе ўжо з гітарамі... Пачула песьню, відаць, толькі што складзеную: *"It was blackout, but I was quite calm…"* Такая вось народная творчасьць. Усе былі спакойныя, вясёлыя.

Горш было тым, хто жыве ў высокіх будынках. На саракавых паверхах без кандыцыянэру... Я з асаблівымі цяжкасьцямі не сутыкнулася, хіба што па лесьвіцах давялося палётаць уверх-уніз - мы жывем на дзявятым паверсе.

Дарэчы, у доме не было абсалютнай цемры: неўзабаве пасьля аварыі нешта загуло, і ўключылася аўтаномнае асьвятленьне на калідорах.. Думаю, што найважнейшыя дзяржаўныя ўстановы функцыянавалі дзякуючы крыніцам бесьперабойнага сілкаваньня.

Карацей, катастрофы ў горадзе не адчувалася. Была аварыя, праблемы, але яны вырашаліся. Народу, па-мойму, нават спадабалася: яны тут сумуюць па такіх прыгодах.

**Ала ПАРТНАЯ:**

Я ехала на працу ў мэтро, і калі мы праехалі Гай-парк, дзе цягнік выходзіць на паверхню, згасла сьвятло і цягнік спыніўся. У гэты момант усе вагоны ўжо былі пад зямлёй, але я ехала ў апошнім, таму мы маглі бачыць вуліцу ззаду. Прыбег машыніст, пачаў кудысьці званіць. Праз хвілін дзесяць нам абвясьцілі, што сьвятла няма ва ўсім горадзе і што мы будзем стаяць да высьвятленьня абставін. Яны спрабавалі неяк падцягнуць цягнік назад, да вуліцы, бо там жа было зусім побач, але нічога ня выйшла. Потым сказалі, што з вагонаў выходзіць нельга, бо гэта небясьпечна: невядома, калі сьвятло можа ўключыцца, а ток жа па рэйках ідзе. Адчынілі ўсе дзьверы паміж вагонамі, каб даць трохі паветра. Але нават у нашым, апошнім, які быў бліжэй за ўсё да вуліцы, пад канец стала адчувацца задуха. З галавы цягніка да нас перайшла жанчына зь немаўляткам у вазочку, яна яго ўвесь час абмахвала, відаць, яму было горача. Усе спрабавалі дазваніцца па мабільніках, але пад зямлёй яны вельмі рэдка ў каго працавалі. Мы сядзелі ў вагонах 50 хвілін, і толькі пасьля гэтага нам дазволілі выйсьці. Яны там зрабілі такія прыступачкі, накрылі чымсьці рэйкі, і ўсе пачалі выходзіць праз наш вагон.

Выйшлі на вуліцу - там натоўп народу, усе спрабуюць дабрацца дадому. Аўтобусы езьдзілі, але яны былі перапоўненыя, і ў асноўным людзі ішлі пешшу. Мама зь сястрой таксама большую частку дарогі ішлі пешшу, і калі мы ўсе адначасова дайшлі да дому, усе былі такія шчасьлівыя!

Мне захацелася гарбаты, прыехаў мой сябар і прывёз маленькую газавую печку. Мы сядзелі ў двары, гатавалі на ёй ваду і пілі гарбату.

На наступны дзень мама і сястра нават ня думалі ехаць на працу, але патэлефанаваў іхны шэф і сказаў, каб яны ўзялі таксоўку і тэрмінова прыяжджалі: у тым раёне сьвятло ўжо падключылі. Калі яны ехалі на таксоўцы, сьвятлафоры яшчэ не працавалі, і маму ўразіла, наколькі акуратна езьдзілі ўсе машыны, ніхто ня лез наперад, наадварот, усе ўсіх прапускалі.

Усе званілі на радыё, распавядалі пра розныя цікавыя выпадкі. Адзін мужчына вельмі добра падрыхтаваўся да надзвычайных сытуацый - у яго быў вялікі запас ежы і вады, але ўсё стаяла ў гаражы, а гараж... быў замкнуты на электрычны замок! То бок, ён ніяк ня мог туды трапіць...

Былі аповеды, як людзі завісьлі ў ліфтах, і іх адтуль выцягвалі пажарнікі. У буйнейшым парку *"Wonderland"*, калі спыніліся атракцыёны, людзей потым здымалі ратавальнікі. Карацей, як каму пашанцавала...

У крамах раскупалі сьвечкі і ваду. У каго было грошай больш, тыя адразу пайшлі й купілі сабе маленькія дызэльныя станцыі, каб ня мець праблем. Есьці гатавалі на барбэкюшніцах. Мы нічога не гатавалі, трэба было даесьці тое, што стаяла ў халадзільніку. Нам зь сябрам дасталося расталае марозіва...

Нідзе не адчувалася панікі. Баяліся ў асноўным былыя "савецкія" - спачатку думалі, што гэта тэракт. Потым баяцца перасталі. Нават мая бабуля, якая вельмі хвалявалася, каб не адключылі ваду, і налівала яе ва ўсё прыдатнае начыньне, потым сказала, што "гэта было цікава".

**Вячаслаў КРАХОТКА:**

Я дакладна да хвіліны памятаю, калі адключылася сьвятло, бо ў мяне на працы быў перапынак, і я размаўляў па тэлефоне. Гэта было ў 16.08. Тэлефон змоўк, таму што ў нас у кампаніі стаіць офісная міні-АТС. Адзін з гаспадароў выскачыў на вуліцу - запытацца, ці ёсьць сьвятло ў суседзяў. Яму адказалі, што аварыя ўва ўсім Таронце, і мы паехалі дахаты. Было цяжкавата дабрацца: паўсюль дарогі забіты машынамі, а сьвятлафоры не працуюць.

На адным із скрыжаваньняў я ўбачыў нешта незвычайнае. Нават пашкадаваў, што не было з сабой фотаапарата. Маладая жанчына, крыху мо за 20 год, стаяла на скрыжаваньні і, як паліцэйскі-рэгуліроўшчык, кіравала рухам машын. Усе яе слухаліся. Потым падобныя карціны я назіраў шмат дзе. Бачыў, напрыклад, сівога канадыйца вельмі сталага веку, які таксама кіраваў рухам транспарту.

На скрыжаваньні вуліц Блур і Прынц Эдвард дзяжурыў паліцэйскі. Запомнілася цікавая дэталь: каля яго стаяла цэлая батарэя бутэлек з вадой. Дзень быў сонечны, сьпякотны, і людзі прыносілі яму ваду, ведаючы, што ён сам ня можа адысьці з паста.

Наагул ад усяго, што я пабачыў за тыя суткі, склалася вельмі добрае ўражаньне пра канадыйскае грамадзтва - у экстрэмальнай сытуацыі яно аказалася здольным да самакіраваньня.

Карацей, прыйшоў я дахаты. У нашым доме адзін толькі мой тэлефон працаваў, астатнія - з факсамі, аўтаадказчыкамі - падлучаліся да электрычных разетак. Адпаведна, з усіх кватэраў людзі прыходзілі да мяне званіць.

Раніцай я спрабаваў тэлефанаваць на працу, але там ніхто не адказваў, і я застаўся дома. Выйшаў на вуліцу і зьдзівіўся, колькі машын стаяла каля дамоў. Відаць было, што пераважная большасьць людзей на працу не паехалі. Бліжэй да абеду запахла дымам ад барбэкюшніц... З крамы на нашай плазе вынесьлі пару прылаўкаў і нечым гандлявалі. Мяне ўразіла яшчэ, што цэлы дзень акуратна па раскладзе, кожныя пятнаццаць хвілін хадзілі абсалютна пустыя аўтобусы. А ўвечары, калі далі сьвятло і я захацеў пад'ехаць у банк, аўтобусаў раптам ня стала - іх, нарэшце, перакінулі на іншыя маршруты. Бюракратычная сыстэма рэагуе марудна...

На працы гэты дзень нам, вядома, не залічылі. Праз тыдзень я атрымаў чэк на сто даляраў менш, чым звычайна. Вось такія мае ўражаньні.

**Іна СЯНЬКО:**

Мы спачатку думалі, што сьвятло згасла ненадоўга. Потым захацелі даведацца, што здарылася, - а ўва ўсіх маіх сяброў радыё-тэлефоны, яны адлучыліся. Добра, што я гаспадарлівая, у мяне быў запасны тэлефон - за дзесяць даляраў, самы просты. Вось праз мой тэлефон пачалі сувязь наладжваць. Чуткі былі розныя: адзін казаў, за пару гадзін уключаць, другі сьцьвярджаў, што ў Амэрыцы быў тэракт на электрастанцыі...

Надышоў вечар. Сядзім мы на заднім двары, зоркамі любуемся. Такога зорнага неба я ніколі ў Таронце не бачыла. Тут міма праходзіць супэрінтэндант і кажа: "Я чуў па радыё, што сьвятла ня будзе дзён пяць. Запасайцеся вадою..." У мяне аж рот раскрыўся. Пабеглі мы хутчэй ваду наліваць, у што толькі было можна - уся кватэра была ў тазіках. Пяць дзён! Калі тую ваду падвязуць...

У нашым доме на лесьвіцах і ў калідорах не гарэла нават аварыйнае сьвятло. Хто куды ішоў, нёс з сабой сьвечку ці ліхтарык. Калі яны былі яшчэ...

У нас суседка начавала з 12 паверха (я жыву на першым). Суседка спусьцілася з сабакам, у яго лапа балела, ён ня змог бы па лесьвіцы хадзіць уверх-уніз.

Па-мойму, з усіх маіх сяброў я больш за ўсіх нэрвавалася. Спаць не магла - ускочыла а палове на шостую раніцы, усіх пабудзіла. Мне было чамусьці вельмі страшна, як быццам перад вайной. Думаю, можа наагул трэба з Канады ўцякаць, калі тут такія сапраўды тэрарысты? Інфармацыі ж ніякай, радыё і таго не было...

Пазваніла знаёмаму з 17 паверха - у іх ужо не было вады. Ён прыйшоў да нас са сваімі слоікамі, набраў, колькі мог. Узамен прапанаваў падсмажыць мяса - у яго на балконе стаяла барбэкюшніца. А ў нас якраз пацёк халадзільнік, усё размарозілася. Я напярэдадні купіла сыркоў глязураваных вялікі пакет, дык пабегла іх усім раздаваць, пакуль не сапсаваліся...

У таго знаёмага барбэкюшніца была зручная. Мы на ёй і яйкі варылі, і нават каву. Згатавалі вялікі чайнік вады для маёй сяброўкі, у якой было маленькае дзіця, і трэба была вада сумесь разводзіць. Другая мая сяброўка была цяжарная, і ў кватэры без кандыцыянэру ёй зрабілася блага. Стаяла такая сьпякота... І тады гэты знаёмы прапанаваў паехаць на прыроду. Мы сабралі цэлую кампанію, чалавек шэсьць-сем, цяжарную жанчыну таксама забралі, загрузілі міні-вэн нашым мясам расталым - і паехалі на возера. Так добра адпачылі! І купаліся, і загаралі, і шашлыкі смажылі... Пад вечар патэлефанавалі ў горад да знаёмых і даведаліся, што пачалі падлучаць сьвятло.

Пакуль да дому даехалі, тут і сьвятло далі. Так што перапалохалася я дарма.

Апытвала В.КАВАЛЁВА

## фарбы сьвету : Нямеччына



Наш сьвет зрабіўся маленькі і дасягальны. Паездкі ў розныя краіны, праца за мяжой, вольнае валоданьне некалькімі мовамі - гэта ўсё зьявы, якія сталі звыклымі на працягу жыцьця аднаго пакаленьня. Цяпер нас па-іншаму хвалюе, што робіцца на іншым канцы зямлі, - бо паўсюль жывуць нашыя сябры або сваякі.

Рубрыка "Фарбы сьвету", якая прысутнічае ў нашай газэце зь мінулага нумару, мае на мэце яшчэ больш наблізіць да чытача розныя куточкі зямлі. Гэта не турыстычны даведнік і не падручнік геаграфіі. Вы пачуеце ўражаньні людзей, якія альбо жылі і працавалі ў пэўнай краіне працяглы час, альбо пераехалі туды настала. Яны мелі час пазнаёміцца зь ёй не павярхоўна, але разам з тым яшчэ ня страцілі здольнасьці зьдзіўляцца яе адметнасьцям.

Сёньняшні аповед - пра Нямеччыну.



# ФІЛЯЗОФІЯ КАБАЧКОЎ

Нямеччына мне падаецца краінай, дзе ўсё расплянавана, добрапрыстойна і... сумна. Нават не скажаць адразу, чаму складаецца такое ўражаньне. Але на другі тыдзень па прыезьдзе сюды я пачынаю лезьці на сьцяну і кідацца на людзей. З працы дахаты, з хаты на працу. А што яшчэ тут рабіць? У опэру пайсьці - страшэнна дорага, дый глядзець на "звышмадэрновыя" відовішчы не стае жаданьня. Ну можна гістарычныя замкі наведаць. Але ў буйных гарадах (за рэдкім выключэньнем), бадай што, як і ў нас па вайне - багата чаго зруйнавана й не адноўлена. Гэта напамін пра амэрыканскія авіяналёты. Безумоўна, адзінства палацы на горад знайсьці можна, але, па вялікім рахунку, нагадваюць яны маёнткі сярэдняй рукі пана на Беларусі. Так што больш за два разы глядзець на іх не захочацца.

Ёсьць яшчэ шэраг вельмі мілых і прыемных гарадкоў, якія захавалі пах гісторыі: брук, фахвэрк, крывыя вулачкі, кірмашы, зеляніна на вокнах і падворках. Але гэта сапраўды маленькія гарадкі, па-нашаму мястэчкі - забаваў там ніякіх. Адлегласьці тут, вядома, не праблема: сеў на машыну, і праз паўтары-дзьве гадзіны ты ў вялікім горадзе, дзе працуеш на заводзе ці ў бюро. Ага, забыўся: паўтары-дзьве гадзіны - гэта калі ня трапіш у вялікія заторы, якія, бывае, расьцягнуцца на 10-15 кілямэтраў. Таму шмат хто прыяжджае на працу ў 6.30, каб да затораў праскочыць. Адпаведна, а трэцяй ён ужо вызваліўся, а ў 21.00 - баю-бай у ложак. І так увесь час - ні зьменаў, ні прагі да іх. На два дні выехаць у "лес" (г.зн., туды, дзе ёсьць камары ў колькасьці адной штукі ці не працуе сотавы тэлефон) - праблема, якую вырашаюць два месяцы. А калі інстытут, дзе мне неяк давялося працаваць, зрабіў невялічкую выцечку па канале да возера, асобныя калегі мне прызнаваліся, што яны й ня ведалі пра караблікі, якія ад іхнага дабраславёнага гораду ходзяць. За свае 30-40-50 гадоў яны ніколі не пакарысталіся гэтым транспартным сродкам. А чаму? Ды таму, што гэта не трапляе ў плынь разьмеркаванага (і прэснага, на мой погляд) жыцьця...

Сёньня да мяне прыехалі ў госьці жонка з дачкой. Везла іх фірма *"Reichert"*, якая спэцыялізуецца на перавозках *"Folksdeutsch"* - гэта значыць, немцаў, якія едуць з Расеі. Няма нічога горш, як трапіць у такі аўтобус: усе стогнуць, як ім кепска ў Нямеччыне, што ніхто іх ня лічыць за людзей, - і адначасова старанна дзеляцца досьведам, як атрымаць "сацыял" (г.зн. сацыяльную дапамогу). Такога "сацыялу" набягае ў месяц каля 2000 эўра на сям'ю. На дзьве тысячы эўра цалкам можна пражыць расьлінным жыцьцём: паеў, паспаў... ізноў паеў. І мову можна не вучыць - а навошта, бо й так кормяць. Дык вось, два дні такіх размоваў перутвараюць чалавека ў патрыёта няхай лукашэнкаўскай, але Бацькаўшчыны. Асабліва калі праца дазваляе табе час ад часу прыяжджаць зь Беларусі ў Нямеччыну як эўрапейцу ў эўрапейскую краіну; і цябе (ва ўсялякім выпадку, у інтэлектуальным пляне) ставяць не ніжэй. Напрыклад, калі я нядаўна праводзіў тут сэмінар, сутыкнуўся з тым, што людзі нават ня чулі аб некаторых разьдзелах матэматыкі, і давялося раздаць сьпіс кніг, якія б давалі ўяўленьне аб тэме размовы (пры тым, што слухачы былі ўсе вельмі адукаваныя людзі, прафэсары). Гэта адбітак сытуацыі ў нямецкай навуцы: усё старое, упэўненае, цяжкое... Здаецца папросту неверагодным, што калісьці магла існаваць ВЯЛІКАЯ НЯМЕЦКАЯ ТЭАРЭТЫЧНАЯ навука, г.зн., навука, што генэравала ІДЭІ. Зараз немцы могуць толькі падмацоўваць ідэі экспэрымэнтам. Гэта зьвязана, як мне здаецца, з асаблівасьцямі сьветагляду, што сфармаваўся пасьля вайны, - сьветагляду свае другаснасьці. І гэта была самая вялікая перамога Амэрыкі ў вайне.

З уплывам Амэрыкі зьвязаная і праблема "камэрцыялізацыі" навукі. Каштоўным можа быць толькі тое, што можна прыкласьці да практыкі ўжо зараз. Усё астатняе - ад нячысьціка. Таму складаецца парадаксальная сытуацыя: калі патрэбная нейкая думка на пэрспэктыву, эмісары фірмаў-вытворцаў едуць у тую самую Беларусь, каб купіць там "мазгі". Але гэта не афішуецца: фірма хоча мець выгляд лідэра з уласнымі распрацоўкамі, самі людзі баяцца, каб грошай назад не забралі.

На маю думку, асноўная праблема немцаў (можа й астатняе Эўропы, але зь ёй я знаёмы меней) - гэта страта сябе як пэўнае адметнасьці. І няхай мне ня кажуць аб "інтэрнацыянальных сувязях" альбо "мультыкультуральнасьці". Каша-размазьня застаецца размазьнёй, і перастраўляць яе здольныя ўсе, але ўсмакаваць - толькі асобныя. Ізноў трэба сказаць "вялікі дзякуй" Штатам: карта пераплаўкі "розных усіх у адно агульнае" картачным шулерам была спрытна перацягнутая: Амэрыка пераплаўляе рознае чужое ў адно агульнае ЗША (якога не было і якое трэба рабіць), а Эўропа пераплаўляе адметнае сваё ў агульнае чужое...

Людзі, зь якімі я сутыкаюся, па сваёй навуковай дзейнасьці зьвязаныя ў тым ліку з мадэляваньнем сацыяльных працэсаў. І іхнае разуменьне сытуацыі абсалютна супадае з маім: іншая справа, што яно ня можа прывесьці да ніякіх зьменаў. Страшна сказаць "ня тое", могуць быць наступствы. Бо пакуль цябе не прызналі ў ЗША, ты ня можаш лічыцца "прызнаным". А цябе могуць "проста не заўважаць", беспардонна перапісваючы твае вынікі. (З гісторыі беларускай навукі атрымаў розгалас выпадак, калі кнігу Ф.Фёдарава - быў такі фізык-оптык і тэарэтык - перапісаў амэрыканец ад свайго імя.)

Але я адхіліўся. Дык вось, калі ў гэтай размазьні зьяўляюцца разынкі, пачынаецца нястраўнасьць. Такой "разынкай" у нямецкай кашы сталі туркі, якіх праўдамі-няпраўдамі ўжо 10% насельніцтва. Яны часта нават не абцяжарваюць сябе вывучэньнем нямецкай мовы - у іх ёсьць свая. І як толькі адчыняць мяжу, мільёны братоў, сваякоў, шваграў з палёў Анатоліі ці прыгарадаў Стамбула кінуцца ў адведкі да сваіх нямецкіх суплямеьнікаў і... забудуцца вярнуцца. І што самае дзіўнае, яны імгненна атрымаюць грамадзянства/бежанства з усімі прывілеямі дармаедаў. Акрамя таго, яны будуць патрабаваць мусульманскага выхаваньня ў школах, усталяваньня шарыяту (гэта ня жарты!!!) - тут жа дэмакратыя, тут усё дазволена, і ніхто ні за што не нясе адказнасьці. А тыя нармалёвыя беларусы, расейцы, якія працуюць на фірмах і займаюць зусім не маленькія пасады, будуць цераб'іць інстанцыі, каб у чарговы раз атрымаць ня від на жыхарства, а адмову. Маўляў, ты хто такі? Рускі?.. Якое мае значэньне, што фірма дае любыя гарантыі, што на табе мільённыя праекты, што ты напісаў 5-10 кніжак. Ты ж ня турак, ты ня вуліцы падмятаць прыехаў. У цябе могуць пачацца праблемы зь беднымі бібліятэкамі (бо фінансаваньне іх скарачаецца), зь недахопам абсталяваньня і г.д. Ва ўнівэрсытэце, дзе я цяпер працую, апошняя ціхая паніка: на наступны год паводле папярэдняга бюджэту фінансаваньне скарачаецца на 20%.

Я ўжо згадваў пра мадэляваньне сацыяльных працэсаў. Дык вось, тут усур'ёз мадэлююцца працэсы ўзьнікненьня "гета". Прычым добраахвотна. Ну хто каго прымушае жыць у "чайнатаўнах" у Амэрыцы? А яны ж існуюць. Дык вось, згаданыя туркі ці фольксдойчы тут самі сабой утвараюць гета. Таму што яны ніяк ня могуць асыміляваца ў тутэйшыя варункі. І гэтая "неасыміляванасьць" - ня толькі загана, магчыма, у ёй крыюцца зярняткі адраджэньня саматоеснасьці.

Вось тут і ўзьнікаюць далейшыя нямецкія маральныя цяжкасьці. Калі ты ні рыба ні мяса - з табой і нецікава як з чалавекам. Часам ловіш сябе на думцы, што нямецкую літаратуру ды гісторыю ведаеш лепей за іншых немцаў. Ну й пра што тады размаўляць з тыповым "абывателем", які, нібы той кабачок, ляжыць ды ляжыць на сонейку, патроху смокчучы сокі зь зямлі? (Напэўна, ад такой абыякавасьці і Ніцшэ тут узьнік - ад жаданьня хоць неяк скалануць балота...) З усіх знаёмых немцаў мне сапраўды цікава толькі з адным, які даўна перайшоў у катэгорыю сяброў. Ён працуе ў фінансавым упраўленьні ў Бэрліне, вандруе па сьвеце, пажадана на роварах, і толькі сумна хітае галавой, калі пры спатканьні я кажу яму, што мае ўражаньні аб Нямеччыне ня лепшаюць: "Так, мы робімся горшымі, самі гэта разумеем і нічога ня можам з гэтым парабіць". Якраз на пачатку сьнежня, па дарозе ў Лодзь, я заеду да яго. Цікава, што ён скажа гэтым разам.

Мае візыты ў Нямеччыну аддзеленыя ладнымі прамежкамі часу. Таму магу казаць пра нейкую дынаміку разьвіцьця. Я згодны з маім сябрам - тут сапраўды робіцца горш. Цэны растуць, а грошы - не. Самі немцы ашалелыя: уражаньне такое, што цэны якія былі ў дойчмарках, такія і засталіся ў эўра, хаця статыстыка й кажа, што гэта ня так... Адносна людзей - яны як "закладалі" адзін аднаго, так і закладаюць. З уласнае практыкі: варта было жонцы сесьці за мой працоўны кампутар, каб праверыць e-mail, як тут жа ўсё было данесена начальству. Так што калі немцы скардзяцца на "Штазі" (гэдээраўскі аналяг КГБ), быццам яна мела анкеты на кожнага жыхара ГДР, дык яны ж самі гэтыя анкеты й запаўнялі... Зрэшты, не адна "Штазі" грэшная: зьвявы таго самага парадку - абавязковая дактыляскапія, адкіданьне прэзумпцыі невінаватасьці і г.д.

І яшчэ. Учора якраз зайшла гаворка пра багацьце ды бядоту. Неяк так атрымліваецца, што ня ўсё з таго, што я магу дазволіць сабе ў Беларусі (а я сябе не лічу заможным), немец можа дазволіць сабе тут. І летнік, і дзялка, і паездкі... Калі агульная сума ўсяго гэтага, ацэненая немцамі па сваіх коштах, пераваліла за мільён, яны зрабіліся сумныя-сумныя...

**Ігар МІКЛАШЭВІЧ**

Аўтар тэксту - кандыдат фізыка-матэматычных навук, загадчык лябараторыі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўнівэрсытэту . Другі раз атрымлівае грант *DAAD* (Нямецкая служба акадэмічных абменаў) на працу ў Нямеччыне. Агулам правеў у гэтай краіне каля васьмі месяцаў, наведаў розныя яе рэгіёны. Зараз працуе ў Штутгарце (зямля Бадэн-Вюртэмбэрг).

# ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА?

## Бэрлін

Першы раз я патрапіў у Нямеччыну ў 1995 г., калі езьдзіў у студэнцкі лягер. Асабліва спадабалася падарожжа ў Бэрлін, які ў той час знаходзіўся на піку эўфарыі ўзьяднаньня - грошы цяклі ў мэтраполію мільярдамі, горад перабудоўваўся, клюбы на кожным скрыжаваньні, музыка чулася адусюль.

Горад, які я ўбачыў праз 6 год, быў крыху іншым. Эўфарыя мінула - і Бэрлін неспадзявана зразумеў, што ён вінен дзяржаўнай скарбонцы мільярды эўра. Клюбы пазачыняліся, зь некалькіх сотняў выжылі дзясяткі. Шматлікія культурніцкія ўстановы збанкрутавалі. Два бэрлінскія ўнівэрсытэты ўваходзяць у дзясятку найбуйнейшых ВНУ Нямеччыны. Гэта азначае, што колькасьць студэнтаў на душу насельніцтва тут значна перавышае сярэднянямецкі паказьнік. Студэнты, з аднаго боку, ствараюць у гэтым горадзе непаўторную інтэрнацыянальную атмасферу, з другога - "насьмерць" змагаюцца за нешматлікія працоўныя месцы. "Парад каханьня", сымбаль Бэрліна, кожны год зьбірае ўсё менш людзей. Летась у ім удзельнічалі 600 тысяч чалавек - лічба вялікая, аднак недастатковая, каб гэтае мерапрыемства прынесіла прыбытак. Некалькі месяцаў таму арганізатары паведамілі, што *"Love Parade"* не акупаецца і яму патрэбныя сур'ёзныя інвэстары.

Бэрлін сёньня - горад з практычнай гаспадаркай, мэта якой - эфэктыўнасьць. Менавіта таму 25 лістапада 10 тысяч бэрлінскіх студэнтаў выйшлі на вуліцы. Яны пратэставалі супраць увядзеньня аплаты за навучаньне (Нямеччына - адзіная краіна Эўропы, дзе вышэйшая адукацыя бясплатная - пакуль), а таксама супраць скарачэньня фінансаваньня ўнівэрсытэтаў і звальненьня прафэсараў. Вядома, што гэтыя пратэсты ні да чаго не прывядуць - практычны бэрлінскі ўрад будзе гнуць сваю лінію далей, эканоміць кожную капейку. Аднак, што важна, асабліва з нашай, беларускай, пэрспэктывы - моладзь выражае свой пункт гледжаньня, яна пратэстуе. Беларусам нядрэнна было б пераняць ад немцаў здольнасьць мець сваю думку і не баяцца яе выказваць.

## Беларусы ў Нямеччыне

Пагаворым цяпер пра нашых суайчыньнікаў. Колькі іх у Бэрліне і наагул у Нямеччыне? Мне падаецца, што колькасьць вымяраецца дзясяткамі тысяч. Галоўны шлях, якім наша моладзь трапляе сюды, - гэта, вядома, вучоба. Атрымаць студэнцкі статус у Нямеччыне адносна проста, ён, у сваю чаргу, дазваляе працаваць 20 гадзін у тыдзень. У прынцыпе, дастаткова, каб зарабляць на жыцьцё падчас вучобы .

Вельмі шмат нашых дзяўчат працуюць гувэрнанткамі, шмат хто зь іх выходзяць замуж і застаюцца тут.

Нягледзячы на вялікую колькасьць беларусаў у Нямеччыне й наагул за мяжой, у нас няма моцных эміграцкіх арганізацый. Галоўная прычына гэтага, мне здаецца, - вельмі нізкі ўзровень нацыянальнай самасьвядомасьці, а таксама падзел беларусаў па моўнай (беларуска/расейскамоўныя) і ідэалягічнай ("савок"/"сьвядомы") прыкмеце. Пры гэтым як адзін, так і другі бок не жадаюць зразумець, што яны - суайчыньнікі.

У сучаснай беларускай эміграцыі няма той агульнай культурнай базы, якая дазваляла паваеннай эміграцыі знаходзіць сваіх, гуртавацца. Сытуацыя, якую мы зараз назіраем, хутчэй нагадвае пачатак 20 стагодзьдзя, калі тысячы беларускіх сялян, іміграваўшы ў Амэрыку, далучаліся да расейскіх сацыялістычных арганізацый. У той час як беларускія габрэі, якія "аселі" ў Амэрыцы, паступова пранікалі ў кіраўнічыя эканамічныя і палітычныя колы гэтай краіны й сьвядома падтрымлівалі адбудову Ізраілю ў Палестыне, беларусы працавалі на фэрмах і шахтах і ўжо ў другім калене забывалі, хто яны й адкуль яны. Адзінае, што заставалася ў іх беларускага, - гэта прозьвішча.

Гісторыя паўтараецца, і ўжо сёньняшняя генэрацыя беларусаў за мяжой мае ўсе шанцыператварыцца ў пасіўную масу, якая ня помніць сваіх каранёў. Выхад - у пераадоленьні тых працілегласьцяў, якія я пералічыў вышэй. У адрозьненьне ад нашых папярэднікаў у нас ёсьць адзін, вырашальны аргумэнт - дзяржава Беларусь, і на яе дабрабыт павінны працаваць усе генэрацыі беларусаў.

**Максім КУПРЭЕЎ**

Максім прыехаў у Нямеччыну ў 2001 г. пасьля заканчэньня МДЛУ. Вывучае эгіпталёгію ў бэрлінскім *"Freie Universitat"*, адначасова працуе ў фірме, якая выпускае праграмнае забесьпячэньне. Заснаваў сайт беларусаў замежжа www.belarusy.com

# ПРА СКРЫЛЁК КАЎБАСЫ І МАСТАЦКІЯ КАРАКУЛІ

Першыя ўражаньні пра Нямеччыну я атрымала, калі працавала гувэрнанткай у нямецкай сям'і. Галоўныя цяжкасьці напачатку былі зьвязаныя з мовай. Я ведала, што давядзецца вывучыць нямецкую і была да гэтага гатовая, але ніяк не чакала, што навокал мяне пераважна будзе гучаць саксонская! Іх, відаць, можна суадносьці як расейскую й беларускую, толькі яны лічацца дыялектамі, а ўсяго дыялектаў у Нямеччыне некалькі. Мяркуйце самі, ці лёгка вывучаць мову, калі ў сям'і чуеш адну, а па тэлебачаньні і радыё - іншую...

Жывучы ў нямецкай сям'і, я адразу з галавой акунулася ў нямецкія будні зь іх рытуаламі, традыцыямі і звычаямі. Займалася ў асноўным дзецьмі - думаю, мы выхоўвалі і вучылі адзін аднаго ўзаемна. Часам праз маю неабазнанасьць узьнікалі сьмешныя сытуацыі. Напрыклад, што б вы падумалі, калі б у мясным аддзеле крамы да набытага вамі тавару бясплатна дадалі некалькі кавалачкаў каўбасы? Натуральна, я была ўпэўненая, што гэта чарговая прэзэнтацыя! Але калі задарма - чаму не пакаштаваць? І на вачах у прадаўцоў я адразу зьядала каўбасу, ды яшчэ й гучна захаплялася яе смакам! Добра, што дзіця, якое я везла ў вазочку, яшчэ не разумела, што яго пазбавілі ласунку - бо каўбаска прызначалася менавіта дзіцяці! Ну а выразу твараў прадавачак я ўжо не памятаю...

Цяпер, калі я праходжу каля мяснога аддзелу ўжо са сваімі ўласнымі дзецьмі (якое шчасьце, што мы пераехалі!), кожны раз адчуваю дакоры сумленьня... І проста не магу не купіць там штосьці. Зрэшты, дзеці й самі не дадуць абмінуць прылаўка, дзе ім традыцыйна належыцца некалькі смачных скрылёчкаў.

У сям'і, дзе я жыла (дый ня толькі ў ёй) мяне ўразіла, як немцы прымаюць гасьцей. У Расеі й Беларусі як было? Дзень нараджэньня адзначаюць амаль як Новы год! Калі ў доме госьці, гаспадыня сьпяшаецца прыгатаваць паболей розных страваў, каб сталы, як кажуць, ламіліся. А тут, калі вас паклічуць у госьці, дык пачастуюць кавай з тортам, ну а потым, каб ня сумна (!) сядзець было, выставяць на стол адну бутэлечку шампанскага з закускай у выглядзе салёнага печыва ці цукерак. І пажадана, каб уся цырымонія скончылася ня надта позна, бо гаспадарам яшчэ трэба пасьпець нармалёва павячэраць... Думаю, наш выраз "гуляць дык гуляць!" немцам абсалютна незразумелы. Ну а танчыць ад душы (не кажу ўжо пра сьпевы!) яны, напэўна, наагул ня ўмеюць. Мой муж расказваў мне пра свае студэнцкія гады, я міжволі параўноўвала іх са сваімі. У нашым пэдагагічным унівэрсытэце імя Максіма Танка на любым сьвяце, на любой дыскатэцы не знайсці было месца, каб патанчыць. А тут танцаваць нават сорамна - будзеш адчуваць сябе, як блазен на арэне.

...Трэба сказаць, што мае ўражаньні ад першага пэрыяду жыцьця ў Нямеччыне большай часткай пазабываліся, бо праз год я выйшла замуж за немца, а потым у нас нарадзілася дачка. І я зноў акунулася ў звыклы мне дзіцячы сьвет, але цяпер ужо ў ролі мамы. Быць зь дзіцем цэлымі днямі адной (муж шмат працаваў) мне не хацелася. І я знайшла кантакт зь іншымі нямецкімі мамамі праз так званую "Групу для паўзуноў", якія арганізуюцца тут штогод і аб'ядноўваюць мам з малымі дзецьмі. Цяпер я наведваю нават дзьве такія групы - у адной равесьнікі трохгадовай дачкі Ванэсы, у другой - раўналеткі гадавалага сына Ціма. Мы сустракаемся раз на тыдзень: мамы абменьваюцца сваім досьведам за філіжанкай кавы, а нашыя "паўзуны" - сваім: у каго якая бутэлечка, соска і г.д. Адзінае, мяне дагэтуль бянтэжыць, што часам мамы арганізоўваюць на такіх сустрэчах заняткі маляваньнем ці аплікацыяй нібыта для дзяцей, але выбіраюць такія складаныя сюжэты, якія малечы і блізка не пад сілу. У выніку дзеці трацяць цікавасьць да сваёй работы празь дзесяць хвілін і потым бадзяюцца самі па сабе, пакуль мамы яшчэ гадзіну старанна заканчваюць за іх "мастацкія творы". Мамы, відавочна, атрымліваюць ад такое творчасьці значна больш задавальненьня, чым дзеці... Зрэшты, усе нямецкія жанчыны цудоўныя майстрыхі, у іх гэта, напэўна, у крыві - як у нас любоў да сьпеваў і танцаў...



Калі мая дачка пайшла ў дзіцячы садок, мае назіраньні наконт неабмежаванага захапленьня нямецкіх жанчын рукаўмельствам ды дэкаратыўнапрыкладным мастацтвам толькі пацьвердзіліся. Безумоўна, малюнкі, аплікацыі ды забаўныя вырабы - гэта ўсё цудоўна, але ж хочацца яшчэ, каб дзіцёнак разьвіваўся й разумова! А калі на дзіцячым ранішніку выхавальніца сама чытае вершык з паперкі, дык чаго можна вымагаць ад дзяцей? Нічога дзіўнага, што калі нямецкія школьнікі пішуць эўрапейскія тэсты, вынікі, мякка кажучы, пакідаюць жадаць лепшага... Бо асоба ж закладаецца ў раньнім дзяцінстве! Дзякаваць Богу, сама я гадавалася ў Расеі і Беларусі, і яшчэ памятаю вершыкі, якім мяне вучыла мая бабуля...

Нельга, вядома, сказаць, што ў нямецкай сыстэме выхаваньня дзяцей я ня бачу нічога станоўчага. Тут дзецям даюць больш магчымасьцяў разьвіваць сябе самім, у іх больш свабоды дзейнасьці. Да кожнай дзіцячай крамзаніны бацькі й выхавальнікі ставяцца вельмі сур'ёзна - як да мастацтва, якім дзіця хоча выявіць сябе, нешта сказаць сьвету. Можа, немцы тут крыху й перагінаюць палку, ня ведаю. Але такі падыход, калі ў дзіцяці змалку паважаецца асоба, мне вельмі сымпатычны. Бо ведаеце, чаму тут лёгка пазнаць "рускую маму" ў грамадзкім месцы? Нават не па мове. Яна бясконца тузае сваё дзіця камандамі-забаронамі - "туды ня лезь", "хутка не бяжы", "рукамі не чапай", "гучна не размаўляй"... Цяпер, пасьля сямі гадоў жыцьця ў Нямеччыне, назіраць гэткае фэльдфэбэльскае "выхаваньне" мне проста дзіка.

Алёна ХЕЛМЭР (САЛАНЦОВА)

Алёна пераехала ў Нямеччыну зь Менску ў 1996 г. Год працавала гувэрнанткай у Саксоніі і Бадэн-Вюртэмбэргу. Цяпер жыве ў г. Обэркохен з мужам і двума дзецьмі.

# КРАІНА ПЕРАРАЗЬВІТАГА САЦЫЯЛІЗМУ

У Нямеччыне грамадзтва татальна засьцерагае вас ад голаду й холаду, нават калі вы самы апошні гультаюга і пляваць хацелі на гэтае самае грамадзтва атрутнай сьлінай. Гэтае засьцераганьне рэалізуецца шматлікімі шляхамі - праз так званую сацыяльную дапамогу, якая выдзяляецца ў выглядзе наяўных грошай, праз вызваленьне ад уплаты за мэдычную і пэнсійную страхоўку, а таксама шляхам розных дробных кампэнсацый (бясплатны праезд у грамадзкім транспарце, бясплатныя білеты ў музэі і г.д.). Крыху перабольшваючы, сытуацыя выглядае наступным чынам: калі вы ня можаце (альбо ня хочаце, альбо вам папросту надакучыла) працаваць, вы звальняецеся, рэгіструецеся ў *"Arbeitsamt"* (бюро па беспрацоўі), атрымліваеце нейкі час дапамогу па беспрацоўі, потым ідзяце ў *"Sozialamt"* (аддзел сацзабесьпячэньня), і вам пачынаюць плаціць сацыяльную дапамогу, аплочваць вашу мэдычную страхоўку, выдаваць грошы на транспарт, можна нават выпрасіць грошы на мэблю і г.д., - г. зн., вас абараняюць ад голаду й нэндзы. Срок вашага сядзеньня на шыі ў грамадзтва неабмежаваны - пры жаданьні гэта можна рабіць усё жыцьцё.

Папярэдняя стадыя абароны знаходзіцца на вытворчасьці. Калі вы ня хочаце звальняцца, то звольніць вас таксама няпроста. На вашым баку прафсаюзы і ўся нямецкая дзяржава. Трэба ўтварыць нешта ўжо зусім выключнае (магчыма, згвалтаваць сакратарку на вачах усяго аддзелу), каб вас звольнілі загадам.

Дзяржава пільна сочыць, каб вы не перапрацаваліся, і любую звышурочную працу разглядае як спробу капіталістаў вас эксплюатаваць. Напачатку я часта хадзіў на працу па суботах і заседжваўся дапазна, каб хутчэй стварыць базу для сваіх праектаў. Аднак неўзабаве шэф папрасіў мяне гэтага не рабіць, бо прафсаюзы сочаць за тым, як доўга гарыць сьвятло ў вокнах пасьля заканчэньня працоўнага дня, і калі заўважаць нейкую пэрыядычнасьць, паведамляюць "куды трэба" - у нагляд за выкананьнем працоўнага заканадаўства. Адтуль непасрэдна да шэфа прыходзяць людзі і патрабуюць доказаў, што ён не эксплюатуе работніка. І гэта ня жарты.

Уся гэтая распрацаваная схема "абароны чалавека" стварае ўпэўненасьць у заўтрашнім дні і можа быць расцэненая як станоўчая. Ну а калі я й так упэўнены ў сваім заўтрашнім дні? Я не кажу пра выпадкі страты працаздольнасьці, калі дзяржава сапраўды мусіць паклапаціцца пра свайго грамадзяніна. Я маю на ўвазе, што я ўпэўнены ў сваім прафэсіяналізьме, у тым, што не застанучя бяз працы заўтра, не пайду на "сацыял". Навошта мне такая шматступенная сыстэма абароны, за якую я плачу вялікія грошы? Насамрэч усё даволі проста: у тых, хто добра зарабляе, забіраюць шмат грошай, якія ідуць на тых, хто не працуе, а часта проста ня хоча працаваць, што і далей стымулюе іх сядзець на шыі ў грамадзтва.

Сумарныя выплаты з маёй зарплаты ў Нямеччыне (падаткі, пэнсійная і мэдычная страхоўкі, страхоўка беспрацоўя і інш.) складаюць 36% супраць, напрыклад 23% у Японіі, дзе я працаваў таксама. У Амэрыцы гэтая сума таксама немалая, але амэрыканцы шмат плацяць за сваю прысутнасьць у сьвеце - армія, прадстаўніцтвы, палітыка - што ў канчатковым ліку ўсё-такі вяртаецца з прыбыткам праз амэрыканскі бізнэс, які мае падтрымку дзяржавы амаль на ўсёй планэце. А ў Эўропе гэтыя грошы папросту праядаюцца... На гэта скардзяцца многія немцы, асабліва высокааплачваныя працаўнікі. Аднак тых, хто стаіць па другі бок бар'еру, настолькі шмат, што палітыкам даводзіцца зь імі лічыцца - гэта электарат. Такое вось замкнёнае кола. Але ж многія "сацыяльшчыкі" яшчэ й падпрацоўваюць нелегальна - г.зн., апроч атрымманьня афіцыйнай дапамогі яшчэ й ня плацяць падаткаў з "чорных" грошай. Гэта дазваляе ім без праблем падводзіць свой гадавы даход да ўзроўню цалкам прыстойнай зарплаты і вельмі нават някепска жыць - купляць дарагія рэчы, праводзіць адпачынак у гарах і на моры, што далёка ня кожны працуючы можа сабе дазволіць. Зразумела, што апошнім гэта радасьці не дадае. А вось дзяржава нeяк млява кантралюе разьмеркаваньне сацыяльнай дапамогі, дый падаткавая паліцыя ня надта сьцігае. Усё гэта ня вельмі гармануе з прынцыпам справядлівасьці, які лічыцца кутнім камянём эўрапейскай сацыяльнай сыстэмы. Не сказаць, каб мне не хапала на жыцьцё грошай, якія застаюцца пасьля пабораў, але нявесела глядзець, як беспрацоўныя жывуць ня горш, а часам нават і лепш, чым ты - цалкам высокакваліфікаваны спэцыяліст з намінальна высокай зарплатай...

(Але што несумненна станоўча ў Нямеччыне - гэта бальнічныя. Сыстэма амаль такая, як была ў СССР: захварэў - ідзеш да доктара, атрымліваеш бюлетэнь і можаш спакойна лячыцца, зарплата будзе ісьці цэлых сорак дзён, потым яна проста памяншаецца. Ня трэба адкладаць з году ў год грошы "на чорны дзень" і пастаянна баяцца трапіць у больніцу...)

Яшчэ адзін бок бліскучага "сацыялістычнага" медаля - гэта якасьць і колькасьць працы, якая патрабуецца ад індывідуўма. Што датычыць якасьці: пры такой абароненасьці работніка і бездапаможнасьці рабатадаўцы зразумела, што ў першага няма асаблівага стымулу напружвацца. Найбольш гэта заўважна ў сэрвісе. Сытуацыя, калі работнік заяўляе начальніку: "А калі будзеш прыдзірацца, дык наагул на сацыял пайду!" - не гратэсквая, а абсалютна рэальная. І насамрэч: на сацыяле ён будзе мець не нашмат меншыя грошы, а калі ўладкуецца працаваць нелегальна, дык нават і большыя.

Што ж да колькасьці працы, дык працоўны тыдзень кароткі, 40-42 гадзіны, і гэта не намінальная дэкларацыя ў законе, як у той самай Японіі, а сапраўды так - да пяці гадзін вечара з офісаў сыходзіць працэнтаў дзевяноста працаўнікоў. Тут, праўда, палка з двума канцамі: працоўны дзень кароткі ня толькі ў вас - у работнікаў сэрвісу, дактароў і г.д. таксама, то бок "танчаць усе". І вось выходзіце вы са свайго офісу ў пяць гадзін і думаеце: ну вось зараз прайдуся, пагляджу, грошай патрачу - а нельга, амаль усё ўжо зачынена. Добра яшчэ, што ў апошнія гады супэрмаркетам дазволілі працаваць да восьмай вечара, да нядаўняга часу яны сумленна зачыняліся ў пяць-шэсьць, апроч чацьвярга.

З адпачынкамі карціна падобная. Яны вельмі доўгія, на зьдзіўленьне амэрыканцам і японцам - 24 і больш дзён. З аднаго боку, можаш сам шмат часу праводзіць у адпачынку, а з другога, адказ "яго няма, ён зараз у адпачынку" абсалютна тыповы ў дзелавым жыцьці Нямеччыны, што стварае масу праблем. Аднак адсутнасьць чалавека з нагоды адпачынку не выклікае ні ў каго раздражненьня, нават калі праз гэта спыніўся бізнэс - кожны мае права адпачываць, гэта запісана ў законе. Наагул, адчуваньне, што ўсё жыцьцё цячэ пад лёзунгамі "не перапрацавацца" і "больш адпачываць"...

У Нямеччыне шмат увагі надаюць месцу працы. Прасторныя памяшканьні, вялікія вокны, заўсёды сьвежае паветра. Немцы не шкадуюць грошай на мэблю, кветкі, дывановыя пакрыцьці - і гэта мне падаецца слушным: мы ж праводзім на працы трэціну жыцьця - дык чаму не стварыць для яе камфортныя ўмовы? Калі я стамляюся працаваць у сваім офісе, дык папросту адчыняю вакно, паварочваю крэсла ў бок засаджанага дрэвамі ды кустоўем дворыка, закідваю ногі на тумбачку і слухаю шум дажджу альбо назіраю, як вецер абрывае пажаўцелае лісьце... Часам я па аналёгіі ўзгадваю сваю каморку ў такійскім офісе - з пашарпанай жалезнай мэбляй, маленькімі брыднымі вокнамі і відам на фірмавы сьметнік - і тады я пачынаю паважаць немцаў яшчэ больш.

Абед у Нямеччыне - таксама сьвятая справа, і ні пра які *"fastfood"* тут нават гаворка ня йдзе. Нармальны абед зь першай, другой і трэцяй стравай у вельмі стыльна абсталяванай сталоўцы, а летам - у цяністым садочку пры ёй. Немцы палуднуюць нясьпешна, абмяркоўваючы рабочыя й нерабочыя тэмы. Заўсёды захоўваецца прынцып калектывізму: усе чакаюць, пакуль апошні чалавек ня скончыць есьці, нават калі ён прыйшоў пазьней за астатніх. Гэта часам раздражняе: напрыклад, мне сумна абo хочацца заняцца чымсьці іншым - чаму я павінен строіць зь сябе ўважлівага субяседніка? Безумоўна, можна спаслацца на тэрміновыя справы альбо наагул хадзіць на абед аднаму, але калі такое рабіць занадта часта, то гэта кінецца ўсім у вочы і будзе выразна супярэчыць панятку нямецкага калектывізму...

Аляксандар УЛЬЯНЕНКАЎ

Аўтар артыкула - кандыдат фізыка-матэматычных навук, выпускнік БДУ, мянчук. Працаваў у Японіі, ужо два гады жыве й працуе ў Нямеччыне загадчыкам навуковага аддзелу буйной фірмы, якая выпускае навуковае абсталяваньне.

(Тэкст узяты з пэрсанальнай старонкі А.Ульяненкава www.geocities.com/CapeCanaveral/lab/4133 , друкуецца са скарачэньнямі.)

## фарбы сьвету : Нямеччына

# ПЛЮСЫ І МІНУСЫ

Вось я паспрабаваў сёе-тое занатаваць, што хацелася зрабіць на працягу ўсяго "нямецкага пэрыяду", але ўсё адкладалася. Я разважаў над формай; адзінае, на што мяне хапіла - традыцыйны пералік: што спадабалася ў Нямеччыне і што не. Атрымалася досыць каротка.

Не падабаецца:

1. Адно зь першых уражаньняў - сабачае, прабачце, дзярмо па ўсёй вуліцы, па якой я хаджу на працу. Гэта гарантаваныя 5 хвілін раздражненьня зранку плюс тыповыя для Бэрліна (можа і для Нямеччыны) каналізацыйныя люкі зь дзірачкамі, "пах" ад якіх, асабліва ўлетку, дратуе больш за ўсё.

2. Гэтае першае здаецца наступствам структуры нямецкіх будынкаў. Як спяваў Барыс Грабеншчыкоў (хаця й не пра Нямеччыну):

*"Здесь дворы, как колодцы, но нечего пить. Если хочешь здесь жить, то умерь свою прыть..."*

Яны (дамы) нагадваюць крэпасьці, з унутранымі дварамі, кодавымі замкамі. Гэта адлюстроўвае нямецкую закрытасьць, захінутасьць іх прыватнага жыцьця. Ніколі не даведаешся ад іх, што яны насамрэч лічаць і думаюць. Хоць тыя самыя туркі, якіх ці не палова Бэрліна, жывучы ў аналягічных дамох, прынцыпова адрозьніваюцца ад немцаў: жывуць, ядуць і ўсё робяць свайго роду камунамі. І дзеці іхныя гуляюць не ва ўнутраных дварах, а на вуліцы, пасярод мінакоў і машын. Можа за гэта, а можа і за шмат чаго іншага немцы туркаў ня любяць. Пра гэтую нелюбоў няцяжка здагадацца, калі чуеш, як немцы камэнтуюць сваю нямецкую лаянку (такія розныя "моцныя фразы", ужываныя пераважна маладымі людзьмі): "Гэта туркі так кажуць, гэта ад туркаў пайшло". І ўвогуле, усё дрэннае - ад туркаў. Але туркі і насамрэч, здаецца, лічаць, што вуліцы можна выкарыстоўваць як сьметніцу. А суботнікаў тутака, на жаль, не праводзяць.

Ёсьць, вядома, і "нармалёвыя" дамы, як у нас - студэнцкія і проста інтэрнаты, але асноўная частка - такія вось прыватныя.

3. Як яны ўсьміхаюцца. У нас усьмешка ці наадварот - гэта праява стаўленьня чалавека да цябе. Немцы (здаецца, як і амэрыканцы) збольшага ўсьміхаюцца, так бы мовіць, аўтаматычна, без аніякай цікавасьці да цябе. Я спачатку ніяк ня мог прыстасавацца да гэтага. Мне ўсё падавалася, што я цікавы людзям, якія мне ўсьміхаюцца. Зараз нічога, нармалёва. Праз нейкі час дзяжурная ўсьмешка робіцца звычкаю.

4. І апошняе (і самае "балючае" ў натуральным сэнсе слова): мэдычнае абслугоўваньне. Можа гэта даволі суб'ектыўна, але ня толькі мой асабісты досьвед, але й аповеды знаёмых людзей паказваюць: ад колькасьці грошай, якія ты адлічваеш (мэдстрахоўка), залежыць стаўленьне да цябе, хай і будуць табе ўсьміхацца. Але нават пры ўмове аплаты табе не гарантавана зробяць тое, што ты патрабуеш, і не гарантаванай якасьці. Наадварот, чым болей разоў ты прыйдзеш, тым лепей. Я тут пра гэта пішу даволі скарочана, хоць можна было б і падрабязьней, з прыкладамі. У параўнаньні зь нямецкім мэдабслугоўваньнем нашыя беларускія мэдыкі - залатыя рукі, якіх дарэмна абвінавачваюць у нежаданьні працаваць, непрафэсіяналізьме і любові да падарункаў. Насамрэч тыя невялікія даляры, цукеркі і віно, што ім дастаюцца, - замала за іхную гераічную працу...

Гэта ўсё мінусы. А што ж спадабалася?

1. Тое, дзеля чаго сюды й ехаў: калі ты маеш працу ў Нямеччыне (дый увогуле ў "заходнім сьвеце"), дык табе хопіць гэтых грошай на жыцьцё і на сям'ю. А калі няма працы і табе плацяць сацыяльную дапамогу - дык таксама ў асноўным хопіць. Як гэта кантрастуе з постсавецкай прасторай: сапраўднае жыцьцё і заробак - рэчы, якія мала паміж сабой стасуюцца. Гэты савецкі фармалізм, дэкляраваньне чагосьці на паперы пры адсутнасьці гэтага ў рэчаіснасьці, нявызначанасьць правілаў гульні - яны "дабіваюць" больш за ўсё. Безумоўна, ня ўсё так гладка і тутака, асабліва што тычыцца ўсялякіх дэклярацыяў (напрыклад, правоў чалавека і г.д.) - яны збольшага дэклярацыямі і застаюцца, а жыцьцё ёсьць жыцьцём. Але калі правілы гульні вызначаныя, то паводле іх і гуляюць і нясуць адказнасьць за тое, што робяць. У нас жа, так бы мовіць, ірацыянальнасьць: усе ведаюць, хто на што жыве, але насамрэч нічога не зразумела.

2. Калі што здараецца ў палітычным, прафэсійным жыцьці або наагул у сьвеце, як, напрыклад, вайна ў Іраку, то на вуліцы выходзіць непараўнальна больш людзей, чым у нас (хоць вайна ў Іраку асабіста іх ня тычыцца). Неяк лепш яны зарганізаваныя. Хоць звычайны чалавек (наколькі я магу меркаваць з прыватных гутарак) у палітыку не заангажаваны, ей не цікавіцца. Ды ўсё ж знаходзіцца ў Нямеччыне пэўная крытычная маса, якая вызначае стаўленьне грамадзтва!

У гэтым сэнсе вельмі паказальныя дзеяньні паліцыі. Напрыклад, улетку бягучага году ў Бэрліне праходзіла нейкае традыцыйнае (ня памятаю назвы, але вядомае ў сьвеце, накшталт Хэлоўіна) сьвята, падчас якога моладзь часьцяком учыняе пагромы. Дык вось, пасьля таго, як менавіта так і адбылося, бэрлінская паліцыя ў мэдыях вымушаная была апраўдвацца наконт вялікай колькасьці затрыманых: мауляў, маладзёны не вылучалі ніякіх палітычных патрабаваньняў, а папросту грамілі крамы і палілі легкавікі. Тое самае і на футбольных гульнях (у Нямеччыне гэта сапраўдныя сьвята, нездарма яны другія ў сьвеце!): паліцыі й АМАПу шмат, але яны збольшага толькі прысутнічаюць, як бы іх там няма, і амаль нікога не чапаюць. Гэта п'яныя часам іх чапаюць, але яны ніяк не рэагуюць. Ці, напрыклад, нямецкія панкі. Панкі - увогуле мая слабасьць, але нямецкія мне падабаюцца болей за нашых: яны амаль не агрэсіўныя, збольшага цьвярозыя (ну, хіба што піва ўжываюць, а ня моцныя напоі), у іх больш каларыту. І яны ўсе з сабакамі. Мне гэта было цікава - чаму? А яны з гэтага жывуць, бо дзяржава плаціць грошы на ўтрыманьне сабак (і бадзяжных жывелаў я ніколі ня бачыў). Дык вось, калі панкі сядзяць на вуліцах з сабакамі, просяць грошы, п'юць піва, і паліцыянты ім штосьці тлумачаць, дык яны з паліцыянтаў часам проста сьмяюцца і зьдзекваюцца. Такія сабе дыскусіі. Увогуле, тутака паліцыянты вельмі шмат растлумачваюць, з чаго не вынікае, што яны вельмі мяккія і дрэнна робяць сваю справу. Нам бы штосьці падобнае.

3. Яшчэ адно пацьверджаньне думкі, наколькі нашае беларускае гарадзкое насельніцтва правінцыйнае, кансэрватыўнае, словам, учорашняя вёска, - гэта манера апранацца. Тут, у Бэрліне, людзі апранаюцца проста і вельмі па-рознаму: кожны носіць, што ён хоча. Як гэта адрозьніваецца ад маёй Горадні, дзе ўсе імкнуцца набыць рэчы на рынку і выглядаць "ня горш за астатніх". Сьмешна. Тутака можна сустрэць на вуліцах штосьці зусім экзатычнае (нават для Бэрліна!), але рэакцыя будзе нармалёвай, могуць і не зьвярнуць увагі. У нас, калі не паб'юць, дык пальцам абавязкова пакажуць. Талерантнасьці нам трэба вучыцца.

4. Ну і апошняе: падабаецца мне вельмі, як выглядаюць арыйцы (ці гэта штосьці балцкае?) - белыя валасы, смуглявая скура, блакітныя вочы. (Зразумела, найперш маю на ўвазе жанчын.) Атрымліваю эстэтычнае задавальненьне.

Я, насамрэч, няшмат магу распавесьці, бо, па-першае, ня ведаю нямецкай мовы, і гэта вельмі перашкаджае ў жыцьці тутака. А падругое, я ўвесь час на працы, калектыў у нас інтэрнацыянальны, немцаў менш за палову ў лябараторыі. Да таго ж, у такіх навуковых калектывах людзі падобныя, нацыянальныя рысы няшмат вызначаюцца. Дый многія немцы ў інстытуце (як з Усходняй, так і з Заходняй Нямеччыны) хоць і трохі, але валодаюць расейскай моваю. А колькі тутака людзу з постсавецкай прасторы! То часам і ўвогуле здаецца: а ці ў Нямеччыне я?

**Сяргей КІРКО**

Сяргей Кірко - гарадзенец, зараз працуе навуковым супрацоўнікам у Інстытуце фізіялёгіі ў *"Charite"*, адным з найбуйнейшых эўрапейскіх шпіталяў. Займаецца клетачнай электрафізіялёгіяй мозгу. У Нямеччыне амаль паўтара гады, пры канцы году плянуе вярнуцца ў Беларусь.

# ТАМ ЗАСТАЛІСЯ МАЕ СЯБРЫ

Першае маё адчуваньне Нямеччыны было, што яна - як лялька. Па-першае, гэта невялікая краіна, па-другое, яна такая густанаселеная, што нават шмат вольнае прасторы там няма. Адзін маленькі гарадочак пераходзіць у другі, другі ў трэці і г.д. Па-трэцяе, кожны куточак у гэтым ланцугу гарадоў і вёсак чысты, прыбраны, і такі дагледжаны, што можна вось зараз сядаць, браць аловак і маляваць яго. Куды ні глянь - гэта цацачка.

З чым я сутыкнуўся адразу па прыезьдзе, робячы сваю навуковую працу ў шпіталі, - гэта з фактам, што ў Нямеччыне ёсьць усё. Калі я запытаўся пра адзін з рэагентаў, які мне быў пільна патрэбны і які немагчыма было на той час дастаць у Беларусі, мне сказалі: запомні, у Нямеччыне ёсьць усё. Калі нешта трэба - калі ласка, напішы ў сшытак, і праз некалькі дзён ты атрымаеш гэты рэактыў.

Яшчэ ў мяне было адчуваньне, што гэта іншы сьвет. Адразу кідаецца ў вочы, што людзі ўсьміхаюцца і няма такой агульнай змрочнасьці. Людзі жывуць. Вядома, калі я пачаў разумець нямецкую мову, я пачуў, як усе яны скардзяцца - што многа працы, што стамляюцца - але гэта, відаць, больш для прыліку. Бо калі ты ня скардзішся на тое, што стомлены, значыць, не працуеш.

Што яшчэ мне ў Нямеччыне падабалася - ну, гэта маё зусім асабістае ўражаньне - я вельмі люблю садавіну і гародніну, і ўпершыню ў Нямеччыне я пабачыў, што тут можна знайсьці любую садавіну і любую гародніну, і столькі, колькі хочаш. І нават на тую маленькую стыпэндыю, што ў мяне была, я мог дазваляць сабе каштаваць розную зеляніну і потым не хваляваўся, што ня хопіць грошай да канца месяца.

Я жыў там у двух гарадох - у Франкфурце і Марбургу. Франкфурт-на-Майне - гэта горад, дзе я сустрэў Барыса Кіта. І я вельмі ўдзячны лёсу, што мне пашанцавала некалькі гадоў жыць у тым самым горадзе, дзе жыве Барыс Уладзіміравіч Кіт, і сустракацца зь ім. Але гэта асобная размова, гэта, можа, не пра Нямеччыну...

Яшчэ хачу сказаць, што ў Нямеччыне мне спадабаліся людзі. Тое, што я чуў пра іх - што немцы замкнутыя, сухія і ня надта пускаюць да сябе, - у адносінах да мяне не пацьвярджалася. Я б сказаў, што да мяне немцы былі адкрытыя, у большасьці сваёй. Відаць, цяжкавата на пачатку ўсталяваць зь імі кантакт, але калі кантакт набываецца - усё, у цябе ёсьць надзейны сябар на гады. І нават цяпер у мяне ў Нямеччыне засталося шмат сяброў, так што калі я прыяжджаю ў Франкфурт - тыдзень трэба патраціць, толькі каб пабачыцца з усімі, і ўсё роўна часу не хапае. Пытаньне, каб жыць дзе-небудзь у гатэльчыку, нават не паўстае, бо столькі прапаноў - пажыві ў нас, пажыві ў нас - я нават ня думаю пра гатэль, калі еду ў Франкфурт.



Таксама мяне захапляюць нямецкія дарогі - аўтабаны. Там можна ехаць зь якой хочаш хуткасьцю, і толькі час ад часу, на асабліва крутым павароце, сустрэнеш абмежаваньне хуткасьці - напрыклад, 150 ці 130 км. Уражвае, як немцы глядзяць за сваімі машынамі. Нездарма кажуць: улюбёнае дзіцятка немца - гэта машына. Яны ўсе ў добрым стане, дагледжаныя, і што цікава, машын вельмі многа, але паветра не забруджанае. Пасьля Франкфурту ў Менску кідалася ў вочы, што праедзе дзьве машыны - і ўжо дыхаць няма чым. У Франкфурце іх сотні, тысячы езьдзяць, і гэта ня надта заўважна.

Яшчэ можна сказаць, што Нямеччына - гэта жывая гісторыя. Часам ідзеш па вуліцы, чытаеш на шыльдзе, што тут адбывалася шмат стагодзьдзяў таму, і адразу гісторыя перад вачамі паўстае. Напрыклад, у Франкфурце ёсьць будынак гістарычнага музэю, які адной сьцяной выходзіць да раку Майн. Там вісіць шыльдачка, што ў тысяча пяцьсот нейкім годзе ў горадзе была вялікая паводка, і вада паднялася вось дасюль. І адразу я бачу, што гэтаму будынку як мінімум пяцьсот гадоў, але ён стаіць і можа прастаяць амаль столькі ж. Такая вось маленечкая драбніца, нічога асаблівага, але адчуваньне, што гісторыя побач.

Ці, напрыклад, ёсьць у Нямеччыне вулачка, дзе стаіць дом, які ў свой час належаў спадару Ротшыльду. І напісана, што прозьвішча ягонае пайшло ад таго, што на доме была чырвоная шыльдачка - "рот шыльд". Вось такія рэчы. Альбо ўзяць царкву Апостала Паўла ў Франкфурце - яе называюць калыскай эўрапейскай дэмакратыі. Заходзіш у гэтую царкву і міжволі кожнага разу думаеш, якая грандыёзная зьява тут нарадзілася.

Ёсьць яшчэ цэлы шэраг дробязяў - напрыклад, нямецкая чысьціня. У Нямеччыне яна ўзьведзена ў ранг закону. Напрыклад, калі я жыў у Нямеччыне, я павінен быў раз у месяц мыць лесьвіцу і кавалак вуліцы перад нашым пад'ездам - з мылам і са шчоткай! Я ўпершыню ў жыцьці пабачыў, што можна мыць вуліцу, каб было чыста.

Падабаецца мне яшчэ такая дробязь, як нямецкая пунктуальнасьць. Калі немец сказаў, што нешта будзе зроблена а шостай гадзіне вечара, то гэта будзе зроблена ў 17.59. Дарэчы, гэта тое, чаго мне прыйшлося ў Нямеччыне вучыцца, бо я прывык да нашай славянскай часам бязладнасьці. Як у нас кажуць, "я свайму слову гаспадар: слова даў - слова ўзяў". У немцаў слова значыць многа: калі сказаў - абавязаны выканаць. І самі яны, натуральна, так робяць.

Мне не давялося сумаваць у Нямеччыне. Пасьля працы ў мяне былі розныя цікавыя занятки: я вывучаў нямецкую мову, хадзіў у басэйн або проста абуваў спартовыя туфлі і бегаў па парку ці ішоў у трэнажорную залю. А яшчэ мы вельмі часта зь сябрамі-немцамі спантанна зьбіраліся ды ішлі піць піва пасьля працы альбо сядзелі дзе-небудзь ва ўтульным рэстаранчыку. Вельмі часта немцы запрашалі ў госьці да сябе. Аднойчы, памятаю, у пятніцу мой сябра прынёс на працу новую цікавую гульню, накшталт "Манаполіі", і пасьля шостай вечара, калі ўсе ўжо разышліся, мы сядзелі, чатыры дарослыя чалавекі, пілі гарбату і гулялі ў гэтую гульню да трох гадзін ночы. Гэта да пытаньня, ці немцы азартны народ.

Так, многія немцы любяць жалезны расклад, але гэта таму, што жыць па ім вельмі звыкла і ўтульна. Калі, напрыклад, гадзіньнік працуе ўвесь час у адным рэжыме, гэта добра для мэханізму. І для арганізму гэта добра таксама. Іншая рэч, што прымаць ці не прымаць гэта - справа густу.

**Руслан КАЧАТКОЎ**

Руслан упершыню прыехаў у Нямеччыну ў 1994 г., калі быў студэнтам Менскага мэдычнага інстытуту і рабіў там навуковую працу. Пасьля інстытуту, будучы асьпірантам, ён выйграў грант Нямецкага таварыства дапамогі маладым навукоўцам і вучыўся ў Нямеччыне ў 1996-99 гг. Там абараніў дысэртацыю, працаваў асыстэнтам у шпіталі і навуковым супрацоўнікам у цэнтры дзіцячай анкалёгіі. У 1999 г. пераехаў у Канаду, дзе працуе навуковым супрацоўнікам у фармакалягічнай кампаніі. Дагэтуль падтрымлівае зь нямецкімі калегамі шчыльныя працоўныя сувязі, выяжджае ў Нямеччыну чытаць лекцыі.

## жывая мова

Як навучыцца гаварыць і пісаць па-беларуску без памылак? Гэтая праблема актуальная для большасьці беларускіх канадыйцаў. Некаторыя з нас далучыліся да роднай мовы толькі ў Канадзе, іншыя вывучалі ў школе ды ўнівэрсытэце толькі "савецкі", шмат у чым скалечаны яе варыянт. Найцяжэй, напэўна, нашым дзецям - у Канадзе няма нават нядзельных беларускіх школаў, дый беларускія дзіцячыя кніжкі тут цяжка дастаць. Мы вучымся беларускай мове ад нашых вэтэранаў-эміґрантаў, але й іх застаецца, на жаль, усё менш...

Вось чаму з гэтага нумару газэты мы пачынаем друкаваць сэрыю артыкулаў "Жывая мова". Яе аўтар **Юрась БУШЛЯКОЎ** - кандыдат філялягічных навук, адзін з найлепшых сучасных беларускіх мовазнаўцаў. Усе тэксты прагучалі сёлета на беларускім радыё "Свабода", для якога й былі напісаныя.

### 1. КЛІЧНЫ СКЛОН

Да сёньняшняга дня беларуская мова захавала клічную форму назоўніка. *Іване, Васілю, хлопча, дружа* - зьвяртаючыся, нам варта ўжываць такія беларускія формы. Іх паменела ў пасьляваеннай моўнай практыцы - жывучы другой моваю, савецкія граматысты вывелі клічныя формы за рамкі літаратурнае нормы. Апошнімі дзесяцігодзьдзямі клічныя формы памалу ажываюць, вяртаюцца. Утварыць такую форму можам ад кожнага назоўніка мужчынскага роду з канцавым зычным. Калі ўтвараем ад назоўніка на цьвёрды зычны, маем клічную форму на **-е**: *брат - браце, сусед - суседзе, Максім - Максіме, Павел - Пауле, народ - народзе.* Калі на канцы пачатковай формы мяккі зычны, клічная будзе на **-ю**: *Алесь - Алесю, Мікалай - Мікалаю, гай - гаю, край - краю.* Ад слова *дзед* клічная форма - *дзеду.* Літара у таксама на канцы ў назоўніках з асноваю на **-р** і **-к**: *гаспадар - гаспадару, вецер - ветру, каханак - каханку.*

Ужываючы ветлы зварот *спадар*, не забываймася на магчымасьць клічнае формы й у гэтым выпадку: *спадару міністар* ці - з абодвума словамі ў клічным склоне - *спадару міністру.* Невялікая група назоўнікаў мае клічную форму на **-а**: *хлопча, чалавеча, княжа.* Памятаем Купалаў радок: "Гусьлям, *княжа*, ня пішуць законаў".

На заканчэньне - яшчэ адна цытата. "Усё ж - такі пішу да вас, *Вацлаве*, словы нясьмелага ліста", - так да Вацлава Ластоўскага зьвяртаўся Максім Багдановіч. Аналягічна, шануючы суразмоўца клічным склонам, можам зьвяртацца па-беларуску й мы. Скажам, ужываючы клічную форму: *сыне, Антоне, Міхасю, дзеду, спадару.*

### 2. ДВОР І ВУЛІЦА

Часам можна пачуць ад людзей, якія гавораць па-беларуску: *былі на **вуліцы**, вярнуліся з **вуліцы**, горача сёньня на **вуліцы**.* У такіх і падобных фразах слова ***вуліца*** ўжываюць у нетрадыцыйным для беларускае мовы значэньні - у сэнсе прасторы пад голым небам, прасторы па-за памяшканьнем (домам, кватэраю й г.д.). У аўтэнтычнай беларускай мове ***вуліца***, як правіла, - гэта ўсяго толькі праход, праезд, прастора паміж двума радамі дамоў. *"Дзе хочаш гуляй, толькі на вуліцу не хадзі!"* - так ці прыблізна так мацеркі ў нас перасьцерагаюць сваіх дзяцей ад бяды, якая надарыцца можа на ***вуліцы***. Значэньне месца, проціпастаўленага памяшканьню, перадае ў нашай мове другое слова - назоўнік ***двор***. Горача ня толькі на ***вуліцы*** - горача й па-за ёю, таму скажам, што горача на ***дварэ***. Нас не было дома, гулялі ў парку - вярнуўшыся, мы скажам, што былі ***на дварэ***. Спалучэньне ***на вуліцы*** выкарыстоўваем, калі гаворым пра тое, што сапраўды адбываецца на нейкай ***вуліцы***: *на **вуліцы** - дэманстрацыя, а на **дварэ** - дождж.*

Такім чынам, ужываем слова ***вуліца*** толькі зь яго першасным, праславянскім значэньнем. Гаворым традыцыйна: *вярнуліся з праходкі - былі **на дварэ**, на **дварэ** цёпла, на **вуліцы** шумна.*

Юрась БУШЛЯКОЎ

(Працяг будзе.)

## адкрыцьцё нумару

Нядаўна сябар ЗБК Піліп Тананка прынёс у рэдакцыю "Беларускага слова" маленькія літаратурныя шэдэўры. Гэта лісты да сваякоў, якія напісала ягоная стрыечная бабуля, Ганна Рыгораўна Тананка.

...Яна страціла абодвух бацькоў у шасьцігадовым узросьце - іх расстралялі фашысты. Засталася з двума братамі, скончыла васьмігодку, працавала ў калгасе. Зараз жыве ў вёсцы Лукі Карэліцкага раёну пад Мірам. Пакутніцкі лёс вясковай беларускай жанчыны з пакаленьня народжаных перад вайною. Незвычайна тое, што Ганна Рыгораўна размаўляе і піша вершамі. Атрымліваецца гэта ў яе настолькі нязмушана, што міжволі задумаешся: а ці ня ёсьць такі спосаб маўленьня больш натуральным, чым нерытмаваная проза? Тут жа прыгадваюцца "Тарас на Парнасе", "Новая зямля", "Сказ пра Лысую гару"... Ганна Тананка нікога не капіруе, нікому не наследуе - яна гаворыць, як дыхае. У другім лісьце цікава назіраць, як верш пачынае сам вырастаць з празаічнага тэксту: спачатку рыфмаваныя словы цяжка вылучыць вокам, потым верш "крышталізуецца" канчаткова, каб ператварыцца ў яшчэ адзін бліскучы ўзор народнай мудрасьці й досьціпу.

Усім ахвотнікам заўчасна пахаваць беларускую мову - прысьвячаецца...

### Ганна ТАНАНКА

* * *

Добры дзень, паважаныя.

Дзякуй, ліст атрымала,
І прыемна чытаць,
Добрых слоў там нямала,
З плюсам стаўлю вам пяць.

Бо як мне так здаецца,
Слова к слову там льецца,
І за крокам ёсьць крок
Па напрамку, ня ў бок.

А я ж паэткай не была,
Ёю ня буду я ніколі,
А проста думкам ход дала,
Бо вельмі просяцца на волю.

Пішы пра тое ды пра гэта,
Дыктуюць часта уначы,
Пішы пра цёплы промень лета,
А калі холадна - крычы.

Ды гэтак просяцца на волю,
Ніяк я іх не упрашу.
Крычаць яны нібыта з болю -
Сядаю я і зноў пішу.

І лёгка мне гэта даецца,
Бо праўду я пішу, здаецца.
І ў ногі кланяюся Богу,
Каб Ён паслаў нам дапамогу.

Прашу угоднікаў сьвятых
І аб праблемах зноў я тых,
Каб нам прыслалі перамену,
Ці мо людзей якіх на зьмену.

Бо вы - радня, мне сваякі.
А сьвет наш сёньня ўжо які:
Хоць маем сала,
Шклянку кавы,
А ён зусім нам нецікавы.

Так не цьвітуць на лузе кветкі,
Ёсьць наркаманы, пьюць падлеткі.
І я пісаць так вершам мушу,
Каб не скалечыць людзям душу.

Бо дажыліся да галечы,
Ды і ў душы шмат ёсьць пустэчы.
Так часта людзі б'юць баклушы
З прычыны той - пустыя душы.

І вось затым так вершам пішацца,
Бо сьвет наш так і сяк калышацца.
Калі паглядзіш на экраны -
Як соль пасыпана на раны.

Там нейкі блуд і турзаніна,
І за хвілінаю хвіліна
Рэкламы злосныя, нажы,
Хоць ты у сьвет куды бяжы,

Каб нешта добрае убачыць.
Ці можа, лепш там хто тлумачыць,
Бо я такога не хачу:
Яго хапае ў нас, лічу.

Ды й людзі часта паміраюць,
А Богі лепшых забіраюць.
А застаецца далей тут
Нас зьневажаць, даруйце, бруд.

Памёр і ўчора чалавек,
Яго кароткі вельмі век:
Сорак чатыры жыў гады.
І я лічу, што малады.

І гэта Сідараўны зяць,
Яго рашылі Богі ўзяць.
Ён узначальваў там калгас
У Райцы недзя, не у нас.

А ў Ліды, цёшчы, ён тут жыў,
І ўчора рукі так злажыў.
Ён жыў прыгожа і грунтоўна,
Але памёр вось так раптоўна.

Хацеў зрабіць ён справаздачу,
Хаваюць сёньня, я ўжо бачу.

А жонку ў Пухавічах кінуў,
Але дзяцей ён не акінуў.
І ўзяў Тамару, маладзіцу,
Зь дзіцём, як кажуць, разваднiцу.

У іх дзяцей сваіх няма.
Дзясятак жыў тут не дарма:
Пабудаваўся ён прыгожа.
О, Божа мой, Ўсявышні Божа.

А зараз бачу, на грудку
Нясуць вянкі, як па Дудку.
Бо старшыня ён быў калгаса,
Ў яго была улада, каса.

Каб паважалі пасьля сьмерці,
Ім, мусіць, хочацца памерці.
Дзеля бліскучае труны,
Мо паміраюць так яны.

Прызнацца, я яго шкадую,
Хоць так пяром адкрыта дую.
І як памру я, з таго сьвету
Пісаць папробую ў газету,

Бо бачу я, на гэтым сьвеце
Няма мне месца у газеце.

І вось такая мая казка,
Яе чытайце, калі ласка.

* * *

Добры дзень, дарагія родныя!

Атрымала ваш ліст, дзякуй Богу. Дзякуй вам, што яшчэ жывём і можам перакінуцца словамі хоць цераз паперу. Вось села на хвілінку за стол, каб напісаць сьпісак "за упакой". У суботу пайду памаліцца за нашых памёрлых, а асабліва за бабы Любы гадавіну.

Пішу і памінаю, здаецца, нікога не мінаю, а сама думаю, ці ўспомніць хто мяне. Пайду адна ў царкву, бо няма нікога: гасьцёўні рабіць ня буду, а хлопцы мае ні ва што ня вераць, пакуль на сабе не праверaць.

Я таксама можа не вялікай веры, але сяды-тады, калі мяне адпусьцяць, адчыняю ў цэркаў дзьверы, і Бог пускае мяне цераз парог. А як выйду за дзьверы - адчуваю, што ізноў бязь веры. Бо, ведама, мы, людзі, - грэшнікі: пакуль дойдзеш да хаты, будзеш ізноў вінаваты. Але справа ня ў тым, каб быць сьвятым, хоць ідзём мы затым, але, на жаль, не атрымаецца, пакуль грэшны язык не ўстрымаецца.

Хацела б я пісаць тое ці ня тое, але так хочацца, каб не абразіць чыстае, сьвятое, і каб ня даць таго пад ногі, у каго просім дапамогі. Бо кожны свой крыж нясе і па-рознаму адчуваюць усе, адзін маўчыць, другі крычыць, а трэці як пярынку імчыць. На жаль, я не адношуся да тых цярплівых, добрых і сьвятых, але лічу, што вельмі трэба глядзець сяды-тады на неба.

І я лічу, што Бог там ёсьць, і ён сяды-тады ў нас госьць.

Сярожа наш амаль ня курыць
і з водкай гэтак нас ня дурыць.
І гэта, я лічу, ад Бога
узнагарода, дапамога.
Учора ўнучка ліст прыслала,
і нібы стол для нас заслала.
І я за гэта Богу ўдзячна,
што так было нам вельмі смачна.
Хоць нам жыцьцё ня цешыць душу,
а крыж нясьці я гэты мушу.
Бо сьвет наш сёньняшні які?
Чужымі сталі сваякі.
(Яшчэ, прызнацца вам наразе,
ня маю вас ў тым на ўвазе.)
Але нас дзеці падвялі,
жыцьцё сарвалі, не далі.
Яны і самі не жывуць,
а нас так тузаюць, ірвуць.
І хлеб да хлеба на стале,
але ня тое, што але.
Што мы бы птушка ў той няволі,
ад дзікіх слоў памром ад болю.
Што мы машыны не купілі,
а мы ж жыцьцё, як птах, ляпілі.
А сын нас моцна так карае,
што за машынай памірае,
і кажа, мы каб паміралі,
бо дарма грошы сабіралі.
А ў чым жа наша тут віна,
што так лютуе сатана?
Што сын гарэлку так запіў,
машыну бацька не купіў.
Законы з намі паступілі,
што мы нічога не купілі.
Абманы ўсюды, люты зьдзек,
а што ты зробіш, чалавек?
Жывеш - нібыта зьеў бяз солі,
ні праў ніякіх і ні волі,
і хочаш - ціхенька маўчы,
а хочаш - лопні хоць крычы.
Нічога гэтым не дакажаш,
а толькі змучышся і зьляжаш.
А тут а-ёй, а-ёй работы,
ані нядзелі, ні сыботы:
фазэнды трэба ўсе апратаць,
варыць, памыць і што падлатаць,
а летам сена і салома -
у калгасе дзялкі ў нас, вядома.
І вось матыкі, граблі, вілы
ў руках парвалі ўжо нам жылы,
так што ня прыдзецца старэць,
на газе ў хаце сьпіну грэць.
(А газ ня дорага каштуе,
хоць і за газ Сяргей лютуе.)
Ну і бывайце ўсе здаровы,
пайду карміць сьвіней, каровы.

# Шкварка

## літаратурна-мастацкі альманах

Ірына ВАРАБЕЙ

# БЕЛАРУСЫ, ВАС ЧАКАЮЦЬ КНІГІ! ЦІ СЬМЕХ ПРАЗ БОЛЬ

Назва вабіла, распаляла цікаўнасьць. Гараватка - гэта што ж такое? Мянушка (на ўспамін прыходзіў "гаўрош")? Ці назва зброі? Ці, можа, яшчэ якое невядомае мне слова - ці мала я іх ужо тут пачула й прачытала ў кнігах "старое эміграцыі"? ..А гербавая "кірпатая" птушка, празваная аўтарам "дзярлівай", расставіўшы крылы ў бакі, хітра касавурылася на мяне з вокладкі кнігі, дражніла мянушкай: "дзярлівая" нагадвала расейскае "драчливая".

...Напэўна, упершыню ў маім жыцьці сталася так, што я спачатку пазнаёмілася з чалавекам, а потым зь ягонымі кнігамі. Дый ці многа ў сваім жыцьці я сустракала іх, пісьменьнікаў? Трэба ж было прыехаць у Канаду, уключыцца ў жыцьцё ЗБК, каб пасябраваць тут з добрым і разумным, вясёлым і шчырым, але й вострым на язык чалавекам, якім аказаўся выдатны (але недастаткова вядомы пакуль на радзіме!) беларускі пісьменьнік Кастусь Акула.

...Наша знаёмства пачалося з таго, што ён даверліва, як старому сябру, расказаў адну гісторыю з часоў сваёй маладосьці: удзельнічаў у нейкай дэманстрацыі, толькі памкнуўся быў зьдзейсьніць палітычны подзьвіг, як на яго, бач, напусьцілі конную паліцыю. "...Слухай, а ты ведаеш, як на кані атакуюць?" - "Ага, ведаю. Задам!" - "Го, ды ты ўсё ведаеш! ...Але, скажу табе, ніхто ня можа зладзіць з конскім азадкам!"

Потым было яшчэ шмат аповедаў зь ягонага складанага, супярэчлівага жыцьця, поўнага і трагічных, і камічных падзей. А таксама неардынарных учынкаў, што зрабілі яго адметна вядомым, але далёка не ў літаратурных асяродках.

Напэўна, праз гэтыя подзьвігі яго як лідэра "штурмавой брыгады" канадыйскіх студэнтаў, якая граміла на палітычных дэманстрацыях левых ды камуністаў, ведала таронтаўская паліцыя, уключыўшы ў свой "чорны сьпіс". А ў такі ж цёмны сьпіс, але ўжо славутых заакіянскіх "ворганаў" ён трапіў, калі са сваёй брыгадай наладзіў ветлівую сустрэчу Ансамблю песьні і танцаў Чырвонай Арміі: *"Мы рады приветствовать вас на благословенной канадской земле! И мы ненавидим коммунистический режим так же, как ненавидите его вы!"* ( "Ты ж ведаеш, палова зь іх - "левыя": "спартоўцы" вось з такімі пузамі - кэдэбэшнікі!")

Гэты "цёмны шыбенік, што бадзяўся па задворках "вольнага сьвету"* заслужыў званьне "ганаровага агента" ЦРУ, калі наладзіў асьветніцкую імпрэзу для наведвальнікаў беларускага дня на Манрэальскай сусьветнай выставе "ЕХРО-67": з воклічам "Сьмерць крамлёўскім забойцам! Свабоду беларускаму народу!" шпурнуў у натоўп пачак улётак, у якіх тлумачылася, што існуе ў Канадзе "Згуртаваньне беларусаў Канады" і яно змагаецца за незалежнасьць Беларусі. (Па дарозе ў суд ён нястомна працягваў адукацыйную місію, супакоіўшы свайго бялявага канваіра, што ягонае незразумелае прозьвішча *Kozel* азначае на мове ягоных продкаў прадстаўніка менавіта мужчынскага полу ўсімі любімай жывёлы.)

...Цяпер яму 78. Ён мудры, але не стары. Ён паспакайнеў, але ўсё такі ж безжурботны і дасьціпны, а часам і зьедлівы. Усё яшчэ поўны цікаўнасьці да ўсяго, што робіцца ў сьвеце, і жаданьня працаваць.

А подзьвігам сталася ўсё ягонае жыцьцё.

...Ён пакінуў сваю радзіму ў 1944 г., каб пазьбегнуць савецкіх рэпрэсіяў: да гэтага часу ён уступіў у Беларускую Краёвую Абарону, што змагалася за незалежнасьць Беларусі. Потым далучыўся да 2-га Польскага корпусу 8-й Брытанскай Арміі. З гэтай жа прычыны ён зьмяніў сваё імя Аляксандар Качан на Кастусь Акула. (У польскай афіцэрскай школе ў Англіі накпонт яго - адзінага беларуса - палякі перасьцерагалі: "Не чапайце Акулы: бо ён укусіць!"- гэты рослы, магутны дзяцюк мог абараніць свой нацыянальны гонар ня толькі вялізнымі кулакамі, але й вострым языком!)



Ірына Варабей і Кастусь Акула

Эміграцыя ў Канаду не была асаблівым выбарам. Сярод цэлай хвалі паваенных перасяленцаў Канада прыняла і тысячы беларусаў. Канада дала ім спакойны, надзейны прытулак, а галоўнае - тое, чаго ня мелі мы на радзіме: магчымасьць захоўваць сваю нацыянальную свабоду. Тут Акула стаў адным з ініцыятараў стварэньня ЗБК і аднаўленьня Беларускай аўтакефальнай царквы на выгнаньні, а таксама арганізаваў беларускі друк. Гэтае пакаленьне беларускай эміграцыі ўсе намаганьні свае прыклала да таго, каб тут, у вольным сьвеце, нас прызналі як адметную нацыю і як паняволеную нацыю асаблівa.

Акула турбаваў ня толькі паліцыю. Ён шмат супрацоўнічаў з канадыйскімі і таронтаўскімі выданьнямі. Сябры ўраду памятаюць яго таксама: "Акула ваш трымаецца яшчэ? Як ён там?"

Для мяне так і засталося загадкай - таямнічай і захапляльнай! - як ён пасьпяваў працаваць на фабрыцы, даглядаць сям'ю, выпускаць газэты, выконваць абавязкі старшыні ЗБК і яшчэ пісаць кнігі?! А лёс ягоны ня быў простым: жонка цяжка хварэла, на тую ж хваробу пакутавалі і іхныя чацьвёра дзяцей. Сын Алесь памёр 20-гадовым.

Ён выдаваў свае кнігі за свой кошт і ніколі ня меў зь іх прыбытку. Злыя языкі жартавалі, што Акула сам піша кнігі, сам іх выдае і сам чытае. Але ён заўсёды гаварыў: "Я не пішу за грошы". А цяпер ён дапамагае іншым: дасылае грошы на Беларусь для падтрымкі маладых пісьменьнікаў, незалежных выданьняў і іншых грамадзкіх ініцыятываў. Сьв. пам. В.Быкаў у тэлефоннай размове з канадыйскім літаратуразнаўцам З.Гімпелевіч аднойчы запытаўся: "Ці ёсьць там у Акулы што паесьці ў хаце: ён жа ўсе свае грошы раздае!"

А кнігі Кастуся Акулы яшчэ чакаюць сваіх чытачоў. І сапраўдная, заслужаная вядомасьць і любоў суайчыньнікаў яшчэ прыйдуць да яго. Раман "Змагарныя дарогі" ўжо знайшоў сваю дарогу на радзіму і адразу, у 1995 г., нягледзячы на разгубленыя пратэсты "сьвежаагульнанароднавыбранага", атрымаў Нацыянальную прэмію. Пасьля таго шлях, зразумела, закрыўся ізноў...

Я сваё знаёмства з творамі Акулы пачала з "Гараваткі" - рамана ў трох кнігах: "Дзярлівая птушка", "Закрываўленае сонца" і "Беларусы, вас чакае зямля!"

...Недзе на поўначы Беларусі (адкуль родам сам аўтар), каля адметнага агромнага сугра (ці кургана) Гараваткі, сярод лясоў, у лагчыне ўтульна разьмесьцілася ціхая вёсачка Літоўцы. Жыве там сабе пад Богам і сонцам мірны, працавіты народ. І ўсё б нічога, але "пашчасьціла" менавіта тут пралегчы вялікаму гасьцінцу, што сабраў у сабе ўсе шляхі з усходу на захад і назварот. А таму так ужо лёсам склалася: пераканаўся за стагодзьдзі "літоўскі люд, што як калі дзе гістарычны вецер і разьдзьмухае вялікую буру, дык ня мінуць ёй іхнае краіны і Літоўцаў". Каго толькі і чаго не насіла па гэтых шляхах! І ўсё больш шчодрых "вызваліцеляў" усіх родаў і масьцей. Помнілі тут людзі яшчэ "Напалеонаўскіх французаў", а зусім нядаўна толькі "памірылі" яны ў гараватчыных нетрах тых, што іншага месца сабе ва ўсім сьвеце былі не знайшлі, як ускараскацца во на Гараватку, каб за грудкі тут узяцца й хойдацца між сабой - адны за "гаймат", другія "за веру, цара і ацечаства".

Разам са старым, як легенда, магутным волатам-дубам Архіпам, што стагодзьдзямі азірае навакольле са сьпіны Гараваткі, мы станем сьведкамі жыцьця вёскі Літоўцы на працягу трох канкрэтна азначаных гісторыяй і кнігамі пэрыядаў. У "Дзярлівай птушцы" - пад уладай Польшчы; потым "дзярлівую (драпежную) птушку" зьменяць "закрываўленыя" серп і молат; а далей тое чырвонае "сонца вызваленьня" саступіць месца чарговым "вызвольнікам зь непераможнага Райху", што будуць шчыра надзяляць беларусаў беларускай зямлёю - кожнаму, колькі хто захоча! - ну вось хоць бы і метар на тры...

Нам прапануецца паглядзець на падзеі гэтага бурнага, супярэчлівага і яшчэ не да канца асэнсаванага пэрыяду нашай гісторыі не праз старонкі савецкай хронікі, а вачамі літоўскіх сялян. І галоўная каштоўнасьць рамана ў тым, што аніводны эпізод, ніводзін пэрсанаж у рамане не прыдуманыя аўтарам (зьмененыя толькі імёны; а некаторыя героі жывуць там і па гэтую пару). Хаця сам Кастусь не хацеў бы, каб раман лічылі проста аўтабіяграфічным творам. Не, цымус ня ў гэтым!

А справа ў тым, што ты паступова заўважыш, што і ўсе гэтыя гісторыі, сьмешныя і сумныя, і чалавечыя лёсы, перакручаныя ў гістарычнай мясарэзцы разам зь лёсам краіны (як той казаў, "наўмысна не прыдумаеш" - дый ня трэба!) нейкім чынам не чужыя табе. Ты ўспомніш, што гэткія ж развагі і думкі ты чуў ад сваіх бацькоў і дзядоў. Чуў, але тады не зрабіў апошніх некалькіх крокаў да той, іншай праўды, але толькі сёньня пагаджаешся, што "вызвольнікі" бяруцца ў двукосьсе, а "партызаны" замяняюцца на "бальшавіцкія банды" нездарма. А ў сымптомах "чужой моднай хваробы" пазнаеш сьветлыя ідэі самага правільнага ў сьвеце вучэньня... І ты ўбачыш жыцьцё, якім яно й было - праўдзівым. Гэтай праўдзе можна верыць - бо занатоўвалася яна, хранілася чалавекам, якому не было патрэбы азірацца ні на дырэктывы "руководящей и направляющей", ні на статуты якіх бы там ні было "творческих союзов".

Тым, хто цікавіцца новым паглядам на падзеі даваеннага і ваеннага часу ў Беларусі, але засынаюць на сур'ёзных гістарычных артыкулах, - чытайце Акулу! Голас ягоны, што вы пачуеце са старонак кнігі, часам вясёлы да сарказму, часам горкі да болю; мова ягоная такая каларытная, якую цяпер, можа, толькі на вёсцы ад якога зухаватага дзеда-барадзеда і пачуеш, - сумаваць вам не дадуць!

...А што ж Гараватка? Дык там легенда пра яе ёсьць. А як жа ў нашым краі безь легенды! Звалі князя Гаравік... Але далей я расказваць ня буду - Кастусь ужо зрабіў гэта лепш за мяне - чытайце!

Чытайце - нарагочацеся, наплачацеся... а заадно спазнаеце тае праўды, што перахоўвала тут нашая "старая эміграцыя".

Калі б я прачытала гэтыя кнігі ў 70-х гадах - я б, сапраўды, падумала, што іх напісаў агент ЦРУ. Калі б я прачытала іх у сярэдзіне 80-х - яны б былі для мяне поўным адкрыцьцём. Але я чытаю іх толькі цяпер... Цяпер гэта - мудрасьць. І прыклад.

...Ат, можа, ці раз пашкадавала, што ня ведала яго маладым, у тыя яго зухаватыя гады, калі пісалася "Гараватка". Але ж я тады яшчэ толькі вастрыла свой язык аб соску ў калысцы: Кастусь дакладна равесьнік майго бацькі. Але бацькі майго ўжо даўно ў мяне няма. А ёсьць тут, у Канадзе, добры і мудры дзядзька Кастусь. І я вучуся ў яго.

Я вучуся ў яго цярплівасьці і аптымізму. Я вучуся берагчы нашую Веру ў адраджэньне і незалежнасьць, як храніў яе і змагаўся за яе праз гады і гады выгнаньня ён.

Ён вучыць мяне: "Аддзялі свой розум ад сэрца. Усе чалавечыя беды ўзьнікаюць ад страху і панікі, што зьяўляюцца ў ягоным сэрцы. Я ведаю, гэта ня так проста. Я сам вучыўся гэтага праз усё жыцьцё. ...Я ведаю, тваё сэрца поўнае гора; гэта ня можа быць інакш. Зрабі гэта - тваё сэрца і твой розум вартыя таго. Ты мусіш."

Ён гаворыць: "Творчасьць нараджаецца ад болю". І я згодная зь ім: гэта так і ёсьць для нас цяпер. Але спадзяюся, што ў будучым будзе па-іншаму.

..."Слухай, а ты ведаеш, што дапамагае нам так упарта трымацца ў гэтым сьвеце і выжываць?" - "Але, ведаю!" - "Ага, ты ўсё ведаеш! ...То так, гэта Гумар!"

Гэта так. Я веру яму. Я адчуваю боль з кожнай старонкі ягонай кнігі, таму што кожная зь іх прымушае мяне сьмяяцца.

*Цытата ўзятая з кнігі фэльетонаў аб беларускай эміграцыі: В.Мацкевіч., "Выкапні", Мінск., 1973, с.52.

Гэты эпітэт змайстраваны аўтарам "фэльетону" менавіта для К.Акулы.

## кнігі

Кастусь АКУЛА

# Гараватка

(Урывак з раману*)

Скардзіліся людзі старому Бураку: навошта так сына распусьціў? Прыбяры яго да рук, а ня то мы самі прывучым!

Адказваў Паўлюк: "Што я зь ім, басячугам, зраблю, людцы добрыя? Рабіць ня хочыць, мяне ня слухаіць, сварыцца-агрызаіцца..."

Раілі людзі: аддай дзе за краўца ці шаўца, каб наламаўся, кавалак хлеба каб у руках меў.

Паслухаў Паўлюк людзей. Не да смаку тое Косьціку прыйшлося, калі ў другую вёску за краўца вучыцца мусіў ісьці. Гультаюга-абібока быў зь яго першаклясны, але-ж іголка - то не сякера ці плуг - у руках трымаць лякчэй.

Тры ці чатыры гады кравецкаму рамёству вучыўся Сабакевіч. Павесялелі за гэны час літоўскія людзі, лякчэй пачало вадзіцца сабакам, калі Ромка ў старога Бурака на прывязі скуголіў.

Аб тым, што за гэны час кравецкага шкаленьня Сабакевіч зусім новую й пабочную навуку здабываў, ні ведаць, ні сьніць літоўскія не маглі. Заразіўся Косьцік камунізмам. Нарэшце, - наважыў Косьцік, - тутака ўсе адказы былі. І на будучыню ўсё добра варажыла. Вунь зь Менску (тады ўжо на Мінск Маскалямі перайменаванага) цэлы час гарлапанілі, што яны аб заходня-беларускіх сялянах і рабочых турбуюцца ды ў гэнай турбацьі прост-напраст бяссоньніцай морацца, што калі насьпее такі час, дык тут не агледзісься, як яны гэтым бедным заходнім Беларусам руку дапамогі пададуць. Рука тая даўно, быццам, выцягнутая чакае, адно, відаць, час яшчэ не насьпеў.

І пачала інтэнсыўна й напорыста працаваць Сабакевічава галава, тая самая, якую нядаўна яшчэ "дурной як трэба" называлі. "Чакайце-ж, - думаў Косьцік, - прыдзе дзень, дык усіх вас як сабак выдрасірую".

Найбольш Сабакевічу ў камунізьме ўсе гатовыя адказы да смаку прыйшліся. Чым больш думаў аб іх трапнасьці й правідловасьці, тым больш імі захапляўся. Вазьмі хаця гэты, што ў тым "тэрцыянале" быў: "мы наш, мы новы мір пастроім, хто быў нічэм, той станіць фсем". - От дык хвостка. Проста цымус! - усклікнуў Косьцік, першы раз яго пачуўшы. Ад захапленьня чаго не прысеў. Гэта-ж трэба вунь якія галовы, каб так выдумаць! Чалавек ці адзін злысеў-бы й рады ня даў, а тутака так проста й ясна, як у сук уляпіў: "хто нічэм, той фсем". У тым ліку, пэўна-ж, і ён, Буракоў Косьцік, што да гэтага часу самым апошнім шэранькім "нічэм" па завугольлях лындаў, дык адразу ці не самы шчыт узьлезе. Пры такой саладжавай думцы ажно шырэў і распрамяняўся задаволенай зьедлівай усьмешкай таўсташчокі Косьцікаў твар. "От каб так было, - думаў, - гэта-ж ні аднаму дзе ракі зімуюць паказаў-бы". Думаючы пра гэтае апошняе "паказаў-бы", зьзялі ў Сабакевічавых вачох больш зласьлівыя агенчыкі, чымся тады, як свайго Ромку на чужых сабакаў нацкоўваў.


Кастусь Акула, жаўнер 2-га Польскага корпусу Восьмай брытанскай арміі. Італія, 1945 г.

Калі-ж стравіў ужо адну такую, як яму здалося, вялікую мудрасьць, калі пасьля гэтага наважыў шмат чаго й цімала каму ў будучыні паказаць, насьпела чарга й на іншае пытаньне: "А што-ж рабіць, каб тыя, што ёсьць нічэм, найскарэй сталіся фсем?" Тут чырвоны агэнт, гэны самы, што Сабакевіча вучыў, напагатове з адказам: "работаць, таварышч. Ідзею в масы, от как!" Той чырвоны нозьбіт цэлае бярэмя іншага наплёў, дый ня ўсё яно ў Косьцікаву маланачуную галаву адразу памясьцілася. Адно спанатрыў, што перш павінен сам "рускай грамаце" падвучыцца, каб пасьля тую "ідэю ў масы" нясьці й шырыць, каб якнайхутчэй "новы мір пастроіць і стаць фсем".

Косьцік так заядла за працу ўхапіўся, што "рускую грамату", быццам той галодны заяц мёрзлую капусту, цярабіў. Свае літоўскія людзі нашто ўжо Косьцікаву натуру ведалі, а цяпер, каб гэта ўбачылі, дык ніколі не далі-б веры, што гэты пільны вучань быў той самы злодзей і злыдзень Сабакевіч, што некалі ў пачатковай школе дзіркі на каленях папрастойваў.

Калі Косьцік пасьля навукі з рамёствам у руках у родную вёску вярнуўся, мала хто яго пазнаў. Падрос, паразумнеў, нават папрыгажэў. Ужо хто як хто, але нават тая самая пахатуха Аўдоля галавой зьдзіўлена ківала: "А ягодка-ж мая, а міленькая, глянь, як зьмяніўся хлапец. Як свае навучыць ні сумелі, дык чужыя радачку далі. Як пагараваў, дык і агледзіўся, нябось. Можа й будуць з яго яшчэ людзі, ягодка ты мая любая".

Ніхто ў Літоўцах аб заразьлівай Сабакевічавай хваробе ўявы мець ня мог, аж пакуль каля людзей не пачаў церціся. Сяляне-ж літоўскія наагул чыстыя й здаровыя былі, на сваіх трывалых устойлівых карэньнях гадаваныя, чужымі моднымі хваробамі ніколі дагэтуль не занемагалі. Хто-ж мог тады ў чым Сабакевіча падазраваць?

Сам Косьцік напачатку надта-ткі нясьмела й асьцярожна пачаў. Калі-ж спасьцярог, што хвароба даўжэйшы час да нікога прышчапіцца не хацела, ізноў тыц да таго агэнта: "так і так, маўляў. Памажы, бо нічога ні выходзіць". Той насамперш Косьціку добрую языковую лупцоўку даў, а пасьля раіў: "ты, брат, что? Беларучкай ідэею в масы думаеш? Так ня йдзёт! Ты ім, мол, проста й адкрыта, да ешчэ й ліцературу, вот как!" Пасьля такога настаўленьня ўзяўся Косьцік іншым тэмпам, з агнём і энтузіязмам завіхацца.

Людзі літоўскія ці раз раней пра камунізм чулі, а часамі й ад перабежчыкаў (мяжа-ж не за гарамі была) "з таго боку" весткі лавілі. Цікава-ж было, як там "у самым раі" жывецца. Ды неважнецкае ўцекачы пра "чырвоны рай" апавядалі. Значыцца, і ў гэтай галіне многія літоўскія падкаванымі былі. Жахнуліся, спасьцярогшы, што рабіў Сабакевіч. Ізноў вясковую рэакцыю на ягоную працу ці не найлепш падсумавала Аўдоля:

- А ягодка-ж мая, а міленькая, а ці-ж ні казала я, што зь яго людзей ня будзіць? І чаго толькі гэткаму добрыя людцы дзівіцца? Ці-ж то ня ён першым зладзюгам у вёсцы быў? Ці ня ўсіх сабак пазводзіў ды палову, як ня болі пакалечыў? Гэта-ж калі ў цюрму за бальшавіцкую работу трапіць, дык туды яму й дарога! Благое ня сеіш і ні даглядаіш, яно само расьцець.

Калі ўжо літоўскія добра ў Косьцікавай хваробе ўверыліся, некаторыя здалёк ад яго, як ад пошасьці, пачалі трымацца. Іншыя-ж ні так ні сяк ды ўсё-ткі-ж на бок стараніліся, каб лоб у лоб не сутыкнуцца, але каб і віду аб тым, што ўхіляюцца ад яго, Косьціку ня даць. Хто-ж яго ведае, што заўтра будзе. Адзін Шпунтоў Лявон і Макатунішчына Параска Косьцікаву немач пераняплі, ды тым часам людзі таго не спасьцераглі.

Сам-жа Сабакевіч проста збаранеў быў і ня мог угадаць, чаму людзі, здаецца-ж і недурныя, а такой вялікай і сьветлай, як сонца, праўды бачыць ня могуць: тут-жа й аб "новым міры", і аб "зямлі для фсех", і аб "раўнаправіі" было; адным словам, што табе толькі ў галаву набегла, каб жыцьцё паправіць, дык яно там рыхтык і ёсьць. Чаму-ж тады такой вялікай мудрасьці ня бачылі й напярэймы камунізму не сьпяшаліся?

**("Дзярлівая птушка", разьдзел 4.)**

*Друкуецца з захаваньнем артаграфіі аўтара.

## мастацкая галерэя

# Выстава Марыі Паўлі Сурвіллы

Нядаўна атрымалі мы вестку пра выставу беларускай мастачкі Марыі Паўлі Сурвіллы, якая адбылася сёлета ўва ўнівэрсытэцкім каледжы Вартбург у Аеве (ЗША). Выставы беларускіх мастакоў - штораз радчэйшае зьявішча на амэрыканскім кантынэнце. І таму вестка гэтая была для нас асабліва прыемнай, тым болей што мастачку мы добра ведаем: яна расла й вучылася ў Канадзе.


Марыя Пауля Сурвілла



На працягу месяца - між 6-м кастрычніка і 7-м лістапада - у Галерэі імя Вальдэмара Шміта дэпартамэнту мастацтва Вартбурскага коледжу выстаўляліся 36 твораў (жывапіс, малюнкі, фатаздымкі) гэтай таленавітай мастачкі, доктара навук у галіне этнамузыкалёгіі, заступніка старшыні Асацыяцыі беларусістаў Паўночнай Амэрыкі і 100-працэнтовай беларускі, народжанай у Гішпаніі, якая толькі 11 месяцаў свайго жыцьця правяла ў Беларусі, калі працавала над доктарскай дысэртацыяй на тэму беларускага року. Бальшыню свайго жыцьця Паўлінка - так мы яе тут называем - пражыла ў Канадзе.

Зьмест запрашальнага буклету цытуем у беларускім перакладзе:

"Марыя Пауля Сурвілла выстаўляецца з 1984 г., калі яна вучылася на мастацкім факультэце Атаўскага ўнівэрсытэту. Ейная мастацкая фатаграфія пераважна зьвязаная з досьведам аўтаркі ў постсавецкай беларускай культуры, якую яна вывучае як этнамузыказнаўца з 1989 г. Яе фотамастацтва й жывапіс выклікаюць інтарэс да таго, як можна трактаваць празаічны аб'ект, калі форма і колер засланяюць яго функцыю. Відаць у ейнай працы і захапленьне фігуратыўным мастацтвам, калі ў творах дасьледуецца часта стэрэатыпны візуальны канон".

Між творамі асабліва ўражвае жывапіс вялікага памеру "Бляск у Янаве", на якім яскравае сьвятло прарываецца праз чорнае вакно ў сялянскую хату Чарнобыльскай зоны. Здымкі беларускіх тканінаў, "русалак" і краявідаў, а таксама цудоўны здымак "Між двума бурамі", на якім сын мастачкі бяжыць па драўляным мосьце на тле чорнага неба, таксама шмат камэнтаваліся наведнікамі.

Я.ВІШНЕВІЧ







## анталёгія эміграцкай літаратуры

# Найвялікшая паэтка беларускага замежжа

Сёлета 20 верасьня споўнілася 100 год з дня нараджэньня найвыдатнейшай беларускай паэткі на эміграцыі Натальлі Арсеньневай, аўтара нашага рэлігійна-нацыянальнага гімну "Магутны Божа".

Натальля Арсеньнева нарадзілася і здабыла адукацыю ў Вільні: спачатку ў Віленскай беларускай гімназіі, потым у Віленскім унівэрсытэце. Тут, яшчэ падлеткам, пачала пісаць вершы. Максім Гарэцкі, які быў настаўнікам літаратуры ў гімназіі, першым заўважыў яе адметны талент і абвесьціў нараджэньне "новай Канстанцыі Буйла". Першы зборнік вершаў Натальлі Арсеньневай выйшаў у 1921 г.



Восеньню 1939 г., калі яе муж Францішак Кушаль, беларускі вайсковы і палітычны дзеяч, быў арыштаваны, Натальлю з двума дзецьмі выслалі ў Казахстан, дзе яна працавала ў калгасе. У траўні 1941 г., дзякуючы намаганьням Янкі Купалы, Арсеньнева была вызвалена, яна вярнулася ў Менск, дзе правяла ўсю нямецкую акупацыю. У гэты кароткі пэрыяд яна працуе вельмі плённа, і ня толькі ў паэзіі. Арсеньнева надзвычай шмат зрабіла дзеля станаўленьня нацыянальнае опэры і апэрэты. Ёю створаныя лібрэта для опэраў "Лясное возера", "Усяслаў Чарадзей" і апэрэты "З выраю" на музыку М.Шчаглова. Багата чаго перакладзена: "Затонуты звон" Гаўптмана, "Разьбіты кубак" фон Кляйста, "Вясельле Фігара", "Зачараваная флейта" Моцарта, "Кармэн" Бізэ, "Цыганскі барон" Штраўса ды інш.

У чэрвені 1944 г. з набліжэньнем Чырвонай арміі сям'я беларускага вайскоўца Кушаля эміграва ла ў Нямеччыну. У 1950 г. Н.Арсеньнева з мужам і дзецьмі пераехала ў ЗША, дзе паэтка і правяла далейшыя гады жыцьця. Памерла Натальля Арсеньнева 25 ліпеня 1997 г.

Таленавітая шчырая паэтка пакінула нам вялікую спадчыну: зборнікі цудоўных вершаў "Пад сінім небам", "Жоўтая восень", "Сягоньня", "Не астыць нам", "Між берагамі". Многія яе вершы былі пакладзены на музыку і сталі папулярнымі песьнямі і гімнамі: "Магутны Божа", "Беларусь! Наша Маці-краіна", "У гушчарах" і інш.

Падрыхтавала Ірына ВАРАБЕЙ

## Натальля АРСЕНЬНЕВА

### Шчасьце

Шчасьце - як сонца: маленькая хмарка
пройдзе па небе ціхім сярод дня, -
сонца ўжо сьвеціць так жутла, нияркa,
момант - і сонца няма.

Шчасьце - як вішняў вясьняныя краскі:
вецер павее, заплача вясна, -
сыплюцца сьнегам на дол яны гразкі,
момант - і красак няма.

Шчасьце - як сьветлыя, ясныя мары:
рэзкае слова, заўвага адна, -
і дагараюць яны у пажары,
момант - і мараў няма.

### Месяц

Месяц мокры і срэбны вылазіць з балота...
Расхінаючы гушчу пасохлых чаротаў,
па-над чорнай вадою, бліскучы й харошы,
лічыць золата жоўтае, золата грошай
і кідае мядзяную рэшту нядбала
у сьлізкую ваду, дзе ўжо скарбаў нямала.
За балотам, за шляхам, за цёмнай сярмяжкай
горад дыхае хрыпла, задышліва, важка...
Ў вечным грукаце, скрыгаце й стогне каменным,
лічыць грошы ці грошы шукае нязьменна,
а бліскучую рэшту, зусім бестурботна,
гэтаксама шпурляе ў сьлізкое балота...

### Беларусі

Ёсьць людзі, што ў Цябе і вераць і ня вераць,
якім Ты "сіняю вачэй яшчэ не расьцьвіла".
Іх лёс няласкавы, іх шлях імглісты й шэры.
Ці нам каменьні ў сэрцы іх шпуляць?

Ды ёсьць і іншыя, якіх Ты вылюляла
найшчыршай песьняй матчынай, якіх
карміла лустай жытняю бязмала
да ўчора,
і што сяньня кажуць:
"Кінь!
Якія мы твае, а Ты якая наша?
Цябе няма, Цябе хтось выдумаў на сьмех!"
І вышчараюцца й клянуць Цябе,
а часам
кляччом за горла...
Здрадзе ж не сацьмець!

Даруй ім, Краю наш, калі патрапіш,
хай нат прабачаньня для іх няма.
Няхай наш боль, усё змаганьне наша
для іх - пад ногі кінены лахман.

Дзень прыйдзе - Ты сама іх, Маці, пакараеш,
прапаліш роспачай і целы й сэрц кару.
Для нас,
выгнаных сяньня з Краю -
была Ты,
ёсьць
і будзеш,
Беларусь!

### Каб сэрцы Вікінгаў мы мелі

Сягоньня мора колеру, якога
бывае лёд зялёны недзе ля Грамніц.
Урэзаўся ў яго, шукаючы дарогі,
наш параплаў,
а ён -
зьвініць, зьвініць, звініць...
Аб чым?
Што весьціць нам ягоны звон зялёны?
Чаго мы слухаем яго, куды плывем?
Што загубілі мы й чаго шукаем сёньня,
за сонцам імкнучы?
Нязнаны, новы сьвет?
Калісь, напяўшы цяглiцы і кужаль
галодных ветразяў,
імкнулі як і мы,
у далеч Вікінгі...
А зь імі йімкнулі мужнасьць,
і прага тайніцаў, і зьменнай славы дым.
Каб сэрцы Вікінгаў і ў нас званамі білі,
мы б завярнулі ветразі тут, зараз,
на усход.
Туды, дзе у крыві, у роспачы зацьвілай
і сьлёзы і душу ўжо выплакаў народ.
Ды мы ня Вікінгі...
О, Новы Край,
як гулі
спыніўшы, хваля нас да порту прыжане,
будзь нам прытулкам цёплым і утульным,
але ня Бацькаўшчынай,
не!

### Хоць мы лісты

Хоць мы лісты, што восеньскі віхор,
разгойдаўшы, мяце па далячынях сініх, -
Карэньні нашыя ўліліся у падзол
радзімай глебы, і таму -
ня гінем.

Ня выкарчаваць нас сякерай ці агнём,
сталёвай сеткай укавалі мы суглінак.
Калі вярнуць - вярнеце нас зь зямлёй,
Із спадчынай дзядоў,
інакш яе ня кінем.
Адно, ці стане ёй, Радзіме, на гады
жывой вады й пажывы для згалелых?
І ў восеньскім лісьці хтось, вецер мо, шасьціць:
Трывайце...
З вамі я...
Адзіны лёс мы дзелім.

# ДАРАГАЯ СЯБРОЎКА

У верасьні гэтага году Натальлі Арсеньневай споўнілася б сто гадоў. На маю думку, яна была адным з найвыдатнейшых, найвялікшых беларускіх паэтаў усіх часоў. Моц яе духу, інтэлект і глыбіня пачуцьця ўвасобіліся ў дасканалых мастацкіх вобразах, у непаўторным стылі - наколькі простым, настолькі ж элегантным і вытанчаным.

Але разгляд паэтыцкай творчасьці Натальлі Арсеньневай пакінем літаратуразнаўцам, а сеньня я хацела б нагадаць пра шматбаковыя сувязі паэткі зь беларускім грамадзтвам Канады, а таксама распавесьці пра апошнія месяцы яе жыцьця.



Калі ў 1965 г. у Таронце паўстала Задзіночаньне беларускіх жанчын Канады, мы запрасілі Натальлю Арсеньневу быць ганаровай сяброўкай гэтай арганізацыі, на што яна ласкава пагадзілася. Паэтка жыла недалёка за мяжой, у Рочастары, і досыць часта прыяжджала ў Канаду на разнастайныя беларускія імпрэзы, на Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якія ладзіліся ў Таронце.

У лютым 1969 г. мы арганізавалі літаратурную вечарыну Натальлі Арсеньневай, якая адбылася ў памяшканьні Беларускага рэлігійна-грамадзкага цэнтру. На гэтую імпрэзу сабралося ўсё беларускае грамадзтва Таронта, прайшлі й нашыя сябры-ўкраінцы. Прамоўцы гаварылі аб творчасьці нашай выдатнай паэткі-сучасьніцы, рэцытавалі яе вершы. А потым гаварыла сама паэтка. Аповед аб уласным жыцьці пераплятаўся зь вершамі. Але дзе сканчаўся верш, а пачыналася невершаваная паэзія гутаркі, ледзь можна было прыкмеціць. Жанчыны пахліпвалі, былым жаўнерам і скаўтам блішчэлі вочы. Нават неўгамонныя дзеці, вычуваючы незвычайны настрой бацькоў, заціхлі... Гэтая вечарына запомнілася мне на ўсё жыцьцё.

Памятаецца таксама і прыезд Натальлі Арсеньневай у Канаду ў 1980 годзе. Тады ЗБК шырока сьвяткавала тысячагодзьдзе дзяржаўнасьці Беларусі, і паэтка афіцыйна адкрывала наладжаную з гэтай нагоды мастацкую выставу.

Калі ў нас зь Вінцуком узьнікла думка пабудаваць беларускі памятны Крыж у Канадзе, у прошчы пакутнікаў *"Martyr's Shrine"*, Натальля Арсеньнева горача падтрымала гэтую ідэю і ўсяляк дапамагала нам яе зрэалізаваць. На мэмарыяльнай бронзавай шыльдзе, прымацаванай да Крыжа, увекавечненыя словы першае й апошняе страфы яе геніяльнага верша "Магутны Божа". Пясьнярка прысутнічала пры асьвячэньні Крыжа, якое адбылося ў 1988 г., падчас 18-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Натальля Арсеньнева апела гэтую гістарычную падзею ў вершы "Крыж":

Як вокам скінуць -
Сьцяг пушчаў сініх...
За пушчай далеч, яшчэ сіней...
А тут на ўзвышшы стаіць над намі
Наш Крыж прыгожы, маўляў у сьне...

За год прыйшоў час першага паломніцтва да беларускага памятнага Крыжа. Прыехала з Рочастару Натальля Арсеньнева, але ня стала ўжо ейнага сябра, кіраўніка пабудовы Крыжа Вінцука Жук-Грышкевіча. 14 лютага 1989 г. "Кон запыніў Яго кіўком рукі", як пісала паэтка ў сваім разьвітальным зь ім вершы. На гэтым скончылася сяброўства Натальлі Арсеньневай зь Вінцуком, а ўзмацнілася яно між ёю і мной. Ужо разам з Натальляй мы рыхтавалі для прошчы ў Мідлэндзе беларускія малітоўныя карткі. Паэтка зрэдагавала ў цяперашняй беларускай мове малітву Францішка Скарыны з "Малой падарожнай кніжкі" і зрабіла пераклад малітвы да паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў з ангельскай на беларускую мову.

Кожны год у чэрвені перад паломніцтвам да Крыжа Натальля Арсеньнева прыяжджала да мяне ў Бэры на тыдзень. Прыяжджаў і айцец Аляксандар Надсан зь Лёндану. Кожнай раніцы ў нашай сталовай перад сьвятымі абразамі Ўкрыжаваньня і сьв. Эўфрасіньні Полацкай ён адпраўляў літургію. Тады маліліся мы й за супакой душ сьв. пам. Францішка Кушаля і Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Ішлі гады... І з году ў год з тым самым энтузіязмам і запалам прыяжджала Натальля ў паломніцтвы: другое, трэцяе, чацьвертае, пятае, і здавалася, што так будзе заўсёды...

Але гэта толькі здавалася. Прыйшоў час, і Натальля кажа: "Не магу прыехаць, нешта нездаровіцца". "Нічога, Наталка, - кажу, - на наступны год прыедзеш". Прыйшоў 1996 год, набліжаецца 8-е паломніцтва, у часе якога мае быць асьвячаны помнік памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. У тэлефанічнай гутарцы гаворым пра гэта з Натальляй Арсеньневай. Ізноў яна кажа: мусіць, не змагу прыехаць... Ізноў яна перадае паломнікам свае прывітаньні і шкадаваньні, што ня можа быць разам з намі. Паломнікі пераслалі ёй потым свае вітаньні на падпісанай усімі ўдзельнікамі паштоўцы з выявай беларускага Крыжа.

юбілей

# Пісьменьнік, гісторык, патрыёт

У лістападзе інтэлігенцыя Беларусі адзначыла 120-годзьдзе вядомага палітыка, грамадзкага дзеяча, пісьменьніка, гісторыка Вацлава Ластоўскага.

Ён прыйшоў на сьвет 8 лістапада 1883 г. (па новым стылі) у засьценку Калесьнікаў (сёньня Глыбоцкі раён Віцебскай вобласьці), у сям'і Юстына Ластоўскага. Апынуўшыся ў Рызе ў 1906 г., далучыўся да беларускага нацыянальнага руху, навязаўшы кантакты з адзінай на той час айчыннай партыяй - Беларускай сацыялістычнай грамадой.



У 1909 г. Ластоўскі перабіраецца ў Вільню - тагачасную сталіцу беларушчыны. Пяць гадоў ён працуе сакратаром у рэдакцыі газэты "Наша ніва". На бачынах "НН" Ластоўскі зьмяшчае замалёўкі з гісторыі Беларусі, і ўжо праз год, у 1910 г. выходзіць асобным выданьнем яго "Кароткая гісторыя Беларусі". Праца - кампіляцыйная, аднак у ёй зь беларускіх нацыянальных пазыцый быў выкладзены погляд на падзеі мінуўшчыны. (Дадамо, што ў 1992 г. факсімільнае перавыданьне гэтае кнігі карысталася вялікім попытам у Менску).

У 1914 г. грымнула Першая сусьветная вайна. Праз год у Вільню прыходзяць кайзэраўскія войскі, зачыняецца "Наша ніва". Ластоўскі разам зь іншымі дзеячамі-беларусамі робіць захады перад акупацыйнымі ўладамі наконт выданьня газэтаў па-беларуску, заснаваныя выдавецкае таварыства, піша школьныя падручнікі, а таксама ўдзельнічае ў працы Віленскае беларускае рады, якая ў сакавіку 1918 г. уліваецца ў Раду Беларускае Народнае Рэспублікі. Ён бярэ ўдзел у тым самым гістарычным пасяджэньні Рады БНР (24-25 сакавіка 1918), на якім была абвешчана незалежнасьць краіны.

Немажлівасьць здабыцьця самастойнасьці, абапіраючыся выключна на свае сілы, прывяла ў сьнежні 1919 г. да расколу ў Радзе БНР. Прыхільнікі супрацоўніцтва з Польшчай заснавалі Найвышэйшую Раду, "незалежнікі", добрую частку якіх складала беларускае эсэрства, - Народную Раду БНР, якую ўзначаліў В.Ластоўскі, таксама сябра партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Але празь некалькі дзён польскія ўлады, што панавалі тады ў Беларусі, арыштавалі кіраўніцтва Рады БНР. У пачатку наступнага году Ластоўскі быў вызвалены, аднак неўзабаве польская ўлада зьмянілася савецкай акупацыяй. Давялося ісьці на выгнаньне.

Ластоўскі напачатку пераяжджае ў Рыгу, затым - у Коўна (Каўнас), дзе разам зь іншымі дзеячамі спрычыняецца да стварэньня беларускіх арганізацый. Частка беларускіх эсэраў паверыла камуністам і падтрымала БССР. Ластоўскі не паверыў, застаўшыся на незалежніцкіх пазыцыях. Ён браў удзел у Праскай Першай усебеларускай канфэрэнцыі, якая вызнала Ўрад БНР адзіным беларускім легітымным урадам.

Ковенскі пэрыяд быў вельмі плённы ў жыцьці Ластоўскага. Ён друкуе часопіс "Крывіч", падручнікі, выдае "Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі", "Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" і шмат іншага. Менавіта Ластоўскі быў адным зь першых, хто прапанаваў зьмяніць назву Беларусь (якая і да сёньня на Захадзе атаесамляецца са словам "Расея") на Крыўю/Крывію.

Між тым, у БССР зрабілі ўсё, каб беларусы-выгнаньнікі паверылі ў тое, што за камуністамі можна пабудаваць сапраўдны Беларускі Дом. І савецкая прапаганда дамаглася свайго. Шмат дзеячоў БНР паверыла ў гэта, кінула ўсё і прыехала ў БССР. Сярод іх быў і Вацлаў Ластоўскі (пераехаў у 1927 г.).

Натуральна, што напачатку "айцы БНР" былі ў пашане. Так, Ластоўскі быў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музэю, правадзейным сябрам Інбелкульту, неадменным сакратаром Беларускае акадэміі навук. А ў 1929 г. пачалася барацьба з нацыяналістамі. Ужо ў лістападзе Ластоўскага зьнялі з пасады неадменнага сакратара Акадэміі навук, затым пазбавілі званьня акадэміка. У ліпені 1930 г. яго арыштавалі па справе "Саюзу вызваленьня Беларусі" і праз год выслалі на пяць гадоў у Саратаў (Расея).

Па вызваленьні Ластоўскі ўладкаваўся ў аддзел рэдкай кнігі тамтэйшага ўнівэрсытэту. Але доўга папрацаваць не пасьпеў.

23 студзеня 1938 г. Вацлаў Ластоўскі "як агент польскай выведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі" быў прысуджаны да расстрэлу.

Падрыхтаваў Алег ГАРДЗІЕНКА

---

Вацлаў ЛАСТОЎСКІ

# ПРЫВІД

Ігнат ляжаў на печы і думаў аб сваёй паганай долі. У хаце было цёмна, жонка і дзеці спалі. Думаў Ігнат аб людзкіх дастатках і ўсёй душой пажадаў іх сабе. Аж тут раптам расступіліся сьцены, і сьвятло заліло хату. Ігнат пачаў углядацца, асё ж здалёку на белай хмарцы плыве да яго нейкая паня. Ігнату ўсё гэта дужа дзіўным здалося, і ён занямеў. А тым часам зданьне прыплыло да самага чэрана і станула. Цяпер Ігнат зблізка акуратна разгледзеў, што гэта грэцкая багіня, якую нядаўна бачыў нарысаванаю ў нейкай кнізе, толькі чыста забыўся, як завуць яе. На галаве багіня мела залаты вяночак, адной рукой прыдзержывала багатую сваю вопратку, зусім не падобную да нашай, а ў другой мела грамадны рог, поўны грошы, дарагіх каменьняў і ўсялякага багацьця. Ігнату зрабілася страшна, але маўчаў і ждаў, што далей будзе.

Багіня ласкава ўсьміхнулася да Ігната і павітала яго гэткімі славамі.

- Вітай, Ігнат, на зямлі прадзедаў тваіх! Ты думаў аба мне, і я вось прыходжу, каб надзяліць цябе ўсялякім багацьцем. Хачу зрабіць гэта праз памяць на тваіх прадзедаў, каторых некалісь-то я знала. Даўно было гэта... Бачу, у вас цяпер тут край голы, а калі я тут бывала з сваімі людзьмі, многа ўжо сот лет таму назад, бары тут, лясы шумелі. Нашы людзі прыяжджалі да вас на караблях і лодках па дарагі бурштын, бабровыя, кунічныя і саболія скуры; на замен яны прывозілі вам бронзавае аружжа і літыя прыкрасы, маляваныя урны і рэзаныя фігуркі, каторыя вашы людзі стараліся падрабляць; няскладна ішло ім, але перараблялі ўсё на свой спосаб. Здольны народ быў, прадзеды вашы. Іх работа сьпярша была грубая, але мела ў сабе зачаткі арыгінальнай красы. Вы цяпер недзе папярэдзілі сваіх вучыцялёў, вашы майстры недзе даўно ўжо вытварылі сваю штуку. Цяпер, можа, ужо вашы купцы возяць іншым народам на прыкрасу свае вырабы, каб прамяняць іх на залаты пясок... Ці так? - усьміхаючыся, спытала багіня.

Ігнат маўчаў, нічога не разумеючы з гэтай гутаркі. Багіня, не даждаўшыся адказу, далей цягнула.

- Даўныя часы гэта, ах, даўныя... Тады ў вас тут дзіч была, нашы людзі прымусілі перайсьці з каменнага да бронзавага веку. Праўда, рабілі яны гэта не дзеля вас, але каб самім разбагацець на дарагіх вашых таварах, каб на старасьць жыць у багацтве, піць віно з залатых кружак на ложах з слановай косьці, за сярэбранымі сталамі, сярод панадных дзяўчат, пры тонах арфы... Дзяўчаты вашы славіліся красой, дорага плацілі за іх у Афрыцы. Дык нашы людзі кралі дзяўчат вашых. Яны заманівалі іх на берагі рэк, раскладаючы ўздоўж берага розныя ўборы і дарагія саматканы, і калі дзяўчаты вашы прыходзілі паўзіраціца на дзівы гэтыя, самі адны, без мужчын, то нашы людзі хапалі іх і, не зважаючы на крыкі, вязалі і хавалі на дно лодак, лічучы ў думках, колькі залатых колец возьмуць за іх у Эгіпце.

Посьле вашы старшыны і мужы перанялі збыткоўнае жыцьцё ад скіфаў, і нашы людзі пачалі дастаўляць вам збыткоўныя тавары: міра і ладан, дарагія каменьні і бісэр, чорнае дрэва і слановую косьць. А ўжо і ў народзе пачала будзіцца душа. Вашы дзяўчаты і хлопцы танцавалі дзіўныя рытмічныя танцы на ігрышчах, каторыя ўстраівалі сабе пад голым небам, над ракой ці возерам, вашы сьляпцы-лірнікі складалі багатырскія песьні і расьпявалі іх на трызнах і ваенных банкетах. Але гэта быў зачатак. На цяперашніх ігрышчах, пэўна, дзяўчаты вашы пяюць і танцуюць, як музы, а вашы лірнікі сваімі казкамі багоў абваражыць могуць? - пытала багіня.

Ігнат, шырока раскрыўшы вочы, маўчаў і... не разумеў нічога. А багіня далей казала:

- О, помню гэты сьветлавалосы народ: мужы, як дубы, усе высокія, стройныя, а гордасьці колькі было ў сьветлых вачах іхніх. Благі тавар з іх быў на нявольнікаў: запраданыя ў няволю, уміралі моўча, бо ня важыліся пахіліць галоў сваіх перад чужой воляй... Вашы прадзеды волю любілі, уміралі, пазбаўленыя волі, зь іменем народу, роду свайго і зямлі сваёй на вуснах... Нешта зь бясьсьмертных багоў было ў пэставе і вачах прадзедаў вашых...

Багіня задумалася, а посьле, быстра зірнуўшы на Ігната, ужо іншым тонам пытала:

- Але чаму ж гэта, ваша, патупляеш свае вочы?

Ігнат разумеў, што тут выпадае нешта адказаць, але ня мог дабраць слова. Зь перапалоху ляскаў зубамі і таптаўся на месцы.

Багіня змоўкла, зь няверай аглядаючыся на Ігната. Той чухаўся ў патыліцы і ўсё яшчэ сіліўся на адказ.

- Дзіўнае стварэньне!.. Але патурбуйся, ваша, зь печы элезьці! - крыкнула багіня, знаць, заззлаваўшыся.

Ігнат паслушна ссунуўся з печы і, згорблены, памкнуўся да багіні, каб пацалаваць у руку ёй. Але багіня, як апараная, адскочыла ўбок. І, зьдзіваваная і злосная, крычала на ўвесь голас:

- Хто гэта?! Што гэта?! Хто ты? О, чалавеча, хто ты такі?!

Ігнат чыста зьбіўся з панталыку. Маўчаў.

- Ды хто ты такі, чалавеча, як род і племя тваё завуцца? Хто ты?!

- Я, я... - стагнаў Ігнат, - тутэйшы...

Багіня ад дзіву ажно анямела. А посьле, зьмеркаваўшы, пачала на ўвесь голас сьмяяцца:

- Ня ведае, бедны, як назваць сябе... Абывацель ня знае племені-роду свайго, ня знае назовы зямлі роднай, каторая ўзрасьціла яго, у каторай зложаны косьці бацькоў і дзядоў... Ха... ха... А ткі гэта патомак тых паўбагоў, паўгеркулесаў... Такі самы вус бялявы, такія самыя вочы; толькі ў вачах не гордасьць, але рабства, нявольніцтва празірае, не адвага і сьмеласьць, а страх у гэтай усёй фігуры, гатовай заўсёды да паклону... Божа мой, колькі рабства!.. Не, чалавеча, лішне многа ў табе рабскага... Негрыцянскі нявольнік больш захаваў у сабе гордасьці, чым у цябе, чалавеча, асталося... Бачу, як праз доўгія вякі пагляд твой плюгавіўся пакорай, галава паклонамі, вусны лізаньнем рук нячыстых... Няволя затуманіла памяць тваю, забыўся ты людзкой назовы сваёй і гэтым сьцёр ты зь ліца свайго знамя людзкое... Не, чалавеча, скарбы мае рассыплю перад табой толькі тады, як ты прыпомніш імя людзкое сваё, калі прабудзіцца ў табе адвага і гордасьць... А цяпер бывай здароў!

І багіня, сеўшы на хмарку, аддалілася, а ў той час у хаце сышліся сьцены і зрабілася цёмна. Ігнат, пастаяўшы крыху, паскрэбаў з адной і з другой стораны галаву, сплюнуў і, узьлезшы на печ, ізноў заснуў.

1910 г.

---

# НАТАЛЬЛЯ

Прыйшла зіма і вясна 1997 г. Звоніць унучка паэткі Ната й кажа: "Благая вестка: баба ўпала, зламала сьцягно і руку. Цяпер яна ў шпіталі". Ната падала нумар тэлефону, куды можна было званіць да бабулі. Падумала я сабе: палом сьцягна дабра не варожыць. Вінцук на чацьверты дзень пасьля такое прыгоды памёр. Сэрца ня вытрымала. Але Натальля Арсеньнева мела моцнае сэрца й, як здавалася, зялезнае здароўе. Неўзабаве пасьля апэрацыі звоніць ізноў унучка й кажа: "Добрая вестка! Баба ўжо можа стаць на свае ногі й зрабіла некалькі крокаў. За тыдзень, лекар казаў, пойдзе дамоў".

Званіла я ў шпіталь. Натальля гаварыла пра сваё гора й цяжкасьці, але спадзявалася на добрае. Вярнулася дамоў і памаленьку стала пры дапамозе апірышча хадзіць. А думкі ейныя ўсьцяж кружылі вакол зьяўленьня ў "Запісах БІНІМу" ейнага перакладу на беларускую мову паэмы Гусоўскага "Песьня пра зубра" й выхаду ў Менску кнігі ейнай творчасьці. Ды, як тое бывае, бяда паганяе бяду. Да ўсяго гора паэтка траціць зрок. Шукае ў лекараў дапамогі, а тыя нічым ня могуць суцешыць. Бядуе мне па тэлефоне, што з вачамі няма направы. "Няўжо яно так і застанецца, няўжо я зусім асьлепну?!"І ўсё ж Натальля ня траціць надзеі. І думкі не дапускае, што гэта, можа, прыходзяць ёй канцы... Церпіць болі ў паломах і цемнату ў вачох. "Але фізычныя болі я магу пераносіць, - кажа мне, - найцяжэй з духовымі. Чуюся такая самотная і пакінутая прыяцелямі й сябрамі. Здаецца мне, што я адна на ўсім цалюсенькім сьвеце. Ніхто не пазвоніць... Што чуваць зь Нью-Ёрку?"

"У Нью-Ёрку амаль нікога не засталося, - кажу ёй. - Шмат хто з тваіх сяброў і калісьнейшых супрацоўнікаў адышоў ужо ў лепшы сьвет". Кожны раз, як скончаем гутарку, яна дзякуе, што яе не забываю, і просіць далей не забываць. Званіла я да яе кожную суботу, а пасьля і часьцей.

Прыходзяць лісты зь Беларусі, Натальля ня можа даць на іх адказу. Просіць мяне напісаць зацемку ў "Беларус" пра ейную трагічную сытуацыю. Зацемка мела водгук. Галена Скурат з Канады піша да мяне і да Натальлі цёплыя лісты, запэўнівае паэтку ў нашай да яе пашане і любові.

Прыйшлі цёплыя сонечныя дні, паэтцы яны вельмі даспадобы. "У нас сёньня такі цудоўны дзень! На душы лягчэй, толькі вось нічога ня бачу. Бачу толькі зарысы стала, крэсла, і што нехта стаіць. Болей нічога. Па галаве ходзяць усьцяж фразы, рыфмы... Пісала б, каб бачыла..."

Пазьней Натальля пачала наракаць на вялікае аслабленьне, казала, што нічога есьці ня можа. Ізноў візыта да лекара, ізноў дасьледаваньні й ізноў благая навіна. 25 чэрвеня дактары паставілі ёй страшны дыягназ: рак, які ўжо разышоўся па ўсім целе. Засталося два, тры месяцы жыцьця, сказалі.

"Што рабіць?! - пытаецца Натальля ў мяне. - Засталося мне толькі тры месяцы!" Кажу ёй: "Дзякуй Богу за такое доўгае і творчае жыцьцё. Ты пакінеш па сабе не абы-які сьлед. Усё, што ты напісала, застанецца назаўсёды. Цешся і дзякуй Богу за гэта!" Натальля прызнае, што пражыла амаль 95 гадоў, але гэта ніякае для яе не апраўданьне, што за тры месяцы яна павінна памерці. Не, хоць цела слабее, ды дух дамагаецца жыцьця!

Цяпер я старалася тэлефанаваць да яе часьцей. Паэтка стала моцна слабець, і гутарыць ёй зрабілася цяжка. Пазваніла я неяк, слухаўку узяў сын. Пытаюся, ці магу пагаварыць зь ягонай мамай. Ён кажа: "На жаль, не, мама надта слабая. Ня можа ўстаць, падысьці да тэлефона".

"Перадайце ёй, калі ласка, ад мяне прывітаньні і маю да яе любоў", - кажу. "Пачакайце," - адказвае Ўладак. Па нейкім часе, калі ўдалося ім там перанесьці тэлефон да ложка, слабенькім голасам адазвалася Натальля. Зь цяжкасьцяй вымаўляла яна слова за словам. "Не забывай!.." - былі яе апошнія словы, ейная апошняя просьба.

"Цябе, Наталка, я моцна, моцна люблю й ніколі, ніколі цябе не забуду", - былі мае апошнія словы да яе жывой. Я ведала, што гэтым я абяцала ёй прыехаць на пахавіны. Хто ведае, можа яна пра гэта і прасіла?.. Пазваніла я празь дзень ці два. Сын сказаў, што мама ў шпіталі, у коме. А ў пятніцу, 25 ліпеня, роўна месяц пасьля злавеснага дыягназу, пазваніў Уладак і сказаў, што мама памерла ў 5 гадзін раніцы. Вечны ёй супакой!

Абяцала я спадару Кушалю паведаміць аб сьмерці Арсеньневай беларускае грамадзтва Канады і перасլаць вестку ў ЗША. Пазваніла ў Лёндан айцу А.Надсану, які адслужыў паніхіду. Замовіла кветкі, і на другі дзень, у суботу, выехала ў Таронта, а стуль у нядзелю зранічкі накіравалася аўтобусам у Рочастар. А другой гадзіне дня была я ўжо ў пахавальным доме, дзе між кветак у дамавіне спачывала цела мае дарагое сяброўкі Натальлі Арсеньневай. На твары яе ляжалі супакой і дастойнасьць. Над целам Натальлі я прачытала паніхіду (у перакладзе на беларускую мову а. Аляксандра Надсана). Гэтак калісь дома ў Пружанах суседзі зьбіраліся чытаць бесьперапынна малітвы над целам нябожчыка. Малілася я за яе і дзякавала Богу, што дазволіў мне ў гэты апошні час быць зь ёю - нашай паэткай Натальляй Арсеньневай. І было ў мяне такое адчуваньне, што моцны дух Натальлі з намі, кіруе намі і кажа:

"Цяпер, пазбыўшыся зьнішчанага жыцьцём і хваробай цела, я вольная і мацнейшая, як калі!"

Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ

